


# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 7(114) Сьнежань 2003 December Год выд. 11.


## Вясёлых Калядаў і Шчасьлівага Новага 2004-га году

жадае Ўсім чытачам газэты — выдавец і рэдактар.





*Нараджэньне Тваё, Хрысьце Божа наш, асьвяціла людзей сьвятлом розуму. Бо тыя, што служылі зоркам, зоркаю ж былі навучаныя пакланяцца Табе, Сонцу праўды, і ведаць Цябе, Усходзе з вышыняў. Госпадзе слава Табе!*



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Уладзімір АРЛОЎ** «Народная Воля»

# Дзьве Беларусі: выбар за намі...

Якія б, часам амаль ідылічныя карціны ні спрабавалі маляваць нашы "дзяржаўныя мужы" і іх сэрвільныя сродкі масавай інфармацыі, неаспрэчным фактам з'яўляецца глыбокі раскол сучаснага беларускага грамадства. Сёння існуюць, па сутнасці, дзве Беларусі. Кожная - са сваімі духоўнымі каштоўнасцямі і ўяўленнямі пра будучыню краіны. У кожнай - свая мова, свая сімволіка, сваё бачанне гістарычнага шляху нацыі...

У маім жыцці мне не сустракалася армян, якім трэба было б тлумачыць, што стваральнікам іх алфавіта і першым перакладчыкам Біблії на армянскую мову быў Месроп Маштоц. Я не ўяўляю літоўца, які не ведаў бы свайго асветніка і першадрукара Марцінаса Мажвідаса. І ў той самы час колькі не самых узнёслых хвілін перажыў я неяк ў маім родным Полацку, калі побач з помнікам Францішку Скарыну вырашыў правесці немудрагелістае сацыялагічнае даследаванне. Пад выглядам турыста, што прыехаў здалёк, я спрабаваў высветліць у прахожых, чым жа знакаміты гэты бронзавы чалавек з кнігаю ў руках.

Якіх толькі адказаў ні давялося выслухаць! Ад няўпэўнена-абачлівага "вучоны" да проста анекдатычнага: "Кажется, какой-то партизан". Але было і суцяшэнне: большасць тых, хто не разгубіўся, складалі людзі маладыя, а то і зусім юныя. Якраз яны цвёрда ведалі, што Скарына падараваў беларусам першую друкаваную кнігу на роднай мове. Хтосьці мог дадаць, што выданні Скарыны ўбачылі свет на некалькі дзесяцігоддзяў раней, чым за тую самую справу ўзяўся расійскі першадрукар Іван Фёдараў. А хтосьці нават паведаміў, што Фёдараў, як і ягоны паплечнік Пятро Мсціславец, - таксама нашы суайчыннікі-беларусы...

Сталася так, што неўзабаве пасля таго калега - беларускі пісьменнік, які жыве ў Таронта - даслаў мне выразкі з канадыйскай прэсы, прысвечаныя сенсацыйнай перамозе нашай нацыянальнай зборнай над шведамі на апошнім алімпійскім хакейным турніры. Якраз тады Беларусь упершыню па-сапраўднаму зацікавіла жыхароў радзімы хакея, і тамтэйшыя журналісты вырашылі пацікавіцца ў сваіх чытачоў, дзе ж знаходзіцца гэтая загадкавая краіна. Канадыйцы бадзёра "перасоўвалі" яе то ў глыбіні Лацінскай Амерыкі, то ў нетры Азіі. Найбліжэй да праўды апынулася дзяўчына, якая назвала Беларусь суседкай Партугаліі...

З гэтай нагоды можна, вядома, толькі яшчэ раз сумна ўсміхнуцца. Але ці не лепей усё ж кожнаму з нас задаць сабе няўтульныя пытанні? Хто ж вінаваты ў тым, што нашу дзяржаву часам спрабуюць знайсці на карце паўднёвага паўшар'я? А можа, вінаваты трэба шукаць зусім побач? Ці ведаем, па гамбургскім рахунку, мы самі, дзе гэтая краіна - Беларусь? Менавіта краіна, а не месца жыхарства. Ці ўмеем мы ёю ганарыцца? Ці вядомы нам яе каардынаты? Не геаграфічныя, а нязмерна больш важныя - гістарычныя, бо мінулым народа ў вялізнай ступені прадвызначаецца ягоная гістарычная перспектыва. І калі нацыянальная гісторыя для безлічы беларусаў па-ранейшаму "terra incognita", каго ў гэтым вінаваціць?

Не выключаю, што напісанае мною камусьці падасца ўжо не раз чутым і знаёмым, але, як зазначыў некалі Гётэ, праўду неабходна зноў і зноў паўтараць, бо штодня з д'ябальскай настойлівасцю і вытанчанасцю прапаведуецца няпраўда. Прычым сказана гэта было яшчэ задоўга да з'яўлення электронных СМІ, магчымасці якіх у маніпуляванні грамадскай думкай мы, беларусы, ведаем, магчыма, як ніхто іншы ў сучаснай Еўропе. Гэта - па-першае.

Па-другое, зноў і зноў сутыкаешся з фактамі, калі нашы вядомыя і, здавалася б, адукаваныя (само становішча абавязвае) суграмадзяне публічна дэманструюць, далікатна кажучы, гістарычную недасведчанасць. Вось дэпутат дэмакратычнай арыентацыі дзеля хвосткага параўнання згадвае ў інтэрв'ю татара-мангольскі прыгнёт, ад якога нібыта пакутавалі некалі нашы продкі (хоць, адрозна ад расійскіх, старажытныя беларускія землі гэтага прыгнёту не ведалі). Вось заслужана папулярны на радзіме і за мяжой выканаўца нашых старадаўніх песняў раптам на канцэрце пачынае тлумачыць, што наступная, рэкруцкая песня, створана беларусамі ў эпоху Пятра I... Такой жа эпохі ў нашай нацыянальнай гісторыі проста не існавала (бо мы жылі тады, дзякуй Богу, ва ўласнай дзяржаве), як не існавала да захопу Беларусі Расіяй і рэкруцкага ярма.

Па-трэцяе, мы з'яўляемся сведкамі яшчэ адной, найноўшай спробы цынічнага рэдагавання як далёкай, так і зусім блізкай гісторыі ў афіцыйных выданнях, падручніках, энцыклапедыях. Зазірніце, да прыкладу, у выдадзены ў 1999 г. 9-ы том "Беларускай Энцыклапедыі", дзе ў артыкуле пра Курапаты паведамляецца, што там, паводле адной з версій, "ляжаць ахвяры фашысцкага генацыду". І, на ўсялякі выпадак, - ні слова пра колькасць ахвяраў, якую ў 1995 г. энцыклапедычны даведнік "Беларусь" ацэньваў на падставе дакументаў дзяржаўнай камісіі ў 30-100 тысяч чалавек. Чаму ж не назваць гэтыя вусцішныя лічбы? Пагатоў, калі за іх нясуць адказнасць фашысты? А таму, што ў даведніку "Беларусь" (які, дарэчы, чамусьці ні разу не перавыдаваўся і даўно стаў рарытэтам) адназначна паведамлялася, што ў Курапатах людзей знішчалі забойцы ў форме НКВД. Выдатна вядома гэта і рэдактарам 9-га тома, але загад ёсць загад...

Пакіну за межамі сваіх нататкаў разгляд самага свежага па часе выхаду навучальнага дапаможніка па гісторыі Беларусі, створанага сціплым магілёўскім выкладчыкам Я.Трашчанком, што як умеў выкладаў некалі свой прадмет студэнту А.Лукашэнку. (Пра ўклад тав. Трашчанкі ў гістарычную навуку ўжо шмат напісана прафесійнымі слугамі Кліо). Заўважу толькі, што згаданы навучальны дапаможнік чамусьці зноў і зноў прыводзіць мне на памяць падручнік, па якім я вучыўся ў часы дарагога Леаніда Ільіча.

Тыя грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якім цяпер блізу трыццаці гадоў і болей, напэўна, памятаюць да непрыстойнага тонкую кніжку пад назвай "История БССР", якая трапляла ў партфелі надзвычай рэдка, бо вывучалася пераважна самастойна, у якасці не надта абавязковага дадатку да "Истории СССР".

Якімі "ведамі" ўзбагачала дзіцячы розум тая прымітыўна афармленая і напісаная суконнай моваю кніжэнцыя? Даверлівы вучань мог даведацца, напрыклад, што нашых продкаў вечна нехта заваёўваў і прыгнятаў: спачатку літоўскія феадалы, потым польскія (пра расійскіх памешчыкаў гаварылася ў крыху іншай танальнасці - усё ж прадстаўнікі "старэйшага брата"). Падручнік паведамляў, што Беларусь была цёмнай і непісьменнай ускраінай царскай Расіі (хоць дакументы першага ўсерасійскага перапісу 1897 г. сведчаць, што сярэдні паказчык валодання "грамотой" у беларускіх губернях складаў 32,6, а агульнаімперскі - 28). Вучань мусіў, як "Ойча наш", засвоіць, што да 1919 года, калі адбылося абвяшчэнне БССР, беларусы не мелі сваёй дзяржаўнасці, як быццам не існавала ні магутнага Полацкага княства, ні Вялікага княства Літоўскага, дзе на працягу некалькіх стагоддзяў панавала беларуская культура, а беларуская мова была дзяржаўнай. (Таму, дарэчы, ніяк нельга пагадзіцца са Святланай Алексіевіч, якая ў сваім нядаўнім інтэрв'ю "Комсомольской правде" сцвярджала, што частку гісторыі беларусы, пазбаўленыя "свайго часу", пражылі ў нейкім "літоўскім". Напраўду гэта продкі сучасных літоўцаў у тыя стагоддзі жылі паводле "беларускага часу". (Іншая рэч, што пераважная большасць сучасных беларусаў - не па сваёй віне - не ведае, што іх продкі з гонарам называлі сябе ліцвінамі, а сваю краіну - Літвой, а назвы "беларусы" і "Беларусь" у сілу гістарычных калізій і перыпетый канчаткова замацаваліся за нашай зямлёй толькі ў XX стагоддзі.)

Натуральна, на старонках вытрыманага ў падобным духу падручніка наіўна было б шукаць простую згадку пра знакамітую асветніцу Еўфрасінню (яе імя адсутнічала нават у 5-томнай акадэмічнай "Гісторыі БССР") або, да прыкладу, пра не менш выдатнага палітыка Льва Сапегу, справы якога некалі натхнілі пяро Фрыдрыха Шылера. Бо самім фактам свайго існавання асобы такога маштабу імгненна перакрэслівалі створаны аўтарамі і заказчыкамі падручніка вобраз лапцюжнага забітага краю, што расквітнеў толькі пад сонцам "Великого Октября".

Асобныя імёны, зрэшты, цалкам "засакрэціць" было немагчыма, і тады пра жыццё і подзвігі тых, каму яны належалі, прамаўлялася неяк мімаходзь, быццам скрозь зубы. Так, быў такі Скарына, друкаваў кнігі... Але хіба маглі "ваяўнічыя атэісты" дараваць гуманісту, што ён выдаў не што-небудзь, а Кнігу кніг - Біблію? А ці можна было дапусціць, каб вучань ці студэнт ганарыўся, што дзякуючы Скарыну беларусы атрымалі друкаваную Біблію на роднай мове раней за расійцаў і украінцаў, за палякаў і літоўцаў, за сербаў і балгараў, за французаў і англічан?..

Страшнай крамолаю прагучалі б поўныя велізарнага здзіўлення, павагі і спачування развагі службоўца Брытанскага Біблійнага таварыства Уайзмана, напісаныя ім пасля наведвання ў 1925 г. Вільні. "Беларусы,- уражана занатаваў ён у сваёй справаздачы, - адзін з першых народаў, якія надрукавалі Святое Пісьмо на сваёй мове. Гэта было ў 1517 г., за восем гадоў да першага друкаванага выдання па-англійску. Можна ўявіць, кім беларусы былі б цяпер, калі б перасцярог і ўціск не прывялі іх да заняпаду". Такія словы (вядомыя і сёння, на жаль, толькі вузкаму колу спецыялістаў) у нашых навучальных дапаможніках цяжка было прысніць у самым светлым сне. Затое ў адным са сваіх выдадзеных у Маскве універсітэцкіх падручнікаў мы маглі прачытаць, што "в Белоруссии дело Ивана Фёдорова продолжил Франциск Скорина". (Заўважу ў дужках, што Фёдараўскі "Апостал", першая датаваная друкаваная кніга ў Расіі, выйшла на 47 гадоў пазней за Скарынаў "Псалтыр".)

Спасцігнуўшы "навуку" па такіх, з дазволу сказаць, падручніках, выпускнік школы ці інстытута разам з атэстатам або дыпломам атрымліваў і комплекс гістарычнай, а значыць, і нацыянальнай непаўнавартаснасці. Яму спадарожнічала глыбокае перакананне, што сапраўдная гісторыя вяршылася недзе ў туманнай далечы, а на роднай зямлі вякамі не адбывалася нічога прыкметнага. Памятаю, што ў школьныя гады мяне з аднакласнікамі некалькі разоў вазілі ў пушкінскае Міхайлаўскае і ў цяперашні літоўскі Тракай (некалі нашы Трокі) з яго славутым замкам, але экскурсіі па гістарычных мясцінах роднага Полацка мы так і не дачакаліся. Затое сталі сведкамі таго, як у 1964 годзе проста на вачах у нас, полацкіх хлапчукоў, сабор святога Стэфана, велічны помнік архітэктуры віленскага барока, быў ператвораны ў курадымныя руіны. Праз шмат гадоў у гарадскім архіве я знайшоў пастанову аб узнагароджанні герояў таго злачынства ганаровымі граматамі і аб выдаткаванні з гарадскога бюджэту 40 тысяч рублёў "на вывоз мусора". Наша спадчына, наша памяць, цудоўны храм, які разам з Сафійскім саборам утвараў непаўторны гістарычны сілуэт горада, называліся на іхняй мове "мусором". Дадам, што вядомы савецкі дысідэнт генерал Грыгарэнка ў сваіх успамінах напісаў, што якраз у Беларусі, на старажытных храмах Полацка і Віцебска, у тыя гады адпрацоўвалася Масквой новая, "прагрэсіўная" методыка знішчэння архітэктурных помнікаў.

Ці магчыма па-сапраўднаму палюбіць зямлю, якую не ведаеш?

Тым не менш будзе надзвычай наіўна сцвярджаць, што прычынай гістарычнага бяспамяцтва вельмі значнай часткі (калі не пераважнай большасці) сучасных трыццаці-, сарака-, пяцідзесяцігадовых беларусаў з'яўляюцца толькі дрэнныя падручнікі і савецкая сістэма адукацыі.

Памятаць пра тое, што мы, беларусы, - народ з еўрапейскім мінулым, яшчэ зусім нядаўна было проста небяспечна. Бо, па гістарычных мерках, можна сказаць, толькі ўчора штоначы гучалі стрэлы ў Курапатах, а нашы бабулі яшчэ маглі ўпотай паказаць нам занядбаныя магілы тых, хто са зброяй у руках адважваўся бунтаваць "за волю" пад сцягамі Каліноўскага.

Аднак адказ на пытанне, чаму для безлічы нашых суграмадзян гісторыя па-ранейшаму пачынаецца ў часы, калі піва каштавала трыццаць з нечым капеек, трэба шукаць яшчэ глыбей.

Ці кожны з нас, сучаснікаў, гатовы ўпэўнена сказаць: "Гэта наша краіна! Гэта наша зямля!" Сказаць і жыць у адпаведнасці са сваім перакананнем? Не сакрэт, што нехта дасюль перакананы, што гэта, як пісалі царскія гісторыкі, "искони русские земли", а нехта яшчэ і цяпер ўслед за "заходнім вучоным" (згадаем актуальных і ў XXI стагоддзі Купалавых "Тутэйшых" мяркуе, што тут польскія "крэсы".

Мне чамусьці ўяўляецца, што нашых продкаў, якія жылі стагоддзяў за пяць да нас, падобныя праблемы не займалі. У іх сапраўды была свая зямля і свая дзяржава, якую яны ўмелі любіць і абараняць. Яны мелі свае ўласныя законы, сабраныя ў самы перадавы ў тагачаснай Еўропе кодэкс - Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года. Нашы гарады жылі паводле магдэбургскага права на самакіраванне, а ўзровень іх матэрыяльнай культуры, як паказваюць гістарычныя дакументы і археалагічныя знаходкі, быў не ніжэйшы, чым дзе-небудзь у Францыі ці Галандыі. Маючы дыплом аб заканчэнні гістарычнага факультэта, я далёкі ад ідэалізацыі мінулага, аднак у навукоўцаў сапраўды ёсць падставы называць той час "залатым векам" нашай гісторыі.

Але знаходжанне на скрыжаванні еўрапейскіх шляхоў, амбіцый і інтарэсаў не абяцала краіне спакойнай будучыні. XVII стагоддзе ўвайшло ў хронікі найперш крывавым патопам. У распачатай маскоўскім царом Аляксеем Міхайлавічам чарговай вайне (1654-1667 гг.) за "искони русские земли" Беларусь страціла болей за палову жыхароў - палеглымі ў бітвах, памерлымі ад голаду, перасяленымі (такіх было каля 300 тысяч) у Расію. У абсалютных лічбах гэтыя страты выглядалі наступным чынам: з 2 мільёнаў 900 тысяч жывымі засталіся каля 1 мільёна 350 тысяч, а на ўсходзе Беларусі не ацалела і трэцяй часткі насельніцтва. Як

піша даследчык тых падзей Генадзь Сагановіч, вайна як быццам падмяніла нашу зямлю. Іншым зрабілася практычна ўсё - ад умоў жыцця да нацыянальнага генафонду. Беларусы амаль цалкам пазбавіліся сваёй эліты, гараджанаў, прадпрымальнікаў. А сялянскаму народу ўздымацца да нацыянальнай кансалідацыі было неверагодна цяжка.

Ці не ў той эканамічнай, культурнай, дэмаграфічнай катастрофе хаваюцца вытокі шмат якіх нашых сённяшніх нацыянальных комплексаў і бедаў?

Тым больш, што драма працягвалася.

Амаль кожны трэці загінуў у Беларусі на пачатку XVIII ст. у гады Паўночнай вайны, якую цар Пётр I знарок імкнуўся весці на чужой для яго беларускай зямлі. (За 250 гадоў да згаданага вышэй знішчэння сабора св. Стэфана ў Полацку прагучаў яшчэ адзін жудасны выбух: якраз у дзень адыходу з горада расійскага войска - дзіўнае супадзенне! - узнік пажар у сутарэннях Сафійскага сабора, ператвораных "саюзнікамі" ў парахавое сховішча.) Шэсць месяцаў вайны Расіі з Напалеонам забралі яшчэ мільён беларусаў, кожнага чацвёртага... (Дарэчы, нам даўно трэба ўсвядоміць, што для Беларусі тая вайна, у адрозненне ад усходніх суседзяў, не была Айчыннай. Шырокія слаі насельніцтва звязвалі з Банапартам надзеі на аднаўленне Вялікага княства. У беларускіх палках Вялікай арміі французскага імператара ваявалі не менш за 25 тыс. нашых суайчыннікаў.)

Велізарныя страты абяскроўлівалі народ, пазбаўлялі яго энергіі і волі супрацьстаяць паланізацыі, а затым русіфікацыі. Не было сіл, здольных спыніць непрыхаванае рабаванне культурнай спадчыны. На праведзенай у Мінску ў 1997 годзе пад эгідаю ЮНЕСКО міжнароднай канферэнцыі па праблемах рэстытуцыі была афіцыйна агучана страшная лічба: наша краіна валодае сёння толькі адным (!) працэнтам сваіх культурных і гістарычных каштоўнасцяў. У бясконцым спісе гэтых страт і неацэнная нацыянальная рэліквія - Крыж святой Еўфрасінні Полацкай, які знік у 1941 годзе і апынуўся, мяркуючы па апошніх звестках, у Расіі.

Далёкія і блізкія суседзі расцягвалі не толькі нашы матэрыяльныя скарбы. У іншыя культуры найчасцей вымушана (бо беларускую як народа са сваёй мовай і культурай некалькі стагоддзяў афіцыйна не існавала) сыходзілі незлічоныя таленты. Прызнаюся: калі я зноў і зноў чытаю пералікі вядомых імёнаў, што Беларусь дала свету, мяне апаноўваюць складаныя пачуцці, у якіх гонар знаходзіцца далёка не на першым месцы. Мне значна цікавей шукаць і знаходзіць у гісторыі іншыя прыклады: тых, каго свет даў нам, каго Літва-Беларусь, нягледзячы ні на што, уцягвала ў магічнае поле сваёй культуры. Так, як славутага спевака Джузэпе Ахіла Эльміра Банольдзі, барселонца па нараджэнні, італьянца па крыві, ліцвіна па духу, паўстанца 1863 года...

Апрача ўсяго іншага, нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і кансалідацыі перашкаджалі рэлігійныя праблемы. Сярэднявечная Беларусь была краем, што даваў прыклад мірнага суіснавання розных канфесій. Адрозна ад шмат якіх еўрапейскіх краін нашы продкі не ведалі рэлігійных войнаў або падзей кшталту парыжскай Варфаламееўскай ночы. На пляцах гарадоў і мястэчак у нас побач стаялі праваслаўная або уніяцкая царква, каталіцкі касцёл, сінагога, а часам і мячэць. Аднак суседнія дзяржавы і найперш Расія, прэтэндуючы на беларускія землі, пачалі выкарыстоўваць шматканфесійнасць у сваіх мэтах. Асаблівых поспехаў дасягнуў тут усходні сусед. Дэклараваная абарона рэлігійных правоў "адзінакроўных" беларусаў была толькі падставай для шматразовага ўзброенага ўмяшання ва ўнутраныя справы дзяржавы нашых продкаў. Пасля ж інкарпарацыі Беларусі царская адміністрацыя распачала сапраўдную вайну з грэка-католікамі, або уніятамі. У 1839 годзе царкоўная Унія, прыхільнікамі якой было тады каля 80% беларусаў, была гвалтоўна скасаваная. Пра жорсткія пакаранні і здзекі з беларусаў-уніятаў з абурэннем пісалі ў свой час Леў Талстой і Аляксандр Герцэн. Разам з прымусовым вяртаннем да "истинной" веры продкам убівалася ў галовы формула: "праваслаўны - рускі, католік - паляк". Такім чынам беларусаў таксама пазбаўлялі будучыні, адводзячы ролю этнічнага матэрылу, пастаўшчыка сваіх багаццяў і талентаў іншым. Згаданая формула дажыла ў свядомасці пагрозліва вялікай часткі грамадзян да нашых дзён...

Расійскія ўлады планамерна вытоптвалі на нашай зямлі ўсё самабытнае, роднае, беларускае. У тым самым 1839 годзе, калі была знішчана Унія, прыдворны гісторык Устралаў у сваёй "Русской истории" ацэньваў нашу мову і старажытнае пісьменства: "Белорусское наречие, господствовавшее в Литовском княжестве, представляло безобразную смесь слов и оборотов русских, польских и латинских". Асобна "безобразной" в глазах царского "вучонага" выглядала лаціна, на якой некалькі стагоддзяў пісала і гаварыла ўся адукаваная Еўропа. (Каб канчаткова зняць праблему, пазней цар-"вызвалілель" Аляксандр II забараніць выкарыстоўваць у беларускім друку лацінскі шрыфт, а затым накладзе агульную забарону на беларускае друкаванае слова.)

Падрыхтаваўшы глебу забаронай народнай веры, якой па сутнасці было уніяцтва, Санкт-Пецярбург зрабіў новы ўдар па нацыянальным быцці нашага народа - у 1840 годзе адмысловым царскім указам у афіцыйных дакументах было забаронена ўжываць назвы "Беларусь" і "Літва", замест якіх уводзілася найменне "Северо-Западный край". Роўна праз тыдзень выйшаў указ пра скасаванне дзеяння на гэтай тэрыторыі Статута ВКЛ. Датычныя Беларусі ўказы і пастановы імперскіх уладаў стракацелі словамі "забараніць", "зачыніць", "не дазволіць". Асаблівая ўвага надавалася адукацыі. Закрыццё Полацкай акадэміі, Віленскага універсітэта, Горы-Горацкага земляробчага інстытута... Забарона выкладання не па-расійску. Забарона вучням размаўляць у навучальных установах на роднай (не расійскай) мове.

Жорсткую імперскую палітыку нацыянальнага ўціску падтрымлівалі і віталі, як ні горка прызнаваць, і "ўладары дум" перадавога расійскага грамадства. У адказ на паведамленні еўрапейскага друку пра расправы з удзельнікамі вызваленчага паўстання 1831 года і іх сем'ямі Пушкін адгукнуўся вядомым вершам "Клеветникам России":

Что возмутило вас? волнение Литвы?
Оставьте: это спор славян между собою.
Домашний старый спор, уж взвешенный судьбою...

Адметна, што гэтыя радкі, апрача ўсяго астатняга, сведчаць: абараняючы імперскія інтарэсы, Аляксандр Сяргеевіч не сумняваўся, што гістарычная Літва - славянская краіна...

Ва ўсе часы бацыламі вялікадзяржаўнага шавінізму былі заражаны і расійскія дэмакраты. (Сёння для абсалютнай большасці з іх існаванне незалежнай Беларусі таксама ўспрымаецца як нейкі гістарычны казус, які трэба выправіць.) Някрасаў, як вядома, прысвяціў душыцелю нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі Мураўёву-вешальніку цэлую оду, дзе ўслаўляў яго такімі словамі:

Бокал заздравный поднимая,
Еще раз выпить нам пора
Здоровье миротворца края!
Так много ж лет ему. Ура!

Звяртаючыся да прадстаўнікоў беларускага дваранства, "миротворец" Мураўёў казаў: "Забудьте наивные мечтания, занимавшие вас доселе, господа, и помните, что если вы не станете здесь по своим мыслям и чувствам русскими, преданными Отечеству, то вы будете здесь иностранцами и должны тогда покинуть этот край". Як быў бы ўсцешаны царскі сатрап-русіфікатар, каб здолеў зазірнуць у нашу цяперашнюю рэальнасць! Зачыняюцца беларускія газеты, практычна цалкам знішчана беларускамоўнае тэлевяшчанне, у нацыянальную ганьбу ператварылася шматгадовае валаводжанне з адкрыццём помніка Скарыну ў Мінску. Савет міністраў прыняў пастанову аб ліквідацыі адзінага ў краіне, а значыць, і ў свеце, Беларускага гуманітарнага ліцэя... Справа Мураўёва не прапала, яе працягваюць тыя (дакладней - той), хто ёсць прадукт намаганняў мураўёўцаў розных гатункаў і эпох. Я перакананы, што калі б мы ўжо мелі Беларускі нацыянальны універсітэт, за стварэнне якога зацята змагаецца грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны", то гэты універсітэт напаткаў бы лёс Беларускага ліцэя. Адзіная розніца палягала б у тым, што, напэўна, зачынялі б alma mater не пастановай Саўміна, а ўказам прэзідэнта.

Але глыбока памыляецца той, хто ўбачыў у гэтых маіх нататках песімізм і расчараванне. Наша мінулае, якое шматстайна-неадназначна прарастае ў сучаснасці, дае падставы не паддавацца паняверцы. Духоўная энергія папярэдніх пакаленняў не знікае - яна жывіць род і ўвесь народ, дазваляе яму выстаяць у самыя цяжкія пераломныя часы. Таму мы і чуем гаючае ўзрушэнне каля старадаўніх сабораў або на палях славутых ратных перамог. Праўда, зарад гэтай энергіі адчувае не кожны, а толькі той, хто захаваў з продкамі "канал сувязі" - гістарычную памяць.

Існуе міф пра адвечную сонную пакорлівасць беларусаў. Аднак не хто-небудзь іншы, а якраз нашы прадзеды на працягу няпоўных ста гадоў пасля захопу Беларусі царскай Расіяй тройчы - у 1794-м, 1831-м і 1863-м - браліся за зброю, намагаючыся разам з суседзямі - палякамі і літоўцамі - вырвацца са смяротных абдымкаў імперыі, заслужана названай "турмой народаў" і "жандарам Еўропы".

У паўстаннях, як і ў войнах, першымі гінулі лепшыя, тыя, хто лічыў толькі гэтую зямлю роднай і гатовы быў аддаць за яе самае дарагое - жыццё. Лепшыя гінулі на царскай катарзе і ў сталінскім ГУЛАГу. Але, нягледзячы на незлічоныя ахвяры, народ знайшоў у сабе сілы выжыць, выстаяць і, аднавіўшы пры канцы XX стагоддзя сваю дзяржаўнасць, напісаў на карце свету: "РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ".

Магчыма, як ні горка гэта ўсведамляць, мы, сённяшнія беларусы, - дзеці найперш тых, хто здолеў прыстасавацца, навучыўся скарацца, выжываць. Але сярод нашых прадзедаў абавязкова былі і іншыя: тыя, чыё credo "Жыццё - Айчыне, гонар - нікому" сёння мы бачым на іх старадаўніх партрэтах. Дзякуючы якраз ім - мужным, годным, ахвярным, дзякуючы іх пісаным і непісаным запаветам, побач з Беларуссю выпрачэнцаў і гандляроў Радзімай існуе іншая, беларуская Беларусь. Тая, якая захоўвае нацыі і дзяржаве гістарычную перспектыву. Тая Беларусь, якую мы бачылі ў дзень пахавання Васіля Быкава.

Пасля рэферэндуму 1995 года я даў сабе слова, што не адмоўлюся ні ад аднаго запрашэння на сустрэчу з чытачамі, незалежна ад таго, будзе гэта зала на некалькі сотняў месцаў або проста школьны клас з дзесяткам-другім вучняў. З кожным годам трымаць абяцанне робіцца цяжэй і цяжэй. Не зважаючы на перашкоды, а часам і забароны, такіх запрашэнняў і сустрэч робіцца ўсё больш. Тое самае скажуць і мае, на жаль, не вельмі шматлікія калегі-пісьменнікі, што не схавалі, як вядомая птушка, галаву ў пясок і не затаіліся, як не менш вядомая істота, пад венікам. Я ніколі не шкадую тых гадзін а то і дзён, на якія адрываюся ад пісьмовага стала. Бо ў школах, універсітэтах, бібліятэках (а часам, у выніку пільнасці мясцовых чыноўнікаў - ледзь не на канспірацыйных кватэрах) я адчуваю, як новая, будучая Беларусь пакрыёма, але няўхільна набірае моцы.

Ужо даўно бадай ніводная такая сустрэча не абыходзіцца без традыцыйных пытанняў: "Як выхаваць дзіця беларусам? Як пачаць гаварыць па-беларуску? Куды павезці сына ці дачку, каб яны на ўсё жыццё запомнілі, адкуль наш род?" "Беларускае" тэлебачанне, дэманструючы гэтым найперш сваю правінцыйнасць, пераходзіць на расійскую, а студэнты, будучыя медыкі, у тыя самыя дні прысылаюць мне за адзін вечар адразу некалькі пытанняў пра тое, як пераадолець псіхалагічны бар'ер і загаварыць па-беларуску. Як адважыцца на гэта ў незнаёмым асяроддзі?

Калісьці, у свае студэнцкія гады, я сам пераадольваў гэты бар'ер. Я таксама імкнуўся стаць беларусам, каб здзейсніцца як асоба, каб пражыць сваё, а не чужое жыццё. Потым мы з жонкай выхоўвалі беларусамі сваіх сыноў, часам сутыкаючыся з неразуменнем нават блізкіх сваякоў. Таму мне ёсць што адказаць сваім чытачам. Я кажу ім, як важна, каб дзіця чула сваю мову з першых дзён жыцця. Потым малое вырасце і будзе ведаць іншыя мовы, але тая, на якой гаварылі продкі, ужо па-свойму запраграмуе ягонае жыццё. Я пытаюся ў маладых маці, якія песні яны спяваюць сваім дзеткам, якія казкі расказваюць...

Калі мы марым пра іншую Беларусь, ствараць яе трэба пачынаць у сям'і, у сяброўскім коле, з каханай і каханым. Еўрапейская будучыня нашай краіны залежыць ад таго, якая мова гучыць у нашым асяроддзі, якія кнігі мы дорым нашым дзецям і сябрам, якія святы адзначаем за сямейным ці рэстаранным сталом, які маршрут выбіраем для падарожжа на выхадныя. У мяне дагэтуль у памяці радасная акрыленасць, якую перажыў у юнацтве дзякуючы раману Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім". Я да апошніх дзён буду памятаць, як на пачатку 1980-х упершыню, яшчэ таемна, 25 сакавіка святкаваў разам з сябрамі Дзень Волі. А якім дзівосным акном у загадкавы, шматфарбны і гераічны свет нашай гісторыі сталіся юначыя вандроўкі ў Гародню, Мір, Навагрудак!.. Днямі, міжволі, зрэагаваўшы на беларускую мову, падслухаў на вуліцы размову двух юнакоў. "А на якой мове ты гаворыш у ложку?" - запытаўся адзін. - "Крыўдзіш, - адгукнуўся другі. - Ты лепей скажы, звазіў ужо сваю Касю ў Нясвіж?" Ці трэба казаць, што мне адразу зрабілася на гэтым свеце цяплей, утульней і крыху спакайней?

Логіка нацыянальнага мыслення фіксуецца ў роднай мове і сілкуецца гістарычнай памяццю. Без іх - мовы і гісторыі - немагчыма беларускае светабачанне, сьветаразуменне і сьветаўяўленне. Іншымі словамі, бязмоўны і бяспамятны не здольны зразумець, што такое нацыянальныя інтарэсы. Бязмоўны і бяспамятны не запраграмаваны на жыццё ў сваёй незалежнай дзяржаве. Ён належыць да той самай этнічнай масы, у якую нас ужо не без поспеху імкнуліся ператвараць - каб мець працавітыя "людскія рэсурсы" і надзейных салдат у імперскіх авантурах.

Якую будучыню рыхтуе сваім дзецям той, хто, жывучы ў Беларусі, выхоўвае іх па-за межамі мовы, гісторыі гэтай зямлі? На жыццё ў якой краіне ён праграмуе сваіх нашчадкаў? У той, дзе гадамі не плацяць заробкаў, дзе "мочаць у сарцірах", дзе штодня прыходзяць труны з Чэчні?

Дзвесце гадоў, з тых часоў, калі Беларусь апынулася ў кіпцюрах двухгаловага арла, нам забаранялі глядзець на свет уласнымі вачыма. Бо каланізацыя - не проста захоп тэрыторыі. Як вельмі дакладна адзначае філосаф Алесь Анціпенка, каланізацыя - гэта палітыка ментальнага, інтэлектуальнага і культурнага падпарадкавання "тубыльцаў", якім мэтанакіравана прышчапляюцца патрэбныя метраполіі комплексы. У выніку выяўляецца, што ёсць "культурная" расійская мова і "некультурная" беларуская. Ёсць багатая і слаўная "История великой России", і ёсць яе сумны і нецікавы падраздзельчык пад назваю "история Белоруссии"... Ці не з'яўляецца сённяшні бацькоўскі клопат афіцыйных вярхоў пра "дзяржаўную ідэалогію" вынікам разумення, што грамадства пакутліва, але няўхільна пазбаўляецца ад посткаланіяльнай закамплексаванасці, і ў такім працэсе "наша" ўлада бачыць страшную небяспеку?

Гістарычны лёс нашай краіны склаўся так, што яна ніколі не будзе монакультурнай, гэтаксама, як ніколі не будзе монаканфесійнай. АЛЕ ТУТ - БЕЛАРУСЬ. Мы, беларусы, далі гэтай зямлі і гэтай дзяржаве імя і здабылі ёй незалежнасць. Цяперашняя ўлада груба парушае менавіта нашы нацыянальныя правы, ставячы пад сумнеў само існаванне нацыі (згадайма, колькі разоў з вуснаў не суседскіх, а "сваіх" вышэйшых дзяржаўных асобаў мы чулі, што "русские и белорусы" - один народ). Для нас Радзіма - святое. Для яе, улады, Беларусь толькі тэрыторыя, дзе яна пакуль адчувае сябе больш-менш упэўнена і беспакарана.

На гэты выклік мы павінны адказаць узмацненнем пазіцый нашай, беларускай Беларусі. Ці навучыліся мы, прыхільнікі незалежнага, дэмакратычнага і заможнага жыцця ў Еўропе, выхоўваць дзяцей, жыць самім у адпаведнасці з гэтымі марамі і ідэаламі? Ці навучыліся быць грамадзянамі краіны з уласнымі, а не пазычанымі ў суседзяў героямі, са сваімі звычаямі і святамі, са сваёй мовай і непаўторнай культурай? Краіны з еўрапейскай гісторыяй, якая з'яўляецца нашым пропускам у еўрапейскую будучыню?

*************************************

# Самы вялікі пакутнік і змагар

Анатоль **МЯСНІКОЎ** /Звязда/

Язэп Лёсік... Калі задумваешся над жыццёвым шляхам гэтага чалавека, міжволі задаеш сабе пытанне: «За што?!». За што выпаў яму такі лёс (не за тое ж, што «лёс» і «Лёсік» — аднакарэнныя словы)?

Ён сядзеў у турме і быў у ссылцы пры ўсіх палітычных рэжымах, падчас улады якіх жыў, працаваў, дзейнічаў і змагаўся... Пры царскім, нямецкім (кайзераўскім), польскім, а пры савецкім — ажно два разы! Ужо сам гэты факт сведчыць аб неардынарнасці і непаўторнасці і характару Язэпа Юр'евіча, і яго грамадзянскай пазіцыі і поглядаў у тагачаснай абстаноўцы. І, тым не менш, чым жа не дагадзіў ён тым уладам — законным і акупацыйным, такім процілеглым па мэтах, праграмах, задумах, планах, здзяйсненнях?..

Вядомы дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння, мовазнавец, пісьменнік і публіцыст Язэп (Іосіф) Юр'евіч Лёсік нарадзіўся 6 лістапада 1883 года ў вёсцы Мікалаеўшчына цяперашняга Стаўбцоўскага раёна. Вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, Ноўгарад-Северскім гарадскім вучылішчы. Працаваў выкладчыкам Бабруйскай сельскагаспадарчай школы, настаўнікам у мястэчку Грамяч на Чарнігаўшчыне. Там і засталі Язэпа рэвалюцыйныя падзеі 1905 года, падчас якіх і вызначыліся далейшыя накірункі яго жыцця, грамадска-палітычнай і навукова-практычнай дзейнасці на карысць роднага беларускага народа. За ўдзел у рэвалюцыйных хваляваннях ён быў вязнем Ноўгарад-Северскай турмы, у якой прасядзеў амаль тры гады. У 1907-м Лёсіка прывезлі на суд у горад Старадуб, аднак праз некалькі дзён ён уцёк з тамтэйшай турмы. Чатыры гады (!) хаваўся ў родных і знаёмых, але зноў быў схоплены паліцыяй і прыгавораны да бестэрміновага пасялення ў Сібіры. На працягу 1911—1917 гадоў Язэп адбываў ссылку ў гарадах Кірэнску і Бадайбо Іркуцкай губерні.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года Язэп Лёсік вярнуўся ў Мінск. Уступіў у Беларускую сацыялістычную Грамаду, стаў адным з лідараў яе правага крыла. У маі—ліпені 1917-га — рэдактар газеты «Вольная Беларусь». Удзельнічаў у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі. 25 красавіка 1918 года разам з групай прыхільнікаў утварэння БНР падпісаў тэлеграму на імя кайзера Германіі Вільгельма II, у якой ад імя Рады БНР заяўлялася аб тым, што будучыню Беларусі яны бачаць «толькі пад апекай германскай дзяржавы». Адбыўся раскол Грамады. У чэрвені 1918-га быў утвораны кааліцыйны ўрад БНР, у якім Я. Лёсік стаў старшынёй Рады: гэту пасаду ён займаў да сярэдзіны 1920 года.

Пасля выгнання белапалякаў з Беларусі (ліпень 1920-га) Язэп Лёсік заявіў аб прызнанні Савецкай улады. Ён поўнасцю адышоў ад палітычнай дзейнасці і сканцэнтраваў усю сваю ўвагу, сілы і здольнасці на навуковай, культурна-асветніцкай і літаратурнай працы. Чытаў лекцыі ў толькі што створаным Белдзяржуніверсітэце, актыўна працаваў у Інбелкульце. 14—19 лістапада 1926 года Язэп Юр'евіч быў адным з ініцыятараў правядзення Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, на якой выступіў з двума асноўнымі дакладамі. У ліку першых яму было нададзена званне правадзейнага члена (акадэміка) Беларускай Акадэміі навук (1929 г.).

Пяру Я. Лёсіка належыць шэраг літаратурных твораў. Аднак найбольш значны след пасля сябе ён пакінуў як мовазнавец. На працягу 1921—1927 гадоў ён апублікаваў восем навуковых мовазнаўчых прац: «Беларускі правапіс», «Школьная граматыка беларускае мовы», «Сынтакс беларускае мовы», «Граматыка беларускае мовы. Фонэтыка», «Граматыка беларускае мовы. Морфолёгія», «Практычная граматыка беларускае мовы», «Наша крыніца (кніга для чытання)», «Пачатковая граматыка беларускае мовы». Асобныя з іх перавыдаваліся па некалькі разоў і па іх, без перабольшання, вучыліся цэлыя пакаленні беларусаў.

За справу беларускага нацыянальнага адраджэння Язэп Лёсік і паплаціўся, як гэта здарылася і з многімі іншымі дзеячамі Бацькаўшчыны ў 20—30-я гады XX стагоддзя. Ганенні на яго пачаліся яшчэ ў 1921 годзе — неўзабаве пасля таго, як ён прызнаў Савецкую ўладу. Тады, падчас выхаду ў свет «Практычнай граматыкі беларускае мовы», газета «Звязда» назвала падручнік... контррэвалюцыйным.




Язэп Лёсік 1883 - 1940

Яшчэ праз тры гады, 28 снежня 1924 года, намеснік паўнамоцнага прадстаўніка АДПУ па Беларускай ваеннай акрузе Іосіф Апанскі накіраваў на імя сакратара ЦК КП(б)Б Аляксандра Крыніцкага дакладную запіску. Мэта яе (дарэчы, падпісана яна «Заместителем Полномочного Представителя ОГПУ по Зап-краю», хоць, як вядома, Заходняга краю ўжо і не было! — Заўв. А. М.) — «дапамагчы» толькі што прызначанаму новаму партыйнаму лідару Беларусі, прысланаму, як і папярэднія, з Масквы, разабрацца ў абстаноўцы ў рэспубліцы. І найперш — у нацыянальнай палітыцы, якая ў той час, як вядома, спавядалася і разгортвалася сапраўды ў інтарэсах беларускай нацыі. Але не: І. Апанскі ведаў, на варце якіх інтарэсаў ён стаяў, таму і стала запіска, «створаная», несумненна, ім асабіста, адным з першых сігналаў вышэйшаму кіраўніцтву аб з'яўленні «ворагаў народа», нацдэмаў, якія, паводле яго цвёрдага пераканання, «представляют из себя попутчиков интеллигентов-шовинистов, вносящих в литературу настроения. чуждые Революции, а иногда и к.-р. (контррэвалюцыйныя. — Заўв. А. М.) тенденции...». Да ліку чатырох найбольш актыўных сярод іх Апанскі аднёс Я. Купалу, Я. Коласа, Я. Лёсіка і З. Бядулю...

Дзякуй Богу, засталіся тыя абвінавачванні без рэакцыі... Аднак усё гэта «нагадалі» Язэпу Юр'евічу ў 1930-м, калі яго абвінавацілі ўсё ж такі ў нацдэмаўскай дзейнасці і выслалі на пяць гадоў у Паволжа. Але і ў 1936 годзе акадэміку не дазволілі вярнуцца на Радзіму. Ён выкладаў рускую мову спачатку на станцыі Элынка каля Навазыбкава Бранскай вобласці, а потым у педтэхнікуме ў горадзе Актарску Саратаўскай вобласці. У 1938-м Я. Лёсіка арыштавалі зноў. А праз два гады яго сям'я атрымала паведамленне аб тым, што беларускі акадэмік памёр ад сухотаў у саратаўскай турме № 2.

Імя і справы выдатнага беларускага акадэміка былі поўнасцю рэабілітаваныя толькі ў чэрвені 1988 года. У маі 1990-га яго аднавілі ў званні акадэміка Акадэміі навук Беларусі. Аднак, на жаль, тое, што ім зроблена, яшчэ невядома нашаму чалавеку і да сённяшняга дня.

А днямі, між іншым, споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Язэпа Юр'евіча!

*************************************************

# У чым корань моўнай праблемы?

*Алена АНІСІМ,*
***Старшыня Мінскай гарадской арганізацыі ТБМ***

Функцыянаванне мовы ў любой дзяржаве залежыць ад некалькіх аспектаў. Найперш – уласнамоўны, які падразумевае стан развіцця мовы, ступень яе развітасці і здольнасць забяспечваць ужыванне на ўсіх сферах жыцця. Акрамя лінгвістычнага, як мінімум два экстралінгвістычныя фактары ўплываюць на развіццё мовы ў грамадстве. Адзін з іх – гэта запатрабаванасць мовы ў грамадстве, яе распаўсюджанасць або працэнт карыстальнікаў мовы ў агульным складзе насельніцтва. Іначай кажучы, наколькі тая ці іншая мова ўжываецца грамадзянамі краіны ў штодзённым жыцці: дома, на працы, у сферы абслугоўвання, на транспарце і г.д. Да гэтых двух фактараў варта дадаць вельмі важны прававы фактар, пад якім трэба разумець, наколькі права кожнага носьбіта карыстацца мовай усюды ахоўваецца адпаведнымі законамі і наколькі гэтыя законы працуюць і выконваюцца ў грамадстве. Ад ступені ўзаемадзеяння гэтых фактараў залежыць паспяховасць функцыянавання той ці іншай мовы ў грамадстве. Аналізуючы любую моўную сітуацыю з улікам гэтых трох фактараў, можна дакладна вызначыць «слабыя» месцы і паспрабаваць ліквідаваць іх з мэтай змяніць сітуацыю да лепшага.

Паспрабуем з гэтага пункту погляду зірнуць на моўную сітуацыю ў нашай краіне.

Фактар першы, або наколькі сучасная беларуская мова?

Наўрад ці знойдзецца хтосьці з прафесіяналаў-філолагаў, хто паставіў бы пад сумнеў здольнасць лексічных, граматычных і іншых сродкаў беларускай мовы забяспечыць сваё выкарыстанне ва ўсіх сферах жыцця краіны. Пра гэта сведчыць наяўнасць мастацкай, даведачнай і іншай спецыяльнай літаратуры па розных галінах навукі і мастацтва. Немагчыма адмаўляць і факт адукацыі некалькіх пакаленняў вясковых беларусаў выключна на беларускай мове. Такім чынам, можна лічыць, што ўласнамоўны фактар у цэлым з'яўляецца станоўчым і не тармозіць, не перашкаджае ўжыванню і распаўсюджанню мовы ў грамадстве. Вядома, у сучасных умовах агульнага сусветнага развіцця, калі змены адбываюцца вельмі імкліва, прыносячы штодня ўзнікненне новых паняццяў і з'яў, даволі складана хутка асвоіць сродкамі беларускай мовы гэтыя новыя паняцці і з'явы, даць ім сваю, нацыянальную беларускую афарбоўку. Аднак гэта праблема не толькі беларускай мовы, але і іншых сусветных моў, за выключэннем, хіба што, англійскай. Таму гэта не можа быць дастатковай прычынай, каб прызнаць беларускую мову як неразвітую або несучасную. Ёсць і яшчэ адно даволі складанае пытанне аб так званых двух варыянтах беларускай мовы: «тарашкевіцы» і «наркамаўцы». Але зноў жа пытанне гэта не толькі чыста беларускае... Ці гавораць на беларускай мове ў Беларусі, або пра фактар запатрабаванасці мовы ў грамадстве.

Неаднаразова даводзіцца чуць выказванні накшталт таго, што ў Беларусі нельга пачуць беларускую мову на вуліцы, у транспарце і г.д. Усё гэта адначасова і праўда? і не. Паколькі гэта, па-першае, суб'ектыўная думка (немагчыма быць адразу ў некалькіх месцах, каб зафіксаваць сітуацыю па ўсёй краіне), а па-другое, крытэрый такой ацэнкі моўнай сітуацыі павінен быць усё ж дастаткова навуковым. Іначай яго нельга прымаць пад увагу. А вось заяўленая пазіцыя грамадзян Беларусі аб прызнанні роднай мовы падчас апошняга перапісу ёсць сур'ёзны факт для таго, каб лічыць гэтую колькасць грамадзян актыўнымі носьбітамі мовы. Менавіта на падставе матэрыялаў перапісу насельніцтва нашай краіны мы можам гаварыць пра рэальную запатрабаванасць мовы ў грамадстве (37,4% грамадзян карыстаюцца мовай штодня). Калі дадаць сюды вынікі сацыялінгвістычных даследаванняў, якія сведчаць пра наяўнасць элементаў беларускай мовы на ўсіх узроўнях маўлення, то ўспылвае лічба 80% грамадзян, якія назвалі беларускую мову роднай. І гэта ёсць рэальны патэнцыял запатрабаванасці мовы ў грамадстве. Каб ён быў паспяхова рэалізаваны, неабходна забяспечыць яму прававую падтрымку.

У чый бок глядзіць Феміда, або ці абараняе закон правы беларускамоўных грамадзян?

На першы погляд, у нашай краіне дастаткова распрацаванае заканадаўства, у тым ліку і па моўных пытаннях. Аднак, што датычыць рэалізацыі правоў беларускамоўных грамадзян у рэальным жыцці, узнікае шэраг праблем. Часткова гэтыя праблемы закладзены ў неадназначнай фармулёўцы закона, а яшчэ часцей – выкліканы нежаданнем большасці чыноўнікаў бачыць і вырашаць гэтыя пытанні. Прыкладам, згодна з заканадаўствам у нашай краіне – дзве дзяржаўныя мовы. Гучыць звышдэмакратычна. Аднак, як неаднаразова зазначаў акадэмік НАН РБ А.І.Падлужны, нідзе ні ў якіх актах не прапісаны статус дзяржаўнай мовы. Магчыма, таму ва ўжыванні дзвюх дзяржаўных моў на практыцы пануе прынцып самавольства і анархіі. Тым больш, што ў адмысловым Законе аб мовах, які павінен быў бы дакладна рэгуляваць моўныя працэсы ў розных сферах гаспадарчага і грамадскага жыцця, ва ўсіх артыкулах утрымліваецца наступная фармулёўка: «на беларускай і (або) рускай мове». Неабавязковасць ужывання мовы тытульнай нацыі, закладзеная ў слове «або», прыводзіць да поўнага не ігнаравання большасцю гаспадарчых суб'ектаў нашай краіны. На ўсе патрабаванні грамадзян забяспечыць ім права атрымання інфармацыі на роднай мове адказныя асобы спасылаюцца на вышэй згаданую фармулёўку і на дзве дзяржаўныя мовы. Такую заганную практыку, якая вядзе толькі да адкрытага супрацьстаяння паміж

грамадзянамі і прадстаўнікамі афіцыйных уладаў, нельга лічыць нармальнай. Найбольш выразна і балюча гэта праяўляецца зараз у сітуацыі з ліквідацыяй Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Бяздушныя чыноўнікі асмеліліся самым непрыстойным чынам і абсалютна беспакарана нанесці ўдар па законных правах маладога пакалення Беларусі. Хто здолее ўзяць сітуацыю пад кантроль і выправіць становішча?

Такім чынам, пры аналізе моўнай сітуацыі ў нашай краіне прыходзіш да несумненных высноў пра тое, што яе сённяшні стан абумоўлены не слабасцю беларускай мовы, не тым, што мову не хочуць ужываць грамадзяне Беларусі, а найперш адсутнасцю сапраўднага заканадаўства, накіраванага на абарону бясспрэчных правоў чалавека, першым з якіх несумненна з'яўляецца права на родную мову. Улічваючы агульную сусветную тэндэнцыю да ўсталявання і развіцця менавіта прававога грамадства, можна прагназаваць, што і ў Беларусі падчас будучых парламенцкіх і затым прэзідэнцкіх выбараў моўнае пытанне стане адным з галоўных палітычных чыннікаў. Але зусім не таму што беларуская мова сама па сабе – гэта палітыка. А па той простай прычыне, што вырашэнне моўнага пытання ляжыць у плоскасці заканадаўства. А вось сфера заканадаўства, як і агульнае прававое (а на сённяшні дзень – хутчэй бяспраўнае) становішча грамадзян, – рэчы безумоўна палітычныя.

************************************************

# Гісторыю літаратуры не трэба блытаць з гісторыяй «каляліттаратурна-палітычных» сімпатый і антыпатый...

Гутарыла **Тацяна ПАДАЛЯК** /Звязда/

Маштаб гэтай працы захапляе і па-добраму здзіўляе. У чатырохтомнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» (у пяці кнігах), што выйшла ў выдавецтве «Беларуская навука», змешчана каля 130 манаграфічных артыкулаў, даследуецца (ці, прынамсі, згадваецца) творчасць больш чым тысячы беларускіх літаратараў, называюцца новыя факты, рэабілітуюцца калісьці «затаптаныя» імёны і творы, ужо з вышыні часу асэнсоўваецца ўся панарама айчыннага літаратурнага працэсу мінулага стагоддзя...

З намеснікам дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, адным з навуковых рэдактараў і аўтарам 8 манаграфічных раздзелаў выдання Сцяпанам ЛАЎШУКОМ мы гутарым не толькі пра асаблівасці фундаментальнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» — разважаем таксама і пра ўплыў часу на спецыфіку літаратуразнаўчых даследаванняў.

**— Сцяпан Сцяпанавіч, калі апошні раз выходзіла гісторыя літаратуры XX ст. і наогул, ці было падобнае акадэмічнае выданне?**

— Акадэмічнае выданне гісторыі беларускай савецкай літаратуры ў двух тамах было завершана... аж у сярэдзіне 1960-х гадоў. Потым з'явіліся два тамы гісторыі дакастрычніцкай літаратуры. У 1977 годзе выйшаў двухтомнік гісторыі беларускай літаратуры на рускай мове: па аднаму тому на савецкі і дакастрычніцкі час.

Даследаванне гісторыі літаратуры — надзвычай працаёмкі занятак. Для таго, каб выйсці на сур'ёзнае, капітальнае навуковае выданне, патрэбна вялікая падрыхтоўчая праца. І яна ў Інстытуце літаратуры ішла бесперапынна, напісана шмат грунтоўных прац — літаратура даследуецца ва ўсіх аспектах. Дарэчы, на гэта скіравана сама структура нашага інстытута: два аддзелы займаюцца гісторыяй літаратуры, ёсць аддзелы тэорыі літаратуры, узаемасувязяў літаратур, выданняў і тэксталогіі. І ўсе супрацоўнікі гэтых структурных падраздзяленняў, як пчолы ў вуллі, прыносілі і назапашвалі новыя факты, прапаноўвалі новыя погляды і падыходы да асэнсавання літаратурнага працэсу. XX стагоддзе ў гісторыі Беларусі было надзвычай складанае. Не паспела пачацца стагоддзе — першая сусветная вайна, яшчэ не залячылі раны — другая сусветная... А колькі ў нас гэтых войнаў было ў сферы духоўнай — яны ж, здаецца, і не спыняліся ніколі. І ўсё страты, страты... І тым не менш гісторыя паказала: які б ні быў складаны перыяд, колькі б страт мы ні панеслі, але за мінулае стагоддзе беларускі народ стварыў цудоўную літаратуру. Фенаменальны выпадак, цяжка знайсці падобныя прыклады ў гісторыі сусветнай культуры: за адно стагоддзе зроблена проста-такі каласальная работа, набыткі не могуць не здзіўляць!.. На працягу чатырох дзесяцігоддзяў я займаўся літаратурай і, безумоўна, ведаю, колькі ўсяго зроблена і на якім высокім узроўні, — але калі мы пачалі пісаць сістэматызаваную гісторыю літаратуры, калі пачалі ўкладваць матэрыял у тую структуру, якую вырашылі скарыстаць, каб рэалізаваць гэты праект, — тады ўсё гэта адкрылася з яшчэ большай яскравасцю.

**— Вы гаварылі пра новыя погляды і падыходы да асэнсавання літаратурнага працэсу — гэта звязана з «пераломнай» сітуацыяй канца мінулага стагоддзя?**

— Зусім не. Нават калі б згаданых вамі падзей пачатку 1990-х і не было, усё роўна адбывалася б пэўнае пераасэнсаванне, «новае прачытанне» ўжо вядомага: гісторыя літаратуры развіваецца па сваіх законах. Хаця, канешне, любая гісторыя не можа быць цалкам аўтаномнай, хто ж будзе спрачацца: жыць у грамадстве і быць ад яго свабодным, незалежным — немагчыма.

**— Скептыкі сцвярджаюць: наша гісторыя ўвесь час перапісваецца — і гісторыя літаратуры перапісваецца разам з ёю...**

— З чаго вы ўзялі, што мы кожны раз перапісваем гісторыю?!. Я ж, наадварот, да гэтага і падводжу — што мы, назапашваючы новыя і новыя факты, узнымаемся на новы ўзровень спасціжэння матэрыялу. Таму што факт — упартая рэч: калі твор напісаны, другім ён ужо не будзе. Канешне, пры змене сацыяльных, эканамічных, палітычных умоў у грамадстве мяняюцца і погляды, гэта непазбежна... Можна пераканацца ў гэтым на самым простым прыкладзе: возьмем добра інкруставаную хрустальную вазу. Пры электрычным асвятленні яна выглядае зусім не так, як пры натуральным святле, сонечным. А калі мы накіруем нейкі каляровы промнік — яна зноў будзе іншай... Вось так і ў грамадстве. Але калі развіваць гэту метафару — спецыяльна, наўмысна ніякіх каляровых «промнікаў» на літаратурны працэс мы не накіроўваем: імкнёмся бачыць яго ў натуральным, сонечным святле.

Гэтым і каштоўная 4-томная гісторыя беларускай літаратуры — што аўтары пісалі менавіта гісторыю літаратуры, а не гісторыю літаратурна-палітычных сімпатый і антыпатый.

**— Сцяпан Сцяпанавіч, бадай што ва ўсе перыяды XX ст. нязменна жыло імкненне «скінуць з карабля сучаснасці» таго ці іншага чалавека. У аўтараў новай гісторыі літаратуры не было такой спакусы — калі не «скінуць», дык проста «не заўважыць», або «пасунуць» кагосьці з карабля гісторыі літаратуры?**

— Адразу скажу: у нас не было ніякіх дыскрымінацыйных падыходаў ні пры выбары персаналій, ні пры атэстацыі гістарычных перыядаў. Гэта вельмі важна, бо калі б мы сталі на шлях кан'юнктурнага адбору, то ў нас атрымалася б не навуковая гісторыя, а проста папуры на тэму гісторыі літаратуры... Хаця, калі ўзгадаць гісторыю, з гэтага, як вы кажаце, «карабля» спрабавалі скінуць прадстаўнікоў літаратуры беларускага замежжа. У новым выданні яны прадстаўлены вельмі грунтоўна. Ёсць агульныя раздзелы, прысвечаныя літаратуры беларускага замежжа, беларускай літаратуры Беласточчыны, — і ёсць тры манаграфічныя раздзелы: Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Алесь Салавей.

Упершыню ў гісторыю нацыянальнай літаратуры ў якасці яе значных здабыткаў і неабходных звёнаў літаратурнага працэсу ўведзена творчасць позна рэабілітаваных таленавітых пісьменнікаў Алеся Гаруна, Францішка Аляхновіча, Вацлава Ластоўскага, Антона Луцкевіча (Навіны). Раней гэтыя аўтары партыйнымі пастановамі былі асуджаны на забыццё па палітычных матывах, што рэзка скажала агульны малюнак культурнага і духоўнага развіцця беларускага народа. А колькі вернута літаратараў, чые імёны (не кажучы ўжо пра творы) нават і не ўзгадваліся: Андрэй Мрый, Язэп Пушча, Лукаш Калюга, Рыгор Мурашка, Міхась Багун, Паўлюк Шукайла, Уладзімір Хадыка, Юрка Лявонны, Аркадзь Моркаўка, Янка Туміловіч, многія іншыя.

Не сакрэт, што ў пачатку 1990-х гадоў назіралася іншая крайнасць: захацелі было скінуць з гэтага «карабля» і прадстаўнікоў так званай афіцыйнай савецкай літаратуры. Мне было дзіўна, што ў гэтую шарэнгу трапілі і некаторыя нашы класікі, без якіх гісторыя беларускай літаратуры была б няпоўнай. Чуліся галасы, што ў гісторыю літаратуры не трэба ўключаць нават такіх яркіх фігур, як Броўка, Лынькоў, Глебка... Разважны сэнс пераможа.

**— А наогул, ці ўзгадваецца «палітычная кан'юнктура» беларускіх пісьменнікаў (калісьці модна было ствараць «сталініяну», «лениніяну» і г. д.)?**

— Нішто не замоўчваецца, аналізуюцца ўсе факты літаратуры. Тыя ж «культаўскія» вершы атэстоўваюцца цвяроза, узважана: гіс-та-рычна! Не ўсё ж і ў гэтых вершах было, як кажуць, «ад лукавага» — было многа і шчырага. І мы гаворым: ёсць прыклады, дзе сапраўды чалавек пісаў на патрэбу дня, толькі для таго, каб надрукавалі, — і ёсць творы, напісаныя ад сэрца, рукою майстра. Я мог бы ўзгадаць дзесяткі так званых культаўскіх вершаў, якія гучаць сакавіта, звонка і... чыста. Гэта не значыць, што мы прапагандуем такую літаратуру. Нават калі напісана шчыра, але прывязана да фальшывых куміраў, да псеўдакаштоўнасцяў, мы не станем уміляцца і апладзіраваць. Але што было, тое было — гісторыю не перапішаш...

Працуючы над новай гісторыяй літаратуры, мы стараліся ўздымацца да гаворкі на ўзроўні творчасці таго ці іншага пісьменніка. Гэта надзейны шлях, іншага не дадзена, бо калі будзем падыходзіць да аналізу твораў з загадзя падрыхтаванымі рамкамі і правіламі, дык не атрымаецца сумленнага навуковага даследавання. Гэта будзе фальшыва, а можа нават і правакацыйна. Бо, перш чым даследаваць літаратуру, трэба яе паважаць. Хаця, шчыра скажу, у працэсе працы ўзнікала нямала складанасцяў. Бярэш адзін перыяд — там свае праблемы, пераходзіш да другога — з'яўляюцца новыя. А трэба, каб была карэляцыя. Паверце, нічога выпадковага няма ў літаратурным працэсе. Без таго, што адбывалася ў 10-я, 20-я, 30-я гады мінулага стагоддзя, зусім іншым быў бы малюнак і сённяшняга дня. Усё гэта трэба было асэнсаваць, прывесці ў сістэму... Мы стараліся не замоўчваць ніводны факт, нават не вельмі выйгрышны ў кантэксце гісторыі літаратуры, — бо імкнуліся ўсё зразумець з вышыні сённяшніх нашых ведаў і дасягненняў.

**— Сцяпан Сцяпанавіч, але ж і сярод навукоўцаў, літаратура- знаўцаў сёння назіраецца «плюралізм думак» адносна адных і тых жа фактаў...**

— У нашым выданні таксама прысутнічае разнастайнасць поглядаў. Як рэдактар, я не імкнуўся і наогул не ставіў задачу ўсё «падчысціць» ды «прычасаць». Безумоўна, гісторыя павінна быць цэласнай, але кожны з аўтараў меў поўнае права — і яно паважалася! — паслядоўна выказаць свае асабістыя думкі, але не адыходзячы ад аб'ектыўных, непалітызаваных ацэнак. Адзначу, што над чатырохтомнай гісторыяй працавалі вядучыя літаратуразнаўцы краіны. Хаця асноўную сілу складалі навукоўцы Інстытута літаратуры, і гэта зразумела: тут сканцэнтраваны асноўныя літаратуразнаўчыя кадры, зроблена больш напрацовак.

Гісторыя літаратуры — дысцыпліна культурацэнтрычная, яна закранае многія пытанні этнаграфіі, фальклору, мастацтвазнаўства, і ўласна гісторыі, і філасофіі, псіхалогіі і г. д. Напачатку планавалі кожны том зрабіць больш сціслым і па аб'ёмах, і па выбару аўтараў: час няпросты, выдаць кніжку цяпер надзвычай складана. Потым падумалі: гісторыя літаратуры пішацца не кожны год і нават не кожнае дзесяцігоддзе — таму не напоўніцу, канешне, але далі той матэрыял і ў такіх параметрах, каб уяўленне аб стане і набытках нашай літаратуры было дастаткова вычарпальным. І мы, здаецца, гэтага дасягнулі. Прыйдуць новыя пакаленні, новыя даследчыкі — яны, магчыма, унясуць нейкія карэктывы... Бачыце, зноў мы вярнуліся да тэмы: дыялектыка жыцця — і дыялектыка літаратуры.

**— Ужо паступаюць водгукі замежных калег на шматтомную гісторыю беларускай літаратуры?**

— Прынамсі, просьбаў з-за мяжы аб набыцці выдання паступае шмат. А нядаўна прайшоў кангрэс славістаў у Любляне (Славенія), спецыялісты найчасцей падыходзілі да беларускага стэнда — з цікавасцю гарталі тамы гісторыі, адзначаючы, што аналагічных фундаментальных прац няма ні ў краінах СНД, ні ў заходніх нашых суседзяў. Гэта радуе, але падстаў для заспакаення не дае. Зараз мы падрыхтавалі «Анталогію даўняй і новай беларускай літаратуры», двухтомную «Гісторыю старажытнай літаратуры» (з XI па XX ст.). Ужо ідзе праца і над дадатковым томам гісторыі літаратуры XX ст., дзе будуць прадстаўлены буйнейшыя сучасныя беларускія пісьменнікі, якія не ўвайшлі ў чатырохтомнік.

************************************************

# Атлас Беларусі ў бібліятэцы Кангрэсу ЗША

Урачыстая перадача гэтага выдання днямі адбылася ў Вашынгтоне. Пасол Беларусі ў ЗША, як паведамляе прэс-служба МЗС нашай краіны, у час яе цырымоніі звярнуў увагу на тое, што Нацыянальны атлас Беларусі з'яўляецца унікальным навукова-даведачным выданнем, упершыню распрацаваным на абшарах СНД.

Кіраўнік дэпартамента геаграфіі і карт бібліятэкі Джэймс Флэтнес з удзячнасцю прыняў падарунак, які, паводле яго слоў, «стане каштоўным укладам у беларускую калекцыю бібліятэкі Кангрэса ЗША».

Супрацоўнікі картаграфічнага дэпартамента бібліятэкі азнаёмілі пасла з калекцыяй карт нашай краіны, пачынаючы з выданняў першай паловы XVIII стагоддзя і да сучаснасці, а таксама з некаторымі літаратурнымі творамі з фонду выданняў па Беларусі ў бібліятэцы Кангрэса. На сённяшні дзень фонд кніг па Беларусі складае больш за 6 тысяч адзінак, найстарэйшыя з якіх адносяцца да пачатку XIX стагоддзя.

Фонды самай вялікай у свеце бібліятэкі Кангрэса ЗША складаюць больш чым 126 мільёнаў адзінак носьбітаў інфармацыі, з якіх 19 мільёнаў кніг, 2,6 мільёна гука- і відэазапісаў, 12 мільёнаў фатаграфій, 4,8 мільёна карт і 54 мільёны манускрыптаў.

Штогадовы бюджэт бібліятэкі Кангрэса за 2002 год склаў 525 мільёнаў долараў. Амаль 80 працэнтаў з гэтай сумы выдаткоўвае федэральны бюджэт, астатнія сродкі паступаюць у выглядзе ахвяраванняў і ў неграшовай форме.

Сакрат ЯНОВІЧ /Беласточчына-Польшча/

# БЕЗ ПАЧУЦЬЦЯ АЙЧЫНЫ НЯМА РАЗЬВІЦЬЦЯ

Папулярнае разуменьне разьвіцьця грамадзтва зводзіцца да матэрыяльных умоў жыцьця. Тыповыя грамадзяне чамусьці не задаюцца пытаньнем сувязі паміж дабрабытам і культураю. Бедныя народы — гэта цёмныя народы, якія ў сваёй масе ня вельмі адукаваныя. Дакранемся тут да квадратуры кола, што дакладна перадае беларуская прымаўка: "Бедны, бо дурны, а дурны, бо бедны".

Давайце пачнем з дэфініцыі культуры як неабавязковай актыўнасьці чалавека. Ад недахопу культуры яшчэ ніхто не памёр, хоць жывецца такому нашмат цяжэй. Людзі кіруюцца наогул жыватом — страўным трактам — што трэба лічыць першабытнай, біялагічна элементарнай, нормай. Вучоныя цьвердзяць: сто тысяч гадоў таму назад ва ўсім сьвеце жыло ня болей аднаго мільёна чалавечых адзінак, на адну выпадала 5-6 квадратных кіламетраў. Быў гэта стан набліжаны да папуляцыі зьвярыных пародаў. Скажам: воўчага ганья.

Наша адрознасьць ад прыроды вынікае з таго, што зьявілася ў нас некалі здольнасьць думаць, першапачаткі якога наглядаем і ў шматлікіх жывёлаў. Няцяжка ўявіць такім-жа колішняга прачалавека, пакуль не ўзьнікла ў ім патрэба праяўляць сваю актыўнасьць ня толькі дзеля ежы. Ад таго гістарычнага моманту зарунелі парасткі культуры, цывілізацыі. Перш паляўніцкай /лук, страла/, затым жывёлагадоўчай, і т.д. Дзякуючы гэтаму людзіны перасталі быць рэдкасьцяй, іх даўгавечча перасягнула жывёльнае, зьвярынае, хоць нават адну тысячу гадоў назад не перавышала яно ў паўдзікіх славянаў — 26 г., а рост крыху за паўтара мэтраў. Параметры таго вышэйшыя ў элітных радзінах з адносна лепшым бытам.

Першапачаткова тая неабавязковая актыўнасьць чалавечага роду цалкам залежыла ад клімату. Праблема ежы, жытла, не ангажавала ўвесь час у цёплых шырынях. Гляньце на карту старажытных уладыцтваў, імпэрыяў, — працягваюцца яны ў паласе высокіх тэмпэратураў, ад Мэксікі і Пэру да Індыі і прыціхаакіянскіх вакольляў. Поўнач ажывілася пасьля, нястрымна імкнучыся асесьці ў паўднёвых цывілізацыях дабрабыту. Цікава, што дзікуны заўсёды пераможна рабуюць, каб потым самім расплысьціся ў выніку асыміляцыі. Яны самі не разьвіваліся; голад не стварае пачуцьця айчыны, бацькаўшчыны. Бо чым-жа можа стацца бацькаўшчына, дзе бяда з бядою. Патрыятызм у галоты не існуе, у яе інстынкт разбою, драпежніцтва.

Патрыятызм — інačай кажучы: айчыннасьць, бацькаўшчына, — гэта ідэалягічная надбудова маемасьці, дабрабыту. Калі так, дык расійскія бальшавікі слушна крычалі: "У пролетариата нет родины!" Бо і якая-ж бацькаўшчына ў галытвы?! Яна ў яе там, дзе хлеб, і можна сытна жыць. Таму т. зв. народ уяўляў сабою ўсяго патэнцыял разьвіцьця, але не само разьвіцьцё, дзеля якога трэба арганізуючага правадырства.

Варта задумацца, чаму маленечкі тэрытарыяльна эўрапейскі Захад, у старажытнасьць зусім без значэньня, ад сярэднявечча прасунуўся ў лідэры сусьветнага разьвіцця /болей таго, стварыў ЗША/. Гаворым пра цывілізацыйны басэйн Ла Манша, даліну Рэйна. І чаму самая вялікая тады імпэрыя, іспанская, у якой ніколі не заходзіла сонца, так мала дала сьвету?! Бо яна, як потым Расія, не разьвівалася ўнутры, а толькі пашыралася. Жыла анэксіямі, менавіта рабаваньнем. Дарэчы будзе тут заўважыць, што не занадта вялікія дзяржавы здатней разгортваюць сваю ўнутраную моц, як тадышнія Англія, Нідэрлянды, Данія, княствы Вэстфаліі; германскія правінцыі, аўтаномныя, на поўначы Францыі. Цяперашнім часам хутка прасоўваюцца дапераду Эстонія, Латвія, Летува /са сваімі вельмі беларусападобнымі натуральнымі ўмовамі/.

Што магчыма адказаць на папярэдніх пытаньні? Не інакш, як тое, што проста відаць нават адным вокам: малая тэрыторыя, то і малыя памылкі, якія няцяжка папраўіць, умомант прыстасавацца да зьменлівай сытуацыі на кантыненце. Гэтую якасьць запрыкмецілі амэрыканцы, мінімалізуючы цэнтральную ўладу і даючы паасобным штатам статус амаль незалежных дзяржаваў уключна з асобнай сімволікай, законадаўствам, устаноўчымі органамі.

Патрыятызм або пачуцьцё айчыны бярэцца з бацькоўскага парога і матчынай скіпкі хлеба, з краявіду дзяцінства. У дарослась гэтае пачуцьцё можа пашырыцца або і не, у залежнасьці ад сямейнага выхаваньня ды адукаванасьці, асяродзьдзя. У малалецтве ўсе мы жарсныя патрыёты, не адступаючыя ад спадніцы мацеркі і смуткуючы за ласкамі бацькі. Асоба канчаткова фармуецца ў чатырнаццаць гадоў, кажуць псыхолагі. Таму так важная пачатковая школа, твой першы настаўнік, настаўніца; іх прыраўноўваем да бацькі-маці. Якія настаўнікі, такая і нацыя. У разьвітых краінах настаўнік зарабляе больш, чым паліцыянт /па гэтым пазнаюць, якая дзяржава паліцэйская/.

У патрыятызме шмат інстынкту гнязда. Але набліжаецца пара сьпеласьці, калі мы не любім заставацца сынком-дачушкаю, жадаецца пераўтварыцца ў нейкага Іванавіча-Іванаўну. Гэта натуральна. На Захадзе васемнаццацігодкі жывуць асобна ад бацькоў, набываючы дасьведчаньня самастойнасьці. Ну, але там лёгка з грашыма і паводле нашых мерак зарабляюць яны ў пяць разоў больш за нас. Хоць цэны ў нас ужо эўрапейскія, іхнія.

У заходніх людзей пачуцьцё айчыны зрастаецца з іх асабістым характарам. Не чуваць пра мільённыя эміграцыі амэрыканцаў, канадыйцаў, ангельцаў, немцаў, швэдаў, французаў, швайцарцаў і інш. У ЗША амаль на кожным жылым будынку лунае дзяржаўны сьцяг, а з увагі на сваю англамоўнасьць, яны пастаянна зазначаюць у гутарцы з чужаземцам амэрыканскую нацыянальнасьць. Або немцы: новы жыхар Нямеччыны атрымлівае ўсякія палёгкі дзеля таго, каб найхутка змог загаварыць па-нямецку. Абавязковыя — напрыклад — курсы беларускай мовы для дарослых далі-б той-жа скутак...

Ставім тэзу: патрыятызм немагчымы ў галодных народаў. У іх няма чаго шанаваць і з чым вязацца. Гучыць тое — і слушна і лягічна, што пацьвярджае сапраўднае засільле працоўнай эміграцыі ў заходнеэўрапейскім напрамку. Эміграцыі надта шкоднай айчыне, выпалоскваючай з яе самы актыўны грамадзкі элемент. Недарэкі не эмігруюць.

Разьвітаньне з радзімай, натуральна, не разьвівае яе, а наадварот, увекавечвае стагнацыю. У Паўночнай Амэрыцы апынулася амаль утрая больш ірляндцаў, чымсьці засталося ў самой Ірляндыі. Падобным чынам — блізу палова летувісаў. Або трацiна палякаў; калі прыгледзецца да традыцыйна занядбаных рэгіёнаў Польшчы, акажацца, што там ужо дэмаграфічная пустыня з "сохнучымі" гарадамі. Цывілізацыйная катастрофа яе Ўсходняй сьцяны, што між Віслаю і Бугам ды гродзенскай Свіслаччу.

Гэтага зьніштажальнага трэнду не паўстрымае прыбой капіталу, па той банальнай прычыне, што ня будзе каму "ўліваць" яго. Грошы не дзейнічаюць, бы той дух сьвяты; трэба актыўнага маладога грамадзтва, а не канаючых па вёсках бабульдзядуляў. Экалёгію эканомікі можна сплякыць на працягу аднаго пакаленьня, усё роўна як вырубаць старадаўнія лясы, на адраджэньне якіх спатрэбіцца потым сто гадоў; г. зн. пяць пакаленьняў. Вопыт асваеньня рускімі Сібіры ўвачавідкі тлумачыць нам, што без укаранелага ў ёй чалавека ня будзе там толку, а ўсяго хаатычная, каляніяльная. эксплуатацыя Божых дараў.

Без пачуцьця айчыны няма разьвіцьця. Гэтае пачуцьцё ня ёсьць простым інстынктам гнязда. Патрэбна высокая ідэя. Ідэя айчыны, нацыі. Стражнікі сібірскіх лагероў адзначалі, што найбольш стойка пераносілі розныя пакуты "националисты" і каталікі /уніяты/. Мерлі, як мухі, камуністы, бальшавікі, бо глуміла іх, родная ім, сыстэма. "Националисты" трымаліся, гэта было ім змаганьнем з ворагам. Фронт!

Патрыёт або паводле савецкага вызначэньня: нацыяналіст, ня схопіцца за ўтопію шчасьця ўсяму чалавецтву, у якой "чувство родины — сущая ерунда". Расійская месіянства, займаючыся цэлым зямным шарам, не канцэнтруецца на росквіце Расіі, трактуючы яе як трамплін сабе. Прыдуманае падаўстрыйскімі чэхамі славянафільства мела на мэце зусім ня тое, што "все словянские ручьи сольются в русском море". Яны разлічвалі пакарыстацца маскоўскім імпэрыялізмам у вызваленьні сябе ад нямецкае дамінацыі.

Ва ўсходнеэўрапейскіх умовах асабліва, пачуцьцё айчыны раўназначнае нацыянальнай ідэі. Эканамічны нацыяналізм ня мае тут істотных падставаў, акрамя Эстоніі ды Латвіі з пасьлянямецкім радаводам. Тутэйшыя постсавецкія дзяржавы не вырозьніваюцца матэрыяльнай забясьпечанасьцю, усюды расійская бядотнасьць. Можна сказаць: гістарычна абумоўленая. Куды прыходзіла Расія, туды звалакаліся ўсялякія няшчасьці. Таму, што адбывалася гэта ў парадку анэксіяў, далучэньня. У цывілізацыйным сэнсе Расія не ўяўляла сабою партнёра, канкурэнта, эўрапейскім уплывам, што букварна наглядалася ў падзеленай некалі Польшчы. Нават паншчыну ў паднямецкіх яе частках ліквідавана блізу адначасна з інтэграцыяй у Аўстрыю і Прусію. Прынамсі асабістую залежнасьць ад пана. Мужыкі ў Царстве Польскім жылі бясправна аж да ўзыходу на імпэратарскі прастол Аляксандра II.

Нацыяннльная ідэя, а ўсьлед за ёю пачуцьцё бацькаўшчыны зьяўляюцца не раней, чымсьці пашырэньне ў народзе адчуваньня лепшага лёсу ў выніку вызваленьня ад этнічна чужое ўлады. Спачатку яно надта элітнае, інтэлектуальнае. Яе, ідэі, эмбрыён можа не вырасьці ў жывы арганізм, калі не паспрыяе натуральнае асяродзьдзе, або калі прадчасная. Нацыянальная ідэя — гэта імкненьне да ўласнага лепшага. У тым яе ўнівэрсальная каштоўнасьць. Нацыя і нацыянальная дзяржава як верхавіна дынамікі этнасу, пасьля чаго мае месца пераход у глябальныя структуры. Этнасу, які не высьпеў у нацыю, застаецца ў сучасным хуткаплынным сьвеце вэгетацыя на перыфэрыі.

Ратунак у пачуцьці айчыны, у патрыятызме. Гэта альтруістычнае пачуцьцё; неэгаістычны стан духа. Само лацінскае паняцьце "нацыя" адпавядае паняцьцю "усе свае" і адказнасьці аднаго за ўсіх і ўсіх за аднаго. Без нацыі няма грамадзтва, толькі насельніцтва. Тэрытарыяльны збор эгаістаў. Уцекачоў туды, дзе болей хлеба. Ганьё ў пагоні за падлам.

Патрыёту — ня думка пра сябе, ня думка і пра эміграцыю.

Цяперашнія цывілізацыйныя параметры, у якіх можа разгарнуцца патрыятызм, пачуцьцё айчыны, далёка няпростыя, калі яшчэ два пакаленьні назад хапіла-б звычайнага арганічнага высілку. Калі, — у экстэнсіўнай гаспадарцы, — каб падвоіць вытворчасьць дастаткова было падвоіць лік працоўных рук, лічбу работнікаў. Прайшлі тэхналягічныя рэвалюцыі, у выніку якіх усё менш працоўнай сілы патрабуецца дзеля функцыянаваньня эканомікі. Рушыўся дапераду працэс рабатызацыі. Расьце праблема лішніх людзей. Каленіі — клясічныя — нікому не патрэбныя. Маленечкая Галяндыя раўняецца капіталамі з вялізнай, кантынентальнай, Расійскай Федэрацыяй. Абласны арэал Сінгапуру зьмяшчае ў сабе трэці-чацьверты патэнцыял нашага ўсясьвету. Горская Швайцарыя — без натуральных-жа выкапняў — выйшла на першае месца ў галіне дабрабыту. Вядома, без інтэграцыі ў глябальную, замест правінцыйнай, эканоміку ня было-б так добра, смачна, /тыя-ж швайцарцы стагодзьдзем назад разлазіліся па Эўропе ў пошуках кавалка хлеба/.

Што чакае людзей без пачуцьця айчыны? Лёс сіроты. Сіроце памагаюць, але яе ня любяць. Сірота спадзяецца на нейкі цуд, яна — зазвычай — вельмі рэлігійная або ідэйная, што на адно выходзіць. Гісторыя чалавецтва выяўляе, што вытворнікам усякіх ідэяў зьяўляецца абяздоленасьць. І кожная з іх вяршыцца рэвалюцыяй, сутнасьць якое ў дэструкцыі, у заняпадзе. Францыя — прыкладам кажучы — толькі праз стагодзьдзе пасьля славутага 14 ліпеня 1789 г. вярнула сваю ранейшую моц; Расія пасьля кастрычніка 1917 г. і зараз застаецца саламянай імперыяй Трэйцяга Сьвету; Верхняй Вольтай з ракетамі. Прырода ідэі — у яе сусьветным імкненьні, у канцэпцыі ідэальнага чалавека, Збаўцы Яго. Хрысьціянства пакінула за сабою мільёны трупаў; камунізм з фашызмам яшчэ болей, а чырвоназорны Пол Пот з французкім дыпломам вышэйшае адукацыі ішоў наўпрасты, забіваючы паў-Кампучыі ў імя "шчасьця народнага". Ідэйлагі — гэта садысты, залітыя крывёю злачынцы. Бойся адзінаслушнай ідэі!

На першы погляд дзіўна канстатаваць, што несьмяротны капіталізм ні трохі не настальгуе за якой-колечы ідэяй, нават хрысьціянскай, хоць вынырнуў ён у эўрапейскай зоне пратэстантызму, званага рэлігіяй працы, /каталіцтва ды праваслаўе — гэта рэлігіі сьвята і цэлай арміі сьвятых/. Капіталізм нічога не абяцае чалавеку, аніякае райскае дармшчыны. І ўзьнік ён як пасьлядоўнасьць вольнае працы ў зьнікненьне феадальнага рабства. Бацькам яму горад-места, ня вёска і ня двор. Рынак. Тавар. Вольнаму воля, шалёнаму поле...

Вольны працаўнік не шукае добрага пана над сваім натруджаным гарбом. Вядомы нам Маркс быў выдатным эканамістам, але нікудышнім ідэятворцам. Ён лічыў, што сутнасьць чалавечай асобы ёсьць актыўнасьць, патрэба нешта рабіць. Досыць абгрунтавана баяўся перамогі камуністычнага ладу ў прымітыўных краінах; па-прароцку баяўся ён расійскага рэвалюцыянерства. Камунізм планаваўся для Захаду з яго высокаразьвітай эканомікай. Расія сваім прастацтвам не магла не акампраметаваць гэту ідэю, фактычна на працягу пару пакаленьняў. Пераўтварыўшы камунізм у ідэялогію гультаёў. У варыянт неафеадалізму з сярэдневяковай жорсткасьцю.

Што значыць вольная праца? Гэта праца на самога сябе, на свой лёс, перш за ўсё. З эфэктам на сям'ю і родны край. Спадарожнічае гэтаму дух айчыны, спадчыннае зямлі. Візэрунак бацькаўшчыны, без якое няма долі, адно вегетацыя валакіты. Нараджаецца першафілясофія пачуцьця айчыны, патрыятызм. Зьліцьцё адзінкавага з навокал-агульным. Усё зьвязанае. З матэрыяльнага — вынырае духоўнае, а з духоўнага вышэйшая ступень матэрыяльнага. Непісьменныя ня пішуць вершаў, ідыёты не засноўваюць унівэрсітэты. Букварная праўда. Ідучы далей — без пачуцьця айчыны ня будзе намаганьняў да лепшага. Бо — нашто? Ці не прасьцей пашукаць Аркадыі, дзе ўсенька гатовае, хоць і не тваё?! У гэтым слабасьць вялізных дзяржаваў з аркадыйскімі архіпелагамі і магутнасьць маленечкіх, Швайцарыі ці бо Нідэрляндаў, /без нафты і газу!/. У іх не жывуць "на халяву". У іх хітрасьць лічыцца псіхічнай хваробаю.

Зьніштажэньне чалавека пачынаецца са

зьніштажэньня сэнсу працы. У лабараторнай форме рэалізавалася тое ў канцлягерах, тых нацысцкіх і тых савецкіх, на ўзорах якіх арганізоўваліся эсэсаўскія. "Советский социализм протягивает руку германскому социализму", пісала "Праўда" увосень трыццаць дзевятага, падзяліўшы Польшчу. Дуалізм душы вызначаецца і так: апошняй памірае надзея, патрыёт захавае ў сэрцы спадзеў на вяртаньне вольнае працы; непатрыёт загавее душою ўжо назаўтра, бы пацук у лабірынце. Вядома, магчыма пажыць і без духоўнасьці, па-быдлячаму, але тады тваё векаваньне знойдзецца ў простай залежнасьці ад паўнаты "карыта". Не гаспадар-жа самому сабе.

У заканчэньне варта задумацца над Беларусяй, у цяперашнім стане якой бачым выразныя сьляды ўсяго гаворанага. Навідавоку яе мэнталітэт правінцыі былога Савецкага Саюзу. Упаўшыя імпэрыі доўга канаюць на ўскраінах. Гэта таму так, што яны ні ў чым не вырашалі і надалей жывуць па інэрцыі, без уласнага эпіцэнтру. Савецкі Саюз мог-бы яшчэ не адзін дзесятак гадоў пратрымацца, але гэта было бесперспектыўнае існаваньне, як усякая абвальная аграмадзіна. Бяссьмерце гарантавала-б Савецкаму Саюзу дынамічная магутнасьць кшталтам ЗША, выхад на эканамічную дамінанту ў сьвеце. Але яму хапала моцы толькі на мілітарызм; ягоны ўдзел у глябальным тавараздвароце склаў нешта каля двух-трох працэнтаў. З такім паказьнікам магчыма была ўсяго імітацыя нейкае рэлігіі, назавем яе савецкай, у настрої якой не аціхала літургія "самой передовой страны мира". Ад тае літургіі сяк-так абараніліся папратэстанцку рацыяналістычная Прыбалтыка ды каталіцкая Летува.

Трагічная гісторыя Беларусі — што ні стагодзьдзе то генацыд у ёй ад 350 гадоў — фіналізуецца сёньняшнім бязвыйсьцем. Яна сапраўды ўсім наўкола лішняя, бы той убогі сваяк. Паратунак ёй ва ўнутранай канцэнтрацыі волі народу. Але гэтаму напружаньню ўсенароднага высілку патрэбна пачуцьцё айчыны, гарачы патрыятызм. Неабходная таму дэрусіфікацыя краіны як найпершай умовы выцісканьня мэнталітэту пасьлясавецкай правінцыі, падрасійскай культурнасьці. Як доўга беларусы будуць заставацца "тоже русскими", так доўга ня будзе ў іх будучыні, а толькі спадзяваньне на Расію замест будаваньня ўласнага лёсу. Правінцыя заўсёды спадзяецца, менавіта, і чакае прыйсьця "добрага дзядзькі". У гісторыі аднак-жа не бывае так, каб адна дзяржава працавала на другую. А сама дзяржава без тытульнай нацыі — гэта ўтопія. нядоўгавечны штучны твор. Сілагізм таго наступны: дзяржава — гэта ўлада, якая без плюсаваньня з нацыянальным патрыятызмам падлягае карозіі /іржаўшчыне/ і зьнікненьню ў прадоньнях часу. Сьмерці падобнае пазьбяганьне беларускага нацыянальнага патрыятызму, якому пачатак культ роднай мовы і выраслай на яе фундамэнце культуры.

Сакрат Яновіч, 2003 г.

*****************************************************

**Генадзь ЛЕХ**, Масква

# РАСЕЯ- ЯКАЯ ЯНА СЕНЬНЯ ЁСЬЦЬ.

На абшарах былога СССР, у значнай часткі насельніцтва захаваліся шматлікія стэрэатыпы аб матухне Расеі кшталту «загадочной русской души», «русского мира», «доброго русского народа и враждебного окружения»,"За праўдай у Маскву", «демократической и справедливой России» і г.д. Гэтыя стэрэатыпы настолькі моцныя, што негледзячы на развал СССР шматлікія палітыкі савецкага партыйна-камсамольскага прызыву з былых саюзных рэспублік працягваюць гойсаць у Маскву за «праўдай», апелюючь да «дэмакратычнага» ўладара РФ- «рассуди и и помоги .....», або да яго атачэньня, хтосьці з іх тлумачыць гэта неабходнасцю «нейтралізацыі Расеі» у хатніх справах і пры гэтым у стасунках з імпэрскім кіраўніцтвам яны захоўваюць наменклатурны табель аб рангах. Простая магілеўская даярка-калгасніца марыць аб саюзе(РБ-РФ), бо «павінна ж лягчэй жыць стаць», таму што «братняя Расея абавязкова павінна дапамагчы» ...мабыць нават даіць кароваў... Сустракаецца падобныя стэрэатыпы ня толькі ў звычайных абывацеляў, а нават у нашых адраджэнцаў (нават у асобных бэнээфаўцаў). Калі ж зірнуць на гэтыя міты з боку , з сталіцы былое імпэрыі , то інакш як «*заскарузлы правінцыялізм*» (найбольш мякка) гэта ўсе не ўспрымаецца. Прычым гэтая заскарузласьць у глухім палескім калгасе часам ня меньшая чым у цэнтры Менску. Філасофія жыцьця РФ да й Масквы зусім іншая , прагматычная і зневажальная як да чужых, так і да сваех. Зусім ня такая, як уяўляецца шмат каму на Беларусі. Міты застаюцца мітамі. Сучасная РФ -- выключна прагматычная і паскудная краіна.

I

*З гісторыі.*

Сучасная РФ узьнікла не сеньня і не ўчора, не на голым месцы. Вядома шмат мітаў кшалту «Москва-третий Рим», «Византийская Русь». Але на справе тут зусім іншая сістэма каштоўнасьцяў. Маскоўская дзяржава прыйшла на зьмену Залатой Арды паглынуўшы яе народы і тэрыторыю. З чаго пры далейшым пашырэньні ўтварылася Расейская імпэрыя , потым СССР і нарэшце сучасная Расейская Федэрацыя. Вядомы Казьма Прутков калісьці выказаў «Зри в корень». А карані тут вызначаюцца гістарычнай восьсю Залатая АРДА -- Маскоўская дзяржава -- Расейская імпэрыя – СССР -- Расейская Федэрацыя. Нават фармаваньне самой гэтай дзяржавы праходзіла па тым жа мангольскаму прынцыпу: захоп краіны з ператварэньнем у улус і выкарыстаньне рэсурсаў, у тым ліку чалавечых (чужога гарматнага мяса) для захопу наступнай краіны і г.д. Адсюль такая моцная імпэрская *ідэалогія «стэпу»* ў сучаснай РФ. Адсюль такое стаўленьне як да сваех так і да чужых. Адсюль ментальнасьць сучаснага расейца.

II

*Вайна*

*«Война очищает Россию»* -- выказвае сучасны вядомы расейскі палітык.

У свой час, расейскі прэм'ер Віттэ, казаў, што ў гісторыі Расеі ня было нават трох гадоў, каб яна не ваявала і, што трэба 50-годаў спакою каб краіна наладзіла дастойнае жыцьцё для сваех грамадзян.

*Сучасная РФ традыцыйна ў вайне..* На вайну сьпісваюцца ўсе праблемы, туды «зьнікаюць» грошы, на ей робяцца палітычныя кар'еры на крыві, як калісьці мангольскія ханы. Адзін і той жа аб'ект будуецца на паперы некалькі разоў (ўсе ўзрываецца у папяровых справаздачах -- «бандытамі») -- якое поле для чыноўнікаў -- бо сродкі з бюджэту выдзеляюцца колькі разоў і кожны згодна табелю і месцу атрымлівае свае.. Калі б вайны ня было -- яе б прышлось пачаць або прыдумаць повад. Сучасны ўладар РФ пачынаньнем чарговай вайны ў Чачне абавязаны сваім абраньнем на прэзыдэнта .Прычам згодна старой ардынскай традыцыі з непакорным улусам (Чачней) ваюець ня толькі самі рускія , але й татары, мардва і г.д., у тым ліку беларусы-грамадзяне РФ і нават самыя чачэны, жадаючыя атрымаць месца пад «сонцам», або кавалкі з Фэдэральнага бюджэта. Найбольшы прызыў з Паволжжа ды Уралу, дзе вельмі высокі адсотак іншамоўнага і інавернага, ў тым ліку масульманскага, насельніцтва. Практычна «нулявы» прызыў з Масквы ды Піцера ды буйных гарадоў, дзе амаль пагалоўна «касяць» ад войска, і на кожнай сцене ў мэтро напісана як гэта зрабіць. Таму «гарматнага мяса не хапае» і было б сумна каб гэты дэфіцыт быў пакрыты беларускай крывей, крывей сына даяркі -- навучэнца магілеўскага ПТУ, якае спадзяецца на паляпшэньне жыцьця праз «саюз» і патэнцыйна можа атрымаць труну....

Складываецца нават уражаньне, што стан вайны падтрымлівае расейскую імпэрскую мэнтальнасьць і як толькі скончыцца вайна ў Чачне яе пачнуць у іншым месцы, можна чакаць і за транзытныя шляхі праз Беларусь, бо тут ужо ўвязаныя даходы расейскіх алігархаў.

Ш

*Пра эканоміку.*

Існуе і актыўна падтрымліваецца дзяржаваю міт аб *«рыночной России»*. Але на справе гэта ня так. На справе эканоміка РБ ня так ужо моцна адрозьніваецца ад эканомікі РФ, асабліва у сфэры буйной прамысловасьці і дзяржзаказаў. Сучасная эканоміка РФ цалкам збудавана на сістэме «откатов». Фірмы пастаўшчыкі мусяць рабіць адкат (хабар) мэнэджэрам фірмы пакупніка, у першую чаргу дзяржаўнай або напалову дзяржаўнае карпарацыі. Жадаеш атрымаць кантракт ад буйнога канцэрну-плаці адкат, хто больш прапануе той і атрымае. Мытня -- адкат, ліцэнзія адкат, усё адкат. Кошт самаго кантракту у РФе мае меньшае значэньне чым памер адкату. Гэта ўжо зусім ня рынкавы параметр.

Генералы маюць адкаты на тэндэрах для войска. Дзяржчыноўнікі набываюць па мяжой тыя лекі або курэй, якіх вырабляюць і ў РФ, нават таньней, але фірмы -- пасрэднікі, створаныя тымі жа чыноўнікамі плацяць адкат. Пры кожнай мытні створаныя свае мытныя фірмы, якія вырашаюць усе справы кліентаў за адваведную плату, большая частка якой йдзе на адкат. Фірмы-экспарцеры зьвяртаюць ПДВ(НДС) але ж ня цалкам, розьніца есьць адкат. У Рфе 21 млн. чыноўнікаў і ўсе яны жывуць не на заробок, а на адкатах. Прычым ў большасьці выпадкаў гэта робіцца досыць адкрыта, не заплаціш ня зрушыш ніводнае справы. Пры апошнім уладары РФа быў узяты курс на падвышэньне ролі дзяржавы ў эканоміцы. Шэраг буйных прыбытковых прадпрыемстваў праз так званы «передзел маемасьці» былі звэрнутыя пад крыло Газпрама або РАО ЕЭС. У хуткім часе гэтыя прадпремствы сталі страчваць сваю прыбытковасьць, бо кіруючыя каманды мэнэджэраў ад гэтых дзяржаўных манаполій у складзе былых гэнералаў, пракурораў, касманаўтаў і іншых дзяржчыноўнікаў прыходзячы на «пастой» на некалькі месяцаў на падобны камбінат адкрыта імкнуцца забяспечыць свае і сваех ўнукаў фінансавае становішча. На мэталлургічным "градообразующем" авіапромаўскім камбінаце ў Маскоўскай вобласьці на працягу ўжо двух гадоў б'юцца каманды мэнэджэраў, прадстаўляючыя аднаго уласьніка – Газпрам або дзяржаву, двум генералам дамамагаюць АМАПЫ, суды і г.д. і кожны з іх захапліваe на 2-3 месяцы па чарзе камбінат, які раней быў адабраны ў прыватніка.

Падаткі. Ад падаткаў у РФе бегаюць абсалютна ўсе прадпрыемствы незалежна ад формы ўласнасьці. Толькі насельніцтва плаціць больш меньш спраўна, але ж яно самае неабароненае і залежыць ад сьвету, вады , цэпла ды пенсіі. Бухгалтар - адна з самых аплочваемых прафесій. Сучасны бухгалтар вядзе чорную, шэрую, белую бухгалтэрыю. Самыя вядомыя расейскія канцэрны маюць па некалькі (часам дзесяткаў) юрыдычных твараў. Дапамагаюць тут фірмы -- аднадзенкі, якімі абкладываюцца расейскія банкі, зарэгістраваныя часьцей на не існуючых або памерлых людзях , г.зв. «сінякоў». Падатковая паліцыя, створаная ўладамі РФа і зараз ужо ліквідаваная, існавала ня столькі для збору падаткаў, колькі дзеля самазабеспячэньня праз адкаты.

Пра вываз капіталу з РФа і потым яго частковы адмыты зварот у выглядзе інвестыцый напісана шмат.

Найбольш рынкава у РФе працуе дробны ды сярэдні бізнэс, асабліва ў сфэры гандлю, бытавое абслугі і маларэнтабельнага вырабу. Самае сьмешнае, што калі ў гэтых галінах плаціць ўсе падаткі -- то гэтыя сфэры станyць убыткoвымі. Найбольш спраўна плацяць падаткі і сумленна працуюць прадпрыемства заходніх фірмаў, пабудованыя нанава, ў голым полі ( Макдональдсы, Марсы і г.д.), без удзелу расейцаў, але ж доля гэтых прадпрыемсваў у гадавым абароце РФа мізэрная.

Да таго ж выпадак с забойствам амэрыканскага ўладара гатэля «Рэдісон-Славянская» (маемасьць перайшла да свайго расейскага чачэнца пры падтрымцы маскоўскага мэра) абмежаваў паток буйных заходніх інвестыцыяў.

Пра тое, як ішла "прыхватызацыя" ў Рфе напісана досыць шмат. Не хацелася, каб падобная прыхватызацыя паўтарылася на Беларусі. У першай палове 90-х гадоў на шматлікіх акцыянаваных прадпрыемствах дзе стабільна ня выплочваўся заробак можна было назіраць малюнак, як на праходных дзве тры фірмачкі "бандыцкія" або "дырэктарскія" скуплялі акцыі працоўнага люду, выкарыстоўваючы фонд заробку. Такім чынам людзям далі акцыі і адразу забралі іх за іхны ж заробак. Сабраныя такім чынам буйныя пакеты акцыяў былі праданыя ў уласнасьць банкам або фінансавым групам, сабраўшым грошы з людзей на фінансавых пірамідах. Былі і іншыя схемы. Так ўзьнiклі расейскія алігархі.

Усе дэфіцыты расейскае эканомікі пакрывае нафтагазавая "труба" , як і пры СССР. Але Беларусь ня маючая такой крыніцы расейскага варыянту "прыхватызацыі" ды "эканомікі" проста ня вытрымае..

*Пра расейскую навуку.*

*Або "А король то голый"*

Пра расейскую навуку, пра яе сусветны узровень шмат што кажацца, расейскія ўладары надуваюць шчокі, але на справе сучасная расейская навука амаль ужо памерла (*Король сапраўды голы*). Дастаткова зазірнуць на тэрыторыю маскоўскіх НДІ. Часам гэта сакратарка, дырэктар, сантэхнік, электрык, бугалтар у некалькіх пакойчыках і астатняя тэрыторыя зданая у арэнду (часам праданая) камэрцыйна-гандлюючым структурам -- сховішчы, офісы, прыватныя паліклінікі і г.д. У правінцыі справы яшчэ горш. Існуюць ужо цэлыя галіны навукі, дзе ў Рфе не засталася ніводнага спецыяліста -- маладыя зьехалі за мяжу або перакваліфікаваліся у гандляроў, старыя памерлі. Аспірантуры даўно ужо пустыя, шэраг навуковых саветаў або спынілі існаваньне, або гадамі не зьбіраліся.

У маскоўскім раене Сэтунь яшчэ фармальна існуе Ўсерасійскі (некалі Ўсесаюзны) Інстытут Легкіх Сплаваў (былая галоўная авіапромаўская "паштовая скрыня") -- ВІЛС. Калісьці Інстытут меў вядомы хакейны клюб "Крылы Саветаў", архітэктарам па ўпрыгожваньню тэрыторыі працаваў сусветнавядомы Эрнст Неізвестный, інстытут быў галоўным па разпрацоўцы новых матэр'ялаў ды тэхналегіяў іх вырабу для авіацыі, космасу ды абаронкі, маючы пры сабе досыць прыстойны опытны завод інстытут па шэрагу накірункаў меў 100% нішу па вырабу, некалькі тысяч навуковых супрацоўнікаў працавала ў ім, ды некалькі тысячаў спецыялістаў на заводе вырабляла новую навукоемістую прадукцыю. Інстытут меў разнастайныя ільготы і г.д. Інстытут не пацярпеў ад перабудовачных працэсаў пры Гарбачове, але расейскую прыхватызацыю "перажыць " ня здолеў.

Ен не належаў да прыватызацыі па закону, але хіба у Рфе нехта трымаецца закону? Пры прэм'еры Гайдары расейскія дэмакраты адмовілі спробам дырэктара ды ягонага намесьніка "прыхватызаваць "прадпрыемства". Прычым "прыхватызатараў" цікавіла не навука, а вялізарная тэрыторыя прадпрыемства ў Маскве, завод, які выраблаў тытанавыя, нікелевыя, алюменевыя і іншыя вырабы. Дырэктар прадпрыемства Бондараў запрасіў новага на той час прэм'ера В.С. Чарнамырдзіна

правацэнтрысцкую партыю. Але гэта, як кажуць, ужо іншая гісторыя.

Дарэчы, некаторымі з дасягненьняў Беларускага Народнага Фронту Беларусь карыстаецца й па сёньня... Але ж многае і страчана.

***********************************************

# Крыж і гонар

Размова з доктарам філалагічных навук, прафесарам Адамам МАЛЬДЗІСАМ.

— Адам Восіпавіч, нядаўна ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі прайшоў «круглы стол» на тэму «Беларусь—Іспанія». Да гэтага Вы былі адным з арганізатараў беларуска-нямецкага, беларуска-амерыканскага, беларуска-бельгійскага і нават беларуска-ірландскага і беларуска-японскага «круглых сталоў». Чаму Ваш выбар спыняецца на такіх аддаленых і нават экзатычных для нас краінах?

— Таму што іх можна ахапіць у межах аднаго «круглага стала». Да таго ж Расія, Украіна, Польшча, Літва пастаянна прысутнічаюць на дзесятках канферэнцый штогод. Да таго ж, што датычыцца той жа Іспаніі, калі б мы шырока абвясцілі ў друку пра гэта, я думаю, удзельнікаў было б куды больш. Але тут былі розныя прычыны, з якіх найпершая — матэрыяльная. Вялікія форумы патрабуюць многа грошай.

Такія «круглыя сталы» карысныя не толькі тым, што набліжаюць адну да адной дзве краіны, але і ўнутры Беларусі аб'ядноўваюць навуковыя сілы. Робіцца куды болей, чым мы ведаем. Напрыклад, у Лінгвістычным універсітэце, Беларускай акадэміі мастацтваў, Беларускай акадэміі музыкі, Беларускім дзяржаўным універсітэце даследчыкі, прафэсары, дактары, дацэнты даследуюць беларуска-іспанскія сувязі, але не ведаюць пра працы адзін аднаго. «Круглы стол» аб'яднаў і пазнаёміў паміж сабой гэтых людзей.

— Пра Іспанію ў нашай краіне ведае кожны школьнік, а ці ведаюць дарослыя іспанцы пра такую краіну — Беларусь?

— Значна менш, чым мы пра іх. І гэта натуральна, таму што іспанская культура выступала пад сваім імем заўсёды. А ў Іспаніі нават гісторыкі ведаюць не пра Беларусь, а пра Вялікае княства Літоўскае, потым пра Расійскую імперыю, пра Савецкі Саюз і Рэч Паспалітую. Ды і цяпер у Іспаніі не дужа адрозніваюць Беларусь ад Расіі. Гэта сведчыць пра тое, што мы не дужа турбуемся пра імідж сваёй краіны і пра яе прысутнасць у свеце.

Вось нядаўна Польскі інстытут наладзіў у Мінску цікавую выставу «Коні і коннікі». Папулярызуе вывучэнне нямецкай мовы і знаёміць з нямецкай культурай Інстытут Гётэ. Ёсць падобныя інстытуты ў Англіі, культурныя прадстаўніцтвы ў Расіі... Краіны імкнуцца ўзняць свой імідж дзякуючы таму, што іх ведаюць.

Наша бяда ў тым, што мы дбаем пра эканамічныя і палітычныя міжнародныя сувязі, ну а культурныя — на апошнім месцы. А мне здаецца, што культура тут павінна бегчы наперадзе паравоза, таму што калі бізнэсмен, палітык нічога пра нашу краіну не ведае, калі яна для яго — эмацыянальна пустое месца, калі ён не ведае, што Скарына выдаваў свае кнігі куды раней, чым Фёдараў, што беларускія традыцыі ідуць ад Полацкага княства, ад Ефрасінні Полацкай... тады ён не будзе ніякіх дзелавых кантактаў з гэтай краінай мець, ні інвеставаць у яе грошы, ні ўдзельнічаць у нейкіх сумесных праектах.

— Адам Восіпавіч, пра Беларусь мала ведаюць іншаземныя бізнэсмены і палітыкі, а таксама хатнія гаспадыні, але яна па-ранейшаму захавала інтарэс для даследчыкаў і вучоных, інакш не існавала б беларусістаў.

— Так, у наступным годзе мы будзем праводзіць Чацвёрты кангрэс беларусістаў. Мы цікавыя свету тым, што не падобныя на іншых. Нават скептыкі прызнаюць, што ў беларусаў ёсць свой характар, стыль, вобраз мыслення, свой менталітэт. Некаторыя блытаюць беларусістаў з беларускімі эмігрантамі. Беларусісты — гэта пераважна прадстаўнікі іншых народаў, іншых культур, якіх цікавяць беларуская культура, мова, літаратура, гісторыя, мастацтва. Вядома, сярод іх ёсць і беларусы па паходжанню. Але, напрыклад, у Венгрыі ніводнага беларуса няма.

Я маю шчасце (альбо няшчасце) узначальваць Міжнародную асацыяцыю беларусістаў. Сёння ў нашай Асацыяцыі звыш дзесяці ўжо аформленых нацыянальных арганізацый у розных краінах. Самая вялікая з іх — у Польшчы, там каля 150 сяброў. Але ёсць і ў краінах, у якіх, здавалася б, ніколі беларусістаў не павінна быць, таму што далёкія і па культуры, і геаграфічна.

Ну, скажам, тыя ж венгры. Мова далёкая, угра-фінская, і асаблівых сувязяў не падтрымліваем, а там больш чым 30 беларусістаў. Ёсць такі дацэнт Будапешцкага універсітэта, загадчык кафедры Андраш Золтан, які там займаецца беларускай культурай. Дзякуючы беларусістам там выдадзена па-венгерску арыгінальная, не перакладзеная, гісторыя Беларусі. Яны рэгулярна рэцэнзуюць нашы выданні, два разы на год збіраюцца на канферэнцыі, праводзяць Дні беларускай культуры, Дні Мінска.

Альбо японцы. Дзе мы, а дзе Японія? Здавалася б, што нас звязвае? А першы беларускі слоўнік быў выдадзены менавіта там. Калі я быў у Японіі, карыстаўся ім так: беручы беларускае слова, я тыцкаў пальцам у японскі іерогліф, і мяне адразу разумелі і гаварылі беларускае слова «хай» — так! Гэта было самае частае слова, якое можна было пачуць. Я смяяўся: сакрэт японскай «ураўнаважанасці» ў тым, што яны ніколі не гавораць «не». Зараз аўтар слоўніка працуе над граматыкай беларускай мовы для японцаў. Там больш за дзесяць чалавек у навуковым свеце, якія цікавяцца Беларуссю.

— Атрымліваецца, што часам прадстаўнікі іншых народаў робяць больш для іміджа нашай краіны, чым мы самі?

— Так, і мы нават не вельмі імкнёмся дапамагчы ім у гэтым. Паспрабуйце падпісацца ў Вялікабрытаніі на «Звязду».

— Праблема?

— Вялізная праблема! Мяне прасілі, каб нейкім чынам тая ж самая «Звязда» і іншыя выданні траплялі ў Беларускую бібліятэку і музей імя Францыска Скарыны ў Лондане, дзе многа чытачоў і знаходзіцца буйны асяродак нашай дыяспары. Пайшоў я на пошту, там сказалі: «Не, мы не можам. Вы выпісвайце асабіста, а потым укладвайце кожны нумар у канверт і пасылайце». Уяўляеце, колькі гэта каштавала б?

У нас няма скідак, якія існуюць на Захадзе для распаўсюджвання сваіх перыядычных выданняў, для падпіскі. Каб увайсці ў Расійскі падпісны каталог, напрыклад, нам трэба заплаціць вельмі вялікую суму.

Тое ж самае з кнігамі. Я ведаю, што ў Мюнхене, скажам, ёсць кнігарня «Cubon & Sagner», якая часам гандлюе беларускімі кніжкамі. Але яны гэта робяць праз «чаўнакоў». Наша дзяржава не мае да гэтага ніякага дачынення. У Амерыцы можна сустрэць абвесткі пра беларускія часопісы і кнігі, але цэны, зразумела, рынкавыя. Дзяржава магла б гэта рабіць за меншыя грошы, і яна сама б ад гэтага нешта мела. Праблема невырашальная, хаця размова ідзе пра нашы валютныя паступленні. З гэтага я раблю выснову, што мы — самая багатая краіна ў свеце!

— Бо нам грошы не патрэбны...

— Альбо вазьміце турызм. Калі вы ідзяце па Мінску, вы чытаеце запрашэнні паехаць на Канарскія астравы, на Кіпр, у Анталію... І абсалютна ніхто не агітуе паехаць па Беларусі. Мала ведаюць пра Беларусь і замежныя турысты, а ім было б што тут паглядзець. У свеце зараз модны сельскі, экалагічны турызм, які, дарэчы, мог бы стаць адным са шляхоў аднаўлення гістарычных беларускіх сядзіб, падобных да якіх мала ў Еўропе.

Мы перш за ўсё настроены на масавы ніве́ліраваны турызм, калі прыязджае група. Іншаземцам зараз нецікава хадзіць вялікімі групамі. Ім цікава пабачыць нешта аўтэнтычнае, пажыць у глушы, падыхаць чыстым паветрам. Такія магчымасці ў нас велізарныя: і азёры, і лясы, і пушчы. Сучасны гарадскі чалавек хоча пажыць у вясковым доміку, памыцца ў лазні, паесці мачанкі — і ўсё гэта не за гарадскую цану. Гэта быў бы і даход для мясцовых уладаў.

Вядома, для гэтага патрэбны, па-першае, энтузіясты, а па-другое, каб людзі ўкладвалі ў гэта грошы. Той, хто будзе прымаць людзей, павінен адпаведным чынам абсталяваць свой дом.

Наша бяда яшчэ ў тым, што мы мала ведаем нашу дыяспару. Мы павінны памятаць, што кожны чацвёрты беларус жыве за межамі нашай краіны, і колькасць іх, на жаль, павялічваецца. Некаторыя з іх маглі б і рэкламаваць беларускі турызм у краінах пражывання. Напрыклад, тыя ж хатнія гаспадыні — беларускія жонкі за мяжой, якія не ведаюць, як бавіць час. Нам ёсць што паказаць і чым пачаставаць, калі, зноў жа, мы будзем захоўваць сваю адметнасць. Калі будзем падаваць іншаземцу не міжнародную адбіўную катлету, а бульбу ў гаршчочку ды старадаўні крупнік. Ці «крамбамбулю», якую цяпер робіць наша музычная група. Праўда, яны рэцэпт зусім сказілі. Мы з Караткевічам у свой час варылі «крамбамбулю»... У нас ёсць шмат экзотыкі нават для нашых суайчыннікаў.

— Аднак мы не надта клапоцімся ні пра сваю адметнасць, ні пра тое, каб зарабіць...

— Гэта вынікае з нашага комплексу непаўнацэннасці, якога мы маглі б пазбавіцца, калі б даведаліся больш пра сваю ўласную культуру і гісторыю. Пра асоб, якіх дала гэта зямля свету...

— І зноў жа, гэтыя асобы вядомыя, на жаль, не як беларусы. Тыя ж Шагал, Малевіч, Дамейка, Міцкевіч...

— У гісторыі аж да 90-х гадоў XX стагоддзя беларусы, па-першае, не мелі дзяржаўнай самастойнасці, па-другое, уваходзілі ў склад большых дзяржаўных утварэнняў. Гэта размывала нацыянальную свядомасць. Іншая справа, што былі Полацкае, Тураўскае і іншыя княствы на тэрыторыі Беларусі. Але ж, зноў-такі, у свеце яны не асацыіруюцца з Беларуссю. Мы ў гісторыі выступалі пад назвамі, якія тады былі нашымі ўласнымі, а цяпер сталі назвамі нашых суседзяў. Нас называлі русінамі і Руссю, але ж гэта не Русь Маскоўская. Нават Маркс пісаў, што была Русь Маскоўская і Русь Літоўская. Гэта дзве розныя Русі.

Ці, скажам, ліцвін. Міцкевіч пісаў: «О, Літва, ойчызно моя!». Але ж ён літоўскай мовы цяперашняй не ведаў. Той жа Дамейка лічыў сябе ліцвінам. Гэта было гістарычнае, а не этнічнае, найменне беларусаў. Дамейка таксама літоўскай мовы не ведаў. Калі чалавек выязджаў з царскай Расіі, то пісаў, што ён рускі, з Польшчы, з Заходняй Беларусі, — паляк. І толькі вось у апошнюю хвалю эміграцыі, ваенную і пасляваенную, сталі пісаць этнічнае паходжанне. А тады гэта было паняцце той дзяржавы, з якой ты выехаў. А паколькі этнічна беларускія землі не былі аб'яднаныя самой гісторыяй, таму атрымаліся такія казусы.

— Вось ужо 13 гадоў мы маем уласную дзяржаву.

— Трынаццаць гадоў — гэта няшмат, каб змяніць свядомасць народа. Гэта нельга зрабіць нейкім загадам. Патрэбна штодзённая руплівая праца. Як спяваецца ў нашым духоўным гімне: «Дай спору ў працы, штодзённай, шэрай». А вось штодзённай і шэрай працай у нас мала хто хоча займацца. Таму што яна нібыта не прадметная: ну, добра, хтосьці напіша артыкул пра нашага суайчынніка, падумаеш. А потым гэтыя артыкулы збіраюцца разам, у даведнік, і бачыш, якія мы багатыя. І на месцы людзі могуць ганарыцца і ўключаць у свае кнігі Памяці гэтыя імёны. І ўключаюць, але мы далёка не ўсіх выяўляем.

— Наколькі гэта дапаможа беларусам ганарыцца тым, што яны беларусы? Зараз людзі і кніжак мала чытаюць, тым больш такіх...

— Калі гэта дапаможа настаўнікам, якія будуць выхоўваць будучае пакаленне, тады гэта дапаможа і астатнім. Мы не можам адразу сваю працу адрасаваць таму ж самаму сялянству — мы можам адрасаваць яе толькі апасродкаваным шляхам. Спачатку гэта павінна быць усвядомлена навукоўцамі ў вышэйшай школе, тады, праз студэнтаў, праз выхаванне настаўнікаў, пачнецца перадача наступным пакаленням. І гэта робіцца, але робіцца недастаткова. І недастаткова аплачваецца і заахвочваецца. Лепшыя розумы і сілы ідуць або ў дзелавыя сферы, або з'язджаюць за мяжу. Колькі гуманітарыяў і навукоўцаў кінулі навуковую працу і пайшлі ў бізнэс!

— Хай бы яны рабіліся багатымі, славутымі, але ж так, каб пра іх ведаў свет — гэта беларус.

— Справа ў тым, што ў сучаснага беларуса свядомасць нараджаецца ў першым пакаленні. А раней жа гэта была пераважна вясковасць, мужыцкасць, сялянскасць, тутэйшасць, ёй трэба было як мага хутчэй прыбегчы да агульнага катла, да агульнага жолаба з харчам пад назвай «наш

адрас — не дом і не вуліца, наш адрас — Савецкі Саюз». Хрушчоў прама сказаў, што беларусы першыя прыбягуць да гэтага. Яны і беглі. А хто бег? Патэнцыяльная эліта. А цяпер мы здзіўляемся: чаму мы такія? Ды проста мы так былі выхаваныя. Раней, у Заходняй Беларусі, беглі да польскага карыта з кормам, потым да савецкага. Цяпер на раздарожжы: куды бегчы? А, напрыклад, літоўцы, яны нікуды не беглі, яны рабілі выгляд, што бягуць, а самі стаялі на месцы або развівалі сваё. Таму што ў іх ужо быў закладзены падмурак. А ў нас яго не было. Гістарычна.

— Чаму не было?

— Гэта ўжо вялікая тэма асобнага даследавання, на гэтую тэму дзесяткі кніг напісана, і гэта ўжо не мая тэма. Вось нядаўна ў Польшчы выйшла кніжка нашага беларусіста Рычарда Радзіка, альбо ў Маскве выйшла кніжка Зяньковіча, або ў Германіі выйшла кніжка Ліндэнра пра Беларусь, у Злучаных Штатах Амерыкі некалькі кніжак выйшла. Збоку людзі на нас глядзяць і разумеюць нашы праблемы, а мы не разумеем, мы кожныя пяць гадоў перапісваем нанава свае падручнікі па гісторыі. Ну дык куды нават студэнту ісці? А хто яго ведае, у які бок — можа, прама, улева, управа? Няма арыенціраў.

— Адам Восіпавіч, патлумачце, што Вы маеце на ўвазе пад шэрай штодзённай працай?

— Кожны павінен рабіць тое, што можа. Ну я, напрыклад, бачу перад сабой тры шляхі: прысутнасць беларускасці і беларускай культуры ў свеце праз Міжнародную асацыяцыю беларусістаў і таварыствы. Другі шлях — карпатлівая праца з дыяспарай. Тут патрэбна выяўляць, асэнсоўваць: дзе, што, як. Пакуль мы гэтай работы не зробім, пакуль падмурак не закладзём, мы не зможам рухацца далей. Трэцяе — вывучэнне і вяртанне, па магчымасці, альбо сумеснае выкарыстанне нашых нацыянальных каштоўнасцяў. Калі ў нас няма сваіх каштоўнасцяў — значыць, мы непаўнацэнны народ. Пра што тады можна гаварыць? Калі мы ідзём у сталічны музей і бачым толькі нейкія фрагменты, тады сапраўды ўзнікае комплекс непаўнацэннасці.

Гэта і нацыянальная ідэя, і нацыянальная ідэалогія, і навуковая, культуралагічная распрацоўка ўсіх гэтых праблем. І гэта акупіцца, таму што калі чалавек не мае высокай свядомасці і высокай культуры, то ён будзе як перакаці-поле: паедзе на заробкі ў Маскву альбо «чаўнаком» у Польшчу. Ён не будзе працаваць на Беларусь. Ну, карацей кажучы, гэта і ёсць размытасць падмурка.

— Дарэчы, наконт рэстытуцыі, ёсць меркаванне, што ў Беларусі знаходзяцца толькі тры працэнты яе нацыянальных каштоўнасцяў.

— Я мяркую, недзе дзесятая частка. Паколькі Беларусь уваходзіла ў склад іншых дзяржаўных утварэнняў, то ўсё канцэнтравалася ў Санкт-Пецярбургу, Маскве, Варшаве, Кракаве, Вільні, Кіеве, Львове. У меншай ступені — у Мінску.

Мы не на ўсё можам прэтэндаваць. Скажам, мы не можам весці гаворку пра вяртанне бібліятэкі Румянцава з Расіі, таму што гэта была ўласная воля гаспадара. Ці пра музей Гутэн-Чапскіх, які створаны з найбольш каштоўных рэчаў, якія да 1896 года знаходзіліся ў Станькаве. Яны былі вывезены самімі ўласнікамі ў мірны час.

Таму мы найперш ставім такую задачу: выяўленне, сумеснае выкарыстанне і вяртанне там, дзе гэта мажліва, там, дзе гэта абумоўлена вайной. І тут кожны дзень падкідвае нешта новае. Нядаўна ў Нацыянальнай бібліятэцы была канферэнцыя, на якой прысутнічала Патрыцыя Грымстэд Кензэдзі, якая ведае беларускія, украінскія, рускія архівы, музеі, бібліятэкі, мае доступ да амерыканскіх, нямецкіх архіваў. Яна знайшла дакументы, з якіх бачна, калі і ў якім аб'ёме пераважна бібліятэчныя каштоўнасці вывозіліся немцамі з Мінска і Магілёва. Пераважна гэтыя рэчы канцэнтраваліся ў адным месцы — горадзе Ратэнау, у навакольных замках, касцёлах. Значыць, нам трэба ўважліва паглядзець, што там магло застацца.

Я далёкі ад думкі, што ўсё было вернута, і вернута менавіта ў Беларусь. У свой час усё вярталася з Германіі ў горад Пушкін пад Ленінградам. А потым ужо, з Пушкіна, гэта вагонамі развозілася па рэспубліках. Мы ведаем, што два вагоны былі адпраўлены ў Беларусь. Але што ў гэтых вагонах, адпраўленых у Беларусь, і куды яны дзеліся, на жаль, мы, колькі ні імкнуліся, даведацца не змаглі. У мяне ёсць падазрэнне, што яны трапілі ў рукі некаторых тагачасных дзяржаўных дзеячаў. Калі мы праводзілі юнескаўскую канферэнцыю па гэтых каштоўнасцях, тады былі пэўныя намёкі.

Мы павінны ўсе гэтыя чуткі, у тым ліку пра Крыж Ефрасінні Полацкай, праверыць. Калі ў 1943 годзе Панамарэнка праводзіў у Маскве пасяджэнне Камітэта ЦК і адзін з дзеячаў выступіў супраць беларускасці, маўляў, у беларусаў нічога няма, і не варта гэтыя гульні працягваць, тады Панамарэнка рэзка запярэчыў і нагадаў, што ёсць такія каштоўнасці, як Крыж Ефрасінні Полацкай, як Скарына, і гэтак далей. І ён гаварыў пра Крыж Ефрасінні Полацкай як пра рэальнасць. Калі супаставіць гэта з нашымі і магілёўскімі публікацыямі, што ў 1941 годзе, калі вывозіліся гэтыя каштоўнасці, Панамарэнка ехаў разам з імі, то гэта набывае ўжо характар пэўнай заканамернасці. Значыць, чуткі, што гэта ў час вайны трапіла ў Германію, вельмі і вельмі неабгрунтаваныя.

— Цяпер з'явіліся публікацыі, нібыта каштоўнасці былі давезены толькі да Смаленска, і немцы, ведамства Розенберга, іх захапілі і вывезлі.

— Мне здаецца, што гэтыя публікацыі накіраваныя на тое, каб дэзарыентаваць нас адносна сапраўднага месца знаходжання. Тады з Магілёва быў вывезены не толькі Крыж Ефрасінні Полацкай, былі вывезены тысячы каштоўнасцяў, музейных прадметаў, малая і вялікая пячаткі горада Магілёва, гарадскія ключы, знаходкі пры раскопках Пампеі, мноства свяшчэнных кніг у залатых і сярэбраных аправах...

— І Слуцкае Евангелле?

— І Слуцкае Евангелле там было. Разумееце, чаму знаходка Слуцкага Евангелля з'яўляецца знакавай? Слуцкае Евангелле — гэта першы экспанат магілёўскага музея, які ўжо стаў рэальнасцю. Для мяне гэта вельмі і вельмі важна. Бо калі Слуцкае Евангелле тут — значыць, і Крыж Ефрасінні Полацкай павінен недзе быць.

Каб знайсці гэтыя каштоўнасці, трэба нейкаму чалавеку, вельмі незалежнаму, прысвяціць усё сваё жыццё. Я памятаю як анекдот: прыязджаю ў сваю родную вёску, а там гавораць па завуголлях: «Гэта самы багаты чалавек, ці самы вялікі гультай — ён усё жыццё шукае Крыж Ефрасінні Полацкай і не знаходзіць. Напэўна, ён нешта за гэта атрымоўвае і спецыяльна зацягвае, каб больш плацілі».

Я памятаю, як у 1990 годзе спрабаваў шукаць гэты самы Крыж у фундацыі Перпонта Моргана ў Злучаных Штатах. Гэта вялікая фундацыя, там ёсць сапраўды шмат крыжоў прыкладна таго самага часу — чэшскі, нямецкі... Перпонт Морган цікавіўся гэтай эпохай, ён вучыўся ў Еўропе, скупляў такія рэчы. Я хадзіў па музею і адчуваў сябе нібы ў дзіцячай гульні: «цяплей, цяплей...» Думаю: ну вось, значыць, ёсць крыжы, у тым ліку і з эмалямі... Але тая асоба, якая мяне суправаджала, сказала: «Калі гэта ёсць, то толькі ў сховішчах, якія знаходзяцца пад музеем, але што там знаходзіцца, я не ведаю. І нават дырэктары — кожны адказвае за свой адсек, і за ўвесь музей ніхто адказаць не зможа».

Праз тыдні два ад беларускай дэлегацыі паступіў афіцыйны ліст у фундацыю Перпонта Моргана, і я прысутнічаў, калі гэты ліст перадаваўся. Я сядзеў трохі збоку і ўбачыў, як затрэсліся рукі ў дырэктара музея. Ён сказаў, што праз некалькі дзён мы атрымаем адказ. Праз пару месяцаў прыйшоў адказ, што ў фундацыі Перпонта Моргана гэтага крыжа няма, а за іншыя зборы Моргана яны не адказваюць. Мне гэта ўсё здалося крыху падазроным.

Тое, што Крыж спачатку трапіў з Магілёва ў Маскву, не выключае таго, што потым ён мог трапіць у Злучаныя Штаты Амерыкі. Асабліва калі ўлічыць успаміны сведак: калі прывезлі магілёўскія каштоўнасці, Берыя прыцмокваў языком ад задавальнення. Калі гэта трапіла ў прыватныя рукі, а тады ж гэта былі людзі ўсёмагутныя, то потым яно магло быць вывезена і ў Амерыку. Альбо ў якасці нейкіх паставак, па ленд-лізу, скажам.

Трэба правяраць усе версіі, у тым ліку і версію, што гэта магло застацца або ў Магілёве, або закапанае дзесьці па дарозе. Не толькі мне, але і многім іншым здаецца таксама верагоднай версія, што гэты Крыж мог застацца ў Полацку. У канцы 20-х гадоў яго з Полацка забралі ў Мінск, і трапіў гэты Крыж у рукі спецыялістаў, а Вацлаў Ластоўскі ўсё-такі разбіраўся ў музейных рэчах, яго на мякіне цяжка было правесці. Потым гэты Крыж трапіў у Магілёў, у запаснік будынка абкама партыі. Мяне і іншых трошкі бянтэжыць, што Ластоўскі, апісваючы гэты Крыж (апісанні былі апублікаваныя ў Амерыцы, у штогодніку «Запісы»), назваў яго дубовым, у той час як ён кіпарысавы. Я не веру, што Ластоўскі памыляўся. Ён жа аўтар твораў з гісторыі Полацка, ён чытаў апісанні гэтага Крыжа. Гэта ж не быў нейкі неабазнаны ў гэтай праблеме музейны работнік. Ці не даў ён нам сігнал, што ў яго руках быў і трапіў у Магілёў не сапраўдны Крыж, а падробка?

Як магло ўсё разгортвацца? Ведаючы пра тое, што Крыж павінны, кажучы па-руску, «изъять», маглі тыя ж самыя святары, манашкі зрабіць падробку за ноч, за, Бог яго ведае, які час. Трэба было б гэта ўсё дакументальна вывучыць. Хто тады мог даваць гэты Крыж органам улады Полацка? Хто тады быў у гэтых органах улады, дасведчаны чалавек ці не?

Такіх загадак вельмі і вельмі многа. І зноў узнікае пытанне: каму гэта рабіць? Камісія «Вяртанне», якую я ўзначальваю пры Беларускім фондзе культуры, выпускае восьмы зборнік, і мы думаем: а што далей? Што з гэтымі картатэкамі? Трэба, каб адзіны калектыў працягваў гэту працу. Але, зноў-такі, мы — самая багатая краіна ў свеце — нам не патрэбны нашы ўласныя каштоўнасці.

Толькі Беларуска-Польская камісія працуе па пытаннях супольнай спадчыны. З іншымі краінамі падобных камісій не створана. Заканадаўча неакрэслена, як такое вяртанне можа адбывацца. А шляхоў на самай справе шмат: праявы добрай волі, абмен, сумеснае выкарыстанне, выданне сумесных каталогаў, выстаўкі і гэтак далей. Трэба толькі гэтым займацца. І тады, як і ў сітуацыі з дыяспарай, акажацца, што мы — нармальная нацыя, і што мы — сапраўды багатая нацыя.

— Проста ў барацьбе за хлеб надзённы нам не да высокіх матэрый.

— Калі чалавек не будзе бачыць учарашняга дня, калі ён жыве толькі сённяшнім, ён і заўтрашняга дня не пабачыць. Ён вырашыць, што гісторыя пачынаецца з яго і канчаецца з ім. Як ён будзе думаць пра будучыню, калі мінулага не ведае? Гэта ж лінія развіцця, усё звязана ў адным. Жыццё — гэта перадача эстафеты пакаленняў ад аднаго да другога. І калі ты не ў гэтым ланцугу, ты — эгацэнтрыст і жывеш толькі сённяшнім.

На Захадзе цяпер вельмі пашыраны тып людзей, якія жывуць толькі дабрабытам сённяшняга дня. Але ж яны пайшлі на гэты свет у грамадстве, якое цвёрда абапіраецца на свае карані. Французу не трэба даказваць, што ён француз, а немцу — што ён немец. Ім не трэба змагацца за сваю мову. Ці галандцу, ці датчаніну. Усё тут абумоўлена гістарычнымі прычынамі. Усё тое, што ў нас сёння ёсць, мае тлумачэнне.

Размаўляла Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА. /Звязда/

**************************************

# Джордж КРОЛ: «Я ніколі не бачыў сур'ёзных праблем у адносінах паміж беларускім і амерыканскім народамі»

**На пытанні карэспандэнта «Звязды» адказвае пасол ЗША ў Беларусі**

**— Упэўнены, нашым чытачам будзе цікава даведацца пра асобу новага пасла ЗША ў Мінску. Таму спачатку некалькі слоў пра сябе: дзе нарадзіліся і дзе вучыліся, што скончылі, як трапілі на дыпламатычную службу, якія яе прыступкі прайшлі да прызначэння на пасаду пасла?**

— Я нарадзіўся ў Пітсбургу, што ў штаце Пенсільванія. Мой дзед прыехаў у Амерыку з Польшчы, а сваякі маёй маці — з Харватыі. Я па паходжанні — славянін. Таму мне, як дыпламату, заўсёды было прыемна працаваць на славянскай зямлі, у дадзеным выпадку ў Беларусі. Скажу шчыра: я фактычна адчуваю сябе беларусам. Але сваім домам я называю штат Нью-Джэрсі, таму што я там вырас. Сваю першую вышэйшую адукацыю я атрымаў у Гарвардскім універсітэце. А ступень магістра я атрымаў у Оксфардскім універсітэце ў Вялікабрытаніі, дзе вывучаў філасофію, эканоміку і

палітыку. Пасля заканчэння навучання я нейкі час працаваў у Нью-Йорку ў кампаніі CBSnews. Гэта, між іншым, даволі вялікая і вядомая на медыйным рынку ЗША кампанія. Яна займаецца яшчэ і выдавецкай дзейнасцю.

Але я марыў паступіць на дыпламатычную службу, а таму яшчэ ў час вучобы ў Оксфардзе здаў неабходны экзамен у пасольстве ЗША ў Лондане. Я заўсёды лічыў, што вельмі важна служыць сваёй краіне. І дыпламатычная служба — найлепшае месца для прымянення маіх здольнасцяў. Таму ў студзені 1982 года я завяршыў даволі працяглую працэдуру, якая адкрыла мне шлях у дыпламатыю.

З таго часу я ўжо некалькі разоў працаваў за межамі ЗША. Маё першае прызначэнне было ў Варшаву. Потым была Індыя, затым нейкі час працаваў у Дзяржднэпар-таменце ў Вашынгтоне, дзе спецыялізаваўся па краінах Усходняй Еўропы. Потым я пачаў займацца Расіяй і ў 1990 годзе атрымаў прызначэнне ў наша консульства ў Ленінградзе. Зразумела, тады я не мог сабе ўявіць, што стану непасрэдным сведкам развалу Савецкага Саюза. Але з таго часу мая дыпламатычная кар'ера цесна звязана з краінамі былога СССР. У 1992 годзе мяне накіравалі з Ленінграда ў Мінск, дзе мне прыйшлося ўдзельнічаць ва ўстанаўленні дыпламатычных сувязяў паміж Злучанымі Штатамі і Рэспублікай Беларусь. Затым была праца ў Кіеве. Праз год мяне зноў накіравалі ў Беларусь, дзе я прапрацаваў два гады намеснікам пасла. У 1995 годзе я вярнуўся ў Вашынгтон і працаваў спецыяльным памочнікам намесніка дзяржсакратара, які курыраваў пытанні зносінаў з былымі савецкімі рэспублікамі. Затым мяне прызначылі кіраўніком падраздзялення Дзяржэпартамента па Расіі. Потым мяне накіравалі ў Маскву ў якасці саветніка-пасланніка пасольства ЗША. Праз тры гады я вярнуўся ў Вашынгтон, дзе і атрымаў неўзабаве прызначэнне на пасаду пасла ЗША ў Беларусі.

**— Сярод нашых чытачоў розных нацыянальнасцяў нямала і палякаў, таму невялікае ўдакладненне. Менавіта з якога рэгіёна Польшчы вашы карані?**

— Мае продкі жылі непадалёку ад Закапане.

**— Гэта Ваша трэцяя камандзіроўка ў Мінск. Якія істотныя перамены ў краіне, яе сталіцы, у людзях кінуліся Вам цяпер у вочы?**

— Я ў Мінску крыху больш як два месяцы і таму яшчэ не паспеў разабрацца ва ўсіх пераменах у вашай краіне. Але, як мне здаецца, у Беларусі шмат што памянялася. І вялікая частка маёй місіі заключаецца ў тым, каб убачыць, зразумець і ацаніць гэтыя перамены. Канешне, тое, што я бачу цяпер у Беларусі і асабліва ў Мінску, зрабіла на мяне добрае ўражанне. Сталіца знешне змянілася ў лепшы бок. Больш дасканалай стала яе інфраструктура, у парадак прыведзены дарогі — яны цяпер прыгожыя, шырокія і чыстыя. Адкрыліся новыя сучасныя магазіны, рэстараны і кафэ, людзі добра апранаюцца. Але я пакуль не магу сказаць, якія істотныя перамены адбыліся ў саміх беларусах. Для гэтага мне патрэбен час. Таму маркую часцей сустракацца з прадстаўнікамі ўрада, грамадскіх арганізацый і г.д.

Я адчуваю, што ў беларусаў ёсць моцнае жаданне, каб іх краіна стала паўнацэнным удзельнікам трансатлантычнай супольнасці і далучылася да тых інтэграцыйных працэсаў, якія адбываюцца сёння ў свеце. Некаторыя вашы людзі хочуць, каб гэта адбылося як мага хутчэй, іншыя лічаць за лепшае не спяшацца. Аднак, на мой погляд, у вас ёсць агульнае меркаванне аб неабходнасці рухацца ў гэтым напрамку.

**— Як перад кожным паслом яго дзяржава ставіць канкрэтныя мэты і задачы на перыяд знаходжання, так і, відаць, сам пасол намячае для сябе пэўную праграму дзеянняў на гэты час. Не разлічваю даведацца наконт установак Дзяржэпартамента ЗША, але, калі ёсць жаданне, то калі ласка... Аднак хацелася б пачуць ад Вас, што Вы мяркуеце асабіста зрабіць у сферы беларуска-амерыканскіх адносінаў? Зразумела, калі гэта не сакрэт.**

— Увогуле я лічу, што місія кожнага дыпламата заключаецца ў тым, каб дапамагчы дасягнуць узаемаразумення паміж народамі і ўрадамі. Як амерыканскі дыпламат я атрымаў даручэнне ад свайго прэзідэнта (пра гэта я казаў у час уручэння даверчых грамат прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку) працаваць над больш квітнеючым, бяспечным, дэмакратычным светам у інтарэсах Беларусі, Злучаных Штатаў і ўсёй міжнароднай супольнасці. І, канешне, мая задача знайсці пэўныя спосабы ажыццявіць гэта.

У першую чаргу мне хочацца аб'ектыўна зразумець тыя працэсы, якія адбываюцца ў Беларусі. І, зыходзячы з гэтага разумення, потым эфектыўна растлумачыць прадстаўнікам вашага ўрада (і не толькі ім), як мая краіна разумее патрабаванні бяспекі, дэмакратычнага і эканамічнага развіцця. Прасцей кажучы, мая задача заключаецца ў тым, каб дапамагчы знайсці агульную мову паміж Беларуссю і Злучанымі Штатамі. Яна, на мой погляд, вырашальная, хаця і няпростая. Таму спатрэбіцца намаганні абодвух бакоў, каб тыя словы, якія імі выкарыстоўваюцца, мелі аднолькавае значэнне.

**— Непрацяглая гісторыя адносінаў суверэннай Беларусі і ЗША мае супярэчлівы і няўстойлівы, а часам і бурны характар. Але на тое і дыпламаты, каб вырашаць спрэчныя пытанні. Не будзем паглыбляцца ў тое, што нас раз'ядноўвае. Давайце пагаворым аб тым, што нас збліжае. Што, на Ваш погляд, можа паспрыяць паляпшэнню ўзаемаразумення паміж ЗША і Беларуссю?**

— Як я ўжо адзначыў у адказе на папярэдняе пытанне, трэба каб абодва бакі — амерыканскі і беларускі — паслухалі адзін аднаго і знайшлі агульную мову. Вы маеце рацыю, калі гаворыце аб тым, што ў ЗША, Беларусі і ўсёй міжнароднай супольнасці ёсць агульныя праблемы, якія можна вырашыць толькі сумесна. Я, напрыклад, ніколі не бачыў сур'ёзных адрозненняў ці нейкіх сур'ёзных праблем у адносінах паміж беларускім і амерыканскім народамі. Таму, чым больш іх прадстаўнікі будуць сустракацца і размаўляць, тым лепш яны будуць разумець адзін аднаго. Я маю на ўвазе, напрыклад, тыя праграмы абмену, якія падтрымлівае наша амбасада. Гэта вельмі добра, калі людзі могуць прыязджаць у незнаёмую ім краіну, у дадзеным выпадку Беларусь ці ЗША, вывучаць яе культуру, традыцыі, мову, знаёміцца з паўсядзённым жыццём людзей. Гэта вельмі важны фактар будаўніцтва трывалых адносінаў паміж нашымі дзяржавамі і народамі. Я гавару не толькі пра праграмы культурнага абмену, але і пра эканамічныя сувязі і тыя інвестыцыі, якімі можна займацца. Гэта ўсё фундамент пабудовы моцных адносінаў паміж ЗША і Беларуссю. Таму мая галоўная місія, паўтаруся, у садзейнічанні наладжванню такога вось парадку рэчаў. Вядома, у кожнага з бакоў будуць існаваць розныя палітычныя погляды і меркаванні, але я спадзяюся, што мы знойдзем спосаб размаўляць так, каб удавалася разумець адзін аднаго, каб нашы адрозненні не перашкаджалі ў вырашэнні агульных праблем.

**— Пасля заканчэння «халоднай вайны» прайшло ўсяго крыху больш чым 10 гадоў. У гістарычным плане тэрмін зусім нязначны. У свядомасці народаў ЗША і Беларусі захавалася яшчэ шмат стэрэатыпаў у дачыненні адзін да аднаго. Разам з тым у значнай частцы беларускага грамадства існуе меркаванне, што палітычнае кіраўніцтва ЗША (незалежна ад таго, якая партыя на чале ўлады) супраць як Саюза Беларусі і Расіі, так і цеснага іх яднання з Украінай. Ваш каментарый, калі ласка.**

— Я думаю, тут ёсць вялікі элемент неразумення амерыканскай палітыкі. Памятаю, калі я працаваў у Мінску ў 1993—1995 гадах, гэта пытанне часта ўзнікала. Пазіцыя ЗША наконт інтэграцыі Беларусі і Расіі заўсёды была зразумелай і паслядоўнай. Яна была выпрацавана яшчэ ў час усталявання дыпламатычных адносінаў ЗША з вашай краінай і заключаецца ў нязменнай падтрымцы суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. Разам з тым мы лічым, што яна і яе народ маюць права ўстанаўліваць на міжнароднай арэне тыя адносіны, якія яны лічаць неабходнымі. ЗША лічаць, што гэтыя адносіны ці ў форме Саюза, ці ў любой іншай форме павінны будавацца на добраахвотнай аснове і ў рамках дэмакратычных працэдур, каб была сапраўды ўлічана воля народа.

Наша пазіцыя заключаецца таксама і ў тым, што не павінен аказвацца ціск у адносінах да бакоў і што гэты саюз не павінен быць пагрозай для іншых краін. Мы вітаем намеры Беларусі падтрымліваць блізкія і сяброўскія адносіны з усімі суседзямі і лічым гэта неабходным элементам стабільнасці ў рэгіёне. Калі я гавару «з усімі суседзямі», я маю на ўвазе і Расію.

Фундаментальным элементам палітыкі Злучаных Штатаў з'яўляецца меркаванне, што Беларусь і Расія разам павінны інтэгравацца ў шырокую міжнародную супольнасць нацый. Гэта дазволіць вашаму рэгіёну развівацца больш хутка і паспяхова. І, безумоўна, будучыня беларусаў у руках саміх беларусаў.

**— Трагічныя падзеі ў Турцыі зноў нагадалі ўсяму свету пра велізарную небяспеку міжнароднага тэрарызму. Як Вы ацэньваеце гатоўнасць Беларусі разам з іншымі краінамі зма-гацца з гэтым сусветным злом?**

— Натуральна, мы хацелі б, каб Беларусь стала часткай эфектыўнага супрацоўніцтва са Злучанымі Штатамі і міжнароднай супольнасцю ў процістаянні глабальным сілам тэрарызму. І мы вітаем намер беларускіх улад удзельнічаць у гэтай сумеснай барацьбе. Я думаю, мы разам будзем шукаць сродкі, з дапамогай якіх урадавыя і няўрадавыя арганізацыі маглі ўдзельнічаць у гэтай працы.

Але мушу адзначыць, што ёсць такая праблема, калі асобныя краіны дазваляюць тэрарыстычным арганізацыям існаваць на сваёй тэрыторыі. Я маю на ўвазе Ірак (у час рэжыму С. Хусейна), Іран, Сірыю, Паўночную Карэю і Лівію. І мы ведаем, што Беларусь падтрымлівае адносіны з усімі гэтымі краінамі, што выклікае пэўную занепакоенасць Злучаных Штатаў. Гэта тэма, якая падлягае абмеркаванню паміж ЗША і Беларуссю таму, што неабходна дасягнуць разумення ў тым, якім чынам Беларусь магла б удзельнічаць у агульным процістаянні глабальнаму тэрарызму.

**—Вы агучылі прэтэнзіі ЗША да ўладаў Беларусі за іх супрацоўніцтва з шэрагам вышэйназваных краін. Але і ў беларускай грамадскасці ёсць сур'ёзныя пытанні міжнароднага характару да адміністрацыі ЗША. Так, пакуль яшчэ не знойдзены сляды зброі масавага паражэння ў Іраку, сакрэтная інфармацыя аб наяўнасці якой стала афіцыйнай прычынай для звяржэння рэжыму С. Хусейна сіламі кааліцыі. І гэта нягледзячы на тое, што зброю шукалі і, магчыма, працягваюць шукаць каманды вопытных экспертаў, ад якіх нават яе рэшткі пасля знішчэння не так проста схаваць. Як Вы растлумачыце гэту няўдачу?**

— На жаль, існуе неразуменне тых прычын, па якіх Амерыка і ў цэлым кааліцыя пачала аперацыю ў Іраку. Гэта краіна адкрыта парушала ўсе санкцыі і рэзалюцыі ААН. Яе эксперты добра ведалі пра нежаданне Ірака садзейнічаць міжнароднаму расследаванню яго намацяў наладзіць вытворчасць біялагічнай і ядзернай зброі. І гэта прымусіла міжнародную супольнасць сумнявацца ў тым, што С. Хусейн поўнасцю знішчыў гэту зброю і выканаў усе рэзалюцыі ААН. Як вынікала з канфідэнцыяльных справаздач, у тым ліку і той, якую зрабіў дзяржсакратар Колін Паўэл у ААН, Ірак працягваў шукаць сродкі для падтрымання свайго ваеннага патэнцыялу. Таму існавала занепакоенасць ЗША і кааліцыі наяўнасцю гэтай зброі.

Зараз эксперты прыкладаюць вялікія намаганні, каб вывучыць усю інфармацыю аб здольнасці Ірака наладзіць выраб біялагічнай і ядзернай зброі. Іракскі рэжым шмат працаваў над тым, каб схаваць яе сляды. Таму кааліцыі спатрэбіцца шмат часу, каб высветліць усю інфармацыю. Існуе шмат сведчанняў, якія гавораць аб тым, што гэта вытворчасць мела месца. Таму мы расцэньваем аперацыю ў Іраку не як няўдачу, а як поспех — у тым сэнсе, што ўвесь свет, і амерыканцы, і беларусы адчуваюць сябе больш бяспечна таму, што ўжо не існуе здольнасці Ірака да вытворчасці зброі масавага паражэння.

**— Невялікае пытанне ў працяг тэмы. Мяркуецца, што аднаўляць Ірак будуць усім светам. У прыватнасці, нашы суседзі палякі ўжо заключылі кантракт на пастаўку туды тэлекамунікацыйнай тэхнікі і атрымалі запрашэнне ўдзельнічаць у праграме будаўніцтва двух з паловай мільёнаў кватэр. Ці могуць, скажам, беларускія будаўнікі разлічваць на кантракты па ўзвядзенню аб'ектаў у Іраку? І на якіх умовах гэта магчыма?**

— Шмат гадоў іракскі рэжым трымаў свой народ у беднасці і настолькі жорстка ставіўся да яго, што толькі сёння становяцца вядомымі маштабы гэтай жорсткасці. Таму сусветная супольнасць павінна працаваць разам, каб адбудаваць гэту цудоўную краіну. А калі Беларусь жадае стаць часткай гэтых намаганняў, ёй трэба заявіць аб сваіх прапановах. Яны будуць разгледжаны.

**— Відаць, вы ўжо чулі такую славянскую прымаўку: лепш быць багатым і здаровым, чым бедным і хворым. Дык вось, глабалізацыя ўсё больш уплывае на эканоміку і палітыку ўсіх без выключэння краін. У гэтым працэсе ёсць як станоўчыя, так і адмоўныя бакі. Станоўчых момантаў больш для багатых і вялікіх дзяржаў, як, напрыклад, ЗША. Яны ўсё багацеюць. Адмоўных — для сярэдніх і невялікіх краін. Адсюль і карані ўзнікнення даволі агрэсіўнага руху антыглабалістаў. Што могуць і павінны зрабіць ЗША, каб мінімізаваць адмоўны ўплыў глабалізацыі менавіта на эканоміку краін з пераходнай эканомікай Усходняй Еўропы?**

— Я хачу сказаць, праблем з глабалізацыяй дастаткова існуе і ў Злучаных Штатах. У маёй краіне шмат людзей негатыўна ацэньваюць яе ўплыў на свае жыццё. Вось свежы прыклад са штата Айдаха, буйнейшага ў краіне вытворцы бульбы. Дарэчы, я сам вялікі прыхільнік беларускіх дранікаў і ведаю, што беларусы вельмі любяць стравы з бульбы. Дык вось, пад націскам глабалізацыі шматлікія вытворцы бульбы з Айдаха былі вымушаны пераехаць у Канаду з-за таго, што глабальны рынак бульбы робіць нявыгадным вырошчванне і перапрацоўку яе ў іх родным штаце. У Канадзе гэта танней, а значыць, і выгадней. І падобныя з'явы назіраюцца і ў іншых штатах у розных сферах дзейнасці.

Таму я цалкам падзяляю тую занепакоенасць, якая існуе ў краінах, якія сёння пераходзяць ад каманднай эканомікі да рынкавай. Але я лічу, што працэсаў глабалізацыі нельга пазбегнуць, бо нацыянальныя эканомікі становяцца ўсё больш адкрытымі, узаемадапаўняльнымі, яны ўсё часцей аб'ядноўваюцца. У выніку знікаюць бар'еры, якія раней падзялялі краіны. У гэтым працэсе шмат станоўчага для спажыўцоў, якія могуць набываць больш танныя і якасныя тавары і прадукты. Мы павінны выкарыстоўваць перавагі глабалізацыі.

У сваю чаргу Злучаныя Штаты імкнуцца дапамагаць іншым краінам, у прыватнасці Усходняй Еўропе, пераадольваць негатыўныя наступствы глабалізацыі і выкарыстоўваць на сваю карысць яе станоўчыя бакі.

Гэта тая агульная сусветная задача, над вырашэннем якой мы ўсе павінны працаваць.

**— Як Вы ведаеце, прамыя амерыканскія інвестыцыі ў Беларусь складаюць каля 100 мільёнаў долараў. Зразумела, для эканомікі ЗША сума нязначная. Тым не менш, гэта лепшы паказчык сярод замежных інвестараў у Беларусі. Як Вы думаеце, наколькі хутка амерыканскія інвестыцыі могуць дасягнуць мільярднай адзнакі?**

— Яшчэ ў мой першы прыезд у вашу краіну я ўбачыў яе вялікі патэнцыял для развіцця эканомікі. У вас выдатная інфраструктура, адукаваная працоўная сіла, выгаднае геаграфічнае становішча і г д. Я ўпэўнены, што калі Беларусь будзе прытрымліваццa палітыкі знешняй адкрытасці свету, то замежныя інвестыцыі хутка пераадолеюць парог аднаго, і двух, і трох мільярдаў долараў.

**— Сумная дата ў амерыканскай гісторыі — 40 гадоў з дня забойства прэзідэнта Дж. Кенэдзі, нагадала і аб тым, што ў палітыцы няма тупіковых сітуацый, заўсёды можна знайсці кампраміс і дамовіцца. Кенэдзі, дарэчы, мог гэта цудоўна рабіць. У якой ступені сённяшняя амерыканская дыпламатыя выкарыстоўвае вопыт адміністрацыі прэзідэнта Кенэдзі?**

— Мы, амерыканскія дыпламаты, успамінаем Джона Кенэдзі як час вялікіх магчымасцяў. Пад яго кіраўніцтвам Амерыка імкнулася стаць сябрам для ўсяго свету, аб'яднаць яго і зрабіць дэмакратычным і квітнеючым на аснове ўзаемаразумення і ўзаемапавагі. Напрыклад, па ініцыятыве Кенэдзі быў створаны вядомы Корпус міру.

І мы імкнёмся працягваць справу гэтага выдатнага дзяржаўнага дзеяча. Таму, вобразна кажучы, запалены адміністрацыяй Джона Кенэдзі агонь працягвае гарэць у сэрцы кожнага з нас, хто працуе на карысць амерыканскага народа. Ён гарыць гэтак жа ярка, як і на магілках у Арлінгтоне, дзе пахаваны Кенэдзі.

Гутарыў Леанід ЛАХМАНЕНКА. /Звязда/

**************************************************

## «Хваля свабоды» пракоціцца па Беларусі і Ўкраіне ў 2004-м годзе

*Падпісаньне Мемарандуму аб беларуска-украінскай мабілізацыйнай кампаніі «ХВАЛЯ СВАБОДЫ» («ХВИЛЯ СВОБОДИ») адбылося 23 лістапада 2003 году ў сталіцы Украіны Кіеве. З украінскага боку докумэнт падпісаў каардынатар Кааліцыі грамадзкіх арганізацыяў «Свабода выбару» Уладыслаў Каськіў, ад Беларусі – каардынатар руху супраціву «ЗУБР» Уладзімер Кобец. "З крахам таталітарнай савецкай сістэмы на прыканцы мінулага тысячагоддзя краіны Цэнтральнай і Усходняй Эўропы здабылі Свабоду, адкінулі страх і каланіяльную залежнасьць, упэўнена сталі на шлях дэмакратыі, эканамічнага росквіту і дабрабыту сваіх народаў. У траўні 2004 года нашыя еўрапейскія суседзі афіцыйна ўступяць у Еўразьвяз. Такі шлях выбралі народы гэтых краінаў, гэты шлях выбірае моладзь Украіны і Беларусі... ...Мы, украінскія і беларускія моладзевыя няўрадавыя арганізацыі і рухі, заяўляем аб пачатку ўкраінска-беларускай мабілізацыйнай кампаніі «ХВАЛЯ СВАБОДЫ» – гаворыцца ў Мемарандуме. На пытаньні прэс-цэнтру ЗУБРа адказвае каардынатар руху супраціву Уладзімер Кобец:*

***-- Што такое "Хваля Свабоды" і каму належыць ідэя падпісаньня мемарандуму?***

-- «Хваля Свабоды» - гэта выклік маладых беларусаў і ўкраінцаў той уладзе, якая не дазваляе нашым еўрапейскім народам інтэгравацца ў Аб'яднаную Еўропу. Для нас – гэта шанец пазбавіцца дыктатуры, для ўкраінцаў – адхіліць ад улады карумпаваную бюракратыю. Гісторыя паказвае, што са злом лягчэй змагацца разам. Так краіны Балтыі разам адстаялі незалежнасьць і адначасова ўступяць у Еўразьвяз. Беларусы і ўкраінцы – блізкія па духу і менталітэту братэрскія народы. І сёньня мы падстаўляем плячо адно аднаму ў нашым супольным імкненьні пазбавіцца таталітарнай спадчыны. Моладзь нашых краінаў выбірае еўрапейскую будучыню Украіны і Беларусі. Ідэя «ХВАЛІ СВАБОДЫ» належыць актывістам украінскіх і беларускіх моладзевых рухаў, якія ўсьведамляюць неабходнасьць дэмакратычных пераўтварэньняў у нашых краінах і выступаюць за еўрапейскую будучыню.

***-- Хто падпісаў Мемарандум з украінскага боку?***

-- З украінскага боку Мемарандум падпісаны Кааліцыяй грамадзкіх арганізацыяў «Свабода Выбару» - буйнейшым аб'яднаньнем моладзевых няўрадавых арганізацыяў Украіны, якая мае вялікі досьвед правядзеньня нацыянальных палітычных кампаній ва Украіне і якая будзе адыгрываць вельмі важкую ролю падчас маючых адбыцца ў наступным годзе прэзыдэнцкіх выбараў ва Украіне.

***-- Ці будуць яшчэ ўдзельнікі?***

-- Натуральна, мы разлічваем на гэта. Кансультацыі з шэрагам моладзевых грамадзкіх арганізацыяў ужо пачаліся.

І «ЗУБР» і Кааліцыя «Свабода выбару» абвесьцілі аб кампаніі, якая, па нашай задумцы, мусіць стаць прывабнай і для іншых няўрадавых арганізацыяў. Ідэя еўраінтэграцыі вельмі папулярная сярод моладзі нашых краінаў, таму мы спадзяемся, яна нікога не пакіне абыякавым. Мы зрабілі наш выбар на карысьць Еўразьвязу і мы заклікаем іншыя арганізацыі падтрымаць такі выбар.

***-- Якія мэты перасьледуе подпісаньне Мемарандуму?***

-- Наша галоўная мэта – перамога дэмакратыі ў нашых краінах і пачатак працэсу інтэграцыі Беларусі і Украіны ў Еўрапейскі Зьвяз. Дзеля гэтага мы маем намер падтрымаць дэмакратычныя сілы нашых краінаў на маючых адбыцца ва Украіне і Беларусі выбарах, забясьпечыць высокую яўку маладых выбарцаў на выбарчыя ўчасткі, прадэманстраваць еўрапейскія памкненьні беларускай ды ўкраінскай моладзі. Мы павінны дамагчыся, каб моладзь абрала тую ўладу, якая будзе адпавядаць яе інтарэсам. Дамагчыся таго, каб голас народу быў пачуты.

***-- Якіх вынікаў вы чакаеце ад сумесных дзеяньняў?***

-- Мы настроены на перамогу. На прыкладзе Грузіі мы яшчэ раз пабачылі: як бы хто ні трымаўся за ўладу, калі народ яго не прымае, ён мусіць сыйсці. І ніякая міліцыя, ніякі сьпецназ не дапамогуць. Маладыя людзі Украіны і Беларусі аддадуць свой голас за найбольш дастойных кандыдатаў і, у выпадку фальсіфікацыяў, будуць бараніць свой выбар.

**Мемарандум аб беларуска-украінскай мабілізацыйнай кампаніі "Хваля Свабоды"**

Мы, украінскія і беларускія моладзевыя неўрадавыя арганізацыі і рухі, заяўляем аб пачатку ўкраінска-беларускай мабілізацыйнай кампаніі "Хваля Свабоды". З крахам таталітарнай савецкай сістэмы на прыканцы мінулага тысячагоддзя краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы здабылі Свабоду, адкінулі страх і каланіяльную залежнасць, упэўнена сталі на шлях дэмакратыі, эканамічнага росквіту і дабрабытаў сваіх народаў. У траўні 2004 года нашыя еўрапейскія суседзі афіцыйна ўступяць у Еўразьвяз. Такі шлях выбралі народы гэтых краінаў, гэты шлях выбірае моладзь Украіны і Беларусі.

У 2004 годзе ва Украіне пройдуць выбары новага Прэзідэнта.

У 2004 годзе ў Беларусі мусяць адбыцца выбары новага Парламенту.

Для Беларусі – гэта шанец пазбавіцца ад дыктатуры.

Для Украіны – адхіліць ад улады карумпаваную бюракратыю.

Для ўсіх нас – гэта шанец перамагчы і разам пачаць працэс інтэграцыі нашых краінаў у Еўрапейскі Зьвяз.

Мы маем намер:
- падтрымаць дэмакратычныя сілы нашых краінаў на маючых адбыцца ў 2004 годзе выбарах;
- забяспечыць высокую яўку маладых выбарцаў на ўчасткі для галасавання;
- прадэманстраваць еўрапейскія памкненні моладзі Украіны і Беларусі.

"Хваля Свабоды" ў 2004 годзе пракоціцца па нашых краінах і будзе складацца з украінскай і беларускай моладзевых кампаній, сумесных украінска-беларускіх дзеянняў, акцыяў моладзі за мяжой.

Кожны з бакоў абавязуецца падтрымоўваць еўрапейскія памкненні іншага боку, дамагацца ад палітыкаў сваіх краінаў практычных захадаў дзеля інтэграцыі Украіны і Беларусі ў Еўрапейскі Зьвяз.

*Уладзімер Кобец, каардынатар руху супраціву ЗУБР*
*Уладыслаў Каськіў, каардынатар Кааліцыі грамадскіх арганізацыяў "Свабода выбару".*

**************************************************

# Адкуль у Беларусі ўзяліся палякі?

Палякі ў Беларусі ніколі не былі карэннымі жыхарамі. Паводле законаў нашай старадаўняй дзяржавы - Вялікага Княства Літоўскага ўсім "чужаземцам і загранічнікам" (у тым ліку і палякам) забаранялася займаць у нас дзяржаўныя і царкоўныя пасады, купляць зямлю. І хоць гэтыя законы часам абыходзіліся, прыкметнай міграцыі палякаў у Беларусь тады не было.

У другой палове XVII стагоддзя дзеля розных сацыяльна-палітычных прычынаў пакрысе пачаўся працэс паланізацыі (г. зн. апалячвання) беларускай шляхты і найвышэйшых станаў грамадства. Пазней, у XIX стагоддзі, хваля паланізацыі часткова закранула і сялянства, пераважна праз каталіцкі касцёл (нагадаем, што пасля ліквідацыі расійцамі вуніяцкай царквы больш за мільён беларусаў, пратэстуючы супраць гэтага гвалту, перайшлі ў каталіцтва). Ксяндзы, часта наўмысна атаясамліваючы нацыянальнасць і веравызнанне, прапаведвалі заганную формулу: хто трымаецца "польскай" (каталіцкай) веры - той паляк.

У выніку гэтых працэсаў, паводле перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 года, палякамі запісалася 12% жыхароў Беларусі. Гэтаксама, згодна з дадзенымі Кракаўскага статыстычнага камітэта, у 1912 годзе сярод насельнікаў Гродзенскай губерні было 10,07% палякаў, а ў Віленскай яшчэ меней - 8,17%.

У Заходняй Беларусі падчас яе знаходжання ў складзе Польскай дзяржавы ў 20-30-х гадах праводзілася дзяржаўная палітыка апалячвання, якая суправаджалася перасьледамі ўсяго беларускага. Польскія ўлады маніпулявалі статыстычнымі дадзенымі, штучна завышаючы лік польскага насельніцтва. Не абмяжоўваючыся гэтым, яны праводзілі палітыку наўпроставай каланізацыі, перасяліўшы ў Заходнюю Беларусь з этнічнай Польшчы блізу 300 тысяч чалавек гэтак званых асаднікаў (каланістаў).

На тэрыторыі Усходняй Беларусі (БССР) палякі тады складалі не больш за 3% насельніцтва, або 97,5 тысячы чалавек (дадзеныя 1926 года).

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР, у 1940 годзе, у выніку сталінскіх рэпрэсіяў блізу 600 тысяч чалавек каталіцкага веравызнання (у іх ліку практычна ўсе асаднікі) былі высланыя ў Сібір.

У 40-50-х гадах, пасля Другой сусветнай вайны, лік польскага насельніцтва ў Беларусі яшчэ болей зменшыўся. У выніку польска-савецкіх міждзяржаўных пагадненняў каля 500 тысяч беларускіх каталікоў (пераважна сялян, што ўцякалі ад калгасаў) выехалі на сталае жыхарства ў Польскую Народную Рэспубліку.

Як ні парадаксальна, але і пасля гэтага ў БССР, паводле перапісу 1989 года, жыло 418 тысяч палякаў, з якіх 13,3% лічылі роднай мовай польскую. Дык адкуль жа яны ўзяліся? Мы ж ведаем, што на працягу ўсёй нашай гісторыі значнага перасялення палякаў на нашыя землі не было (з выняткам з'явы асадніцтва, якое, аднак, не пакінула па сабе этнадэмаграфічнага следу).

Значыць, яны "прадукуюцца" тут, у Беларусі. І "прадукуе" іх, без сумневу, польскі каталіцкі касцёл. Менавіта ён сёння, як і сто, як і дзвесце гадоў таму, робіць палякаў з беларусаў-каталікоў, прышчапляючы ім польскую нацыянальную свядомасць.

Усё гэта вельмі добра пацвярджаецца і дадзенымі антрапалогіі, вывучэннем мовы і культурных традыцыяў польскай меншасці ў нашай краіне. Яны пераканаўча сведчаць, што пераважная колькасць тых, хто лічыць тут сябе палякамі, - беларусы паводле свайго паходжання.

Такім чынам, не адмаўляючы наяўнасці ў Беларусі этнічных палякаў, даводзіцца прызнаць: у абсалютнай большасці мясцовыя палякі, як, дарэчы, і тыя, што жывуць на Віленшчыне, - гэта апалячаныя беларусы.

Юрась ЯНУШКЕВІЧ.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Пятро Краўчанка: "Улада разумее — мяне лепш не чапаць"

Міхась Скобла, Менск, Рад. "Свабода".

Пасьля скандальнага сыходу з дыпляматычнай службы і заявы аб удзеле ў прэзыдэнцкіх выбарах Пятро Краўчанка ўзяў палітычны тайм-аўт. Ён актыўна кантактуе з інтэлігенцыяй, выступае на розных культурніцкіх імпрэзах, нават заняўся дабрачыннай дзейнасьцю, што для палітыка, пагадзіцеся, нехарактэрна. А яшчэ ён робіць выгляд дасьведчанага і ўпэўненага ў сваіх сілах чалавека. Сёньня былы міністар замежных справаў і былы амбасадар Беларусі ў Японіі — наш госьць.

(Міхась Скобла:) "Пятро Кузьміч, хачу пачаць нашую гутарку з камплімэнту: вы заўсёды маеце імпазантны выгляд. Адпаведна апранаецца, трымаць сябе ў форме раней абавязваў міністэрскі, амбасадарскі ранг. Пасьля вашага сыходу з дыпляматычнай службы прайшоў ужо даволі працяглы час. Ці ўладкаваліся вы на працу?"

(Пятро Краўчанка:) "Доўгі час я нідзе не працаваў, і толькі гэтай восеньню я змог уладкавацца ў Маскве. Цяпер займаюся некалькімі праектамі адначасова, адзін зь іх зьвязаны з пастаўкамі энэргетычных рэсурсаў у Паўднёвую Карэю, Кітай і Японію, што дазваляе мне часта выяжджаць за мяжу. Я таксама займаюся інфармацыйна-аналітычнай дзейнасьцю й думаю, што праз пэўны час будзе створаная адпаведная структура.

Калі родная Беларусь ня можа мне нічога прапанаваць (я тут ня скарджуся на Радзіму-маці, а, зразумела, маю на ўвазе іншыя колы), то мае здольнасьці, мае сувязі й кантакты выкарыстоўвае братняя Расея на сваю карысьць".

(Скобла:) "А дзе вы жывяце?"

(Краўчанка:) "Пераважна ў Маскве. Гэта нагадвае вахтавыя мэтады працы нашых людзей, якія лётаюць працаваць на нафтавых і газавых радовішчах у Цюмені, Сургуце ды іншых рэгіёнах Расеі. А трымаць сябе ў добрай форме – імпэратыў любога палітыка. Сёньня палітык павінен быць рэспэктабэльны, людзям надакучылі маргіналы, якія ня сочаць за сабой, абы-як апранаюцца і нецывілізавана паводзяць сябе".

(Скобла:) "Вы ахвотна наведваеце розныя культурніцкія імпрэзы, літаратурныя вечарыны. Гэта патрэба душы, ці гэтага вымагае ваша дзейнасьць як палітыка, які як найчасьцей павінен бываць у гушчыні народу?"

(Краўчанка:) "Сваімі ўдзеламі ў культурніцкіх мерапрыемствах я проста хачу засьведчыць сваю павагу да творчай інтэлігенцыі, якая сёньня перажывае ня лепшыя часы. Мне хочацца добрым словам, сваім прыкладам, сваёй невялікай спонсарскай дапамогай падтрымаць інтэлігенцыю і сказаць: ня ўсё так безнадзейна, давайце верыць у лепшую будучыню.

Толькі цягам апошніх месяцаў мне давялося ўдзельнічаць у дзясятку розных акцыяў. Днямі ў Доме літаратара прайшла ўрачыстая вечарына, прысьвечаная 100-годзьдзю нашай вялікай паэткі Натальлі

Арсеньневай, зь якой я меў гонар быць знаёмы і некалькі разоў сустракаўся ў ЗША. Вечарына прайшла без удзелу дзяржавы, але якая цёплая сяброўская атмасфэра была на ёй! Таксама днямі я езьдзіў у Маладэчна на адкрыцьцё помніка гісторыку Міколу Ермаловічу. Быў і ў Зэльве, дзе на цьвінтары царквы ўстаноўлены помнік славутай паэтцы Ларысе Геніюш. Прынагодна мне хацелася б выказаць падзяку ўладыку Філарэту, які даў дазвол на ўстаноўку помніка каля царквы. Мне прыемна, што я зьяўляюся адным са спонсараў гэтага праекту. Я дапамог таксама адліць з бронзы і мэмарыяльную дошку ў гонар Натальлі Арсеньневай, якую неўзабаве мяркуецца ўстанавіць у Вільні на будынку Беларускай гімназіі, дзе вучылася паэтка".

(Скобла:) "Будучы яшчэ міністрам замежных справаў Беларусі, вы часам надзявалі кашулю-вышыванку зь беларускім нацыянальным арнамэнтам. Вы яе знасілі ці прыхавалі да лепшых часоў?"

(Краўчанка:) "Кашуляў-вышыванак з рознымі ўзорамі ў мяне, можа, пяць ці шэсьць. Адна зь іх мае цікавую гісторыю. Яе ў свой час прэзэнтаваў Панцеляймон Панамарэнка Якубу Коласу, Якуб Колас — Максіму Лужаніну, а Лужанін — мне. Я захоўваю яе як каштоўную рэліквію, як сьведчаньне таго, што і сярод кіраўнікоў КПБ, прытым не беларусаў па крыві, былі людзі, якія шанавалі нашыя традыцыі, адносіліся з павагай да беларускай культуры. А тую кашулю, якую я надзяваў, мне падаравалі жанчыны зь Менску. Я зьяўляўся ў ёй на трыбуне ААН, разумеючы ўсе наступствы гэтага кроку. Але я рабіў гэта сьвядома. Папершае, лічыў, што беларускі традыцыйны строй ня горшы за строі іранцаў ці інданэзійцаў, якія прыходзілі ў ААН у сваім нацыянальным адзеньні. Па-другое, мне хацелася зацікавіць, нават эпатаваць дыпляматычную публіку. Я рабіў усё, каб прыцягнуць увагу да Беларусі.

Але я ня толькі вышыванку надзяваў. У кожным сваім выступе ў ААН я выкарыстоўваў цытаты зь беларускіх клясыкаў. З ААНаўскай трыбуны гучалі радкі Купалы, Коласа, Багдановіча, Жылкі, Дубоўкі, Геніюш, Арсеньневай. І на эмацыйныя нетрадыцыйныя выступы маладога міністра незалежнай Беларусі зьвярталі ўвагу замежныя калегі".

(Скобла:) "Вы былі міністрам у той час, калі ўлада была больш інтэлігентная. Сёньня яна больш жорсткая, брутальная й цынічная. Як у такіх умовах змагацца й перамагаць? Як увогуле інтэлігент можа перамагчы хама, які разумее толькі сілу?"

(Краўчанка:) "Выйсьце толькі адно — інтэлігент можа перамагчы сваёй творчасьцю. Сёньня ўсе беларускія пісьменьнікі й мастакі павінны працаваць з падвойнай, патройнай энэргіяй і ствараць такія творы, якія б паказвалі ўсю недарэчнасьць гэтай улады. Мы забываем, якая гэта магутная зброя — сатыра і гратэск. Таму давайце будзем сьмяяцца з гэтай улады, будзем яе высьмейваць і паказваць усю яе нікчэмнасьць і разбэшчанасьць. Яна сёньня нічога ня вартая. І яна будзе зьнішчаная народным сьмехам. Так што сатыра, гратэск і гумар — сёньня нашая галоўная зброя".

(Скобла:) "А самі вы як ставіцеся да насьмешак, да крытыкі на свой адрас?"

(Краўчанка:) "На крытыку я рэагую таксама сьмехам, сьмяюся разам з тым, хто мяне крытыкуе. Ні ў якім разе ня трэба ставаць у хваравітую позу. Калісьці паэт Рыгор Барадулін напісаў эпіграму на мяне.

*Дыпляматычныя валізкі*
*Цяпер цягае, як свае.*
*Пра блізкі крах капіталізму*
*Ужо пытаньня не ўстае.*

Гэтыя радкі дапамаглі мне многае зразумець".

(Скобла:) "Наступнае маё пытаньне не зусім дыпляматычнае. Вядомы філёзаф-сатырык Станіслаў Ежы Лец пісаў, што многія ўладары адсякалі бы сваім падначаленым рукі, каб ня мелі патрэбы ў апляцысмэнтах. За пяць гадоў працы амбасадарам у Токіё колькі разоў вам даводзілася пляскаць у ладкі таму, хто вас туды прызначыў?"

(Краўчанка:) "Тут патрэбнае невялічкае адступленьне. А чаму Лукашэнкам з усёй апазыцыі толькі мне была прапанавана пасада пасла? Думаю, што ён разумеў: я для яго канкурэнт. Нягледзячы на тое, што я быў сярод тых 68 дэпутатаў, якія падпісаліся пад імпічмэнтам (дарэчы, ад свайго подпісу я не адмовіўся нават тады, калі быў паслом). І ўсё ж ён у 1998 годзе падпісаў указ аб маім прызначэньні. Сытуацыя была вельмі простая: Краўчанку як палітычную фігуру трэба было зьняць з шахматнай дошкі й адсунуць убок. Гэта было формай палітычнай нэўтралізацыі й нават палітычнага зьнішчэньня. Лукашэнка разумеў, што апазыцыя таксама адрэагуе адпаведна".

(Скобла:) "Так яно й сталася".

(Краўчанка:) "Так і сталася, і часткова ён дамогся сваёй мэты. Але тут прысутнічалі яшчэ й падыходы Расеі, якіх ён ня мог ня ўлічваць. Пэўныя расейскія палітычныя колы зрабілі ўсё магчымае, каб палітычна мяне захаваць. А я хацеў працаваць на карысьць беларускай дзяржавы і разумеў, што ў наступныя пяцьсем гадоў у апазыцыі няма чаго рабіць. Выводзіць моладзь на вуліцу, на барыкады? Рызыкаваць яе жыцьцём? Я не хацеў гэтага рабіць, разумеў, што яшчэ не прыйшоў час. Паехаўшы ў Японію, я служыў не Лукашэнку, а Беларусі. Я апынуўся ў тым асяродзьдзі, якое ведаў, змог прафэсійна аднавіцца і — самае галоўнае — змог усталяваць патрэбныя мне палітычныя кантакты на Ўсходзе і Захадзе. Я скантактаваўся з эўрапейскімі палітыкамі, пазнаёміўся з усёй расейскай палітычнай элітай, якая бывала ў Токіё, я пачаў умацоўвацца. Што й стала прычынай маёй адстаўкі й таго скандалу, які быў справакаваны беларускімі ўладамі.

А што датычыць плясканьня ў ладкі, то я ніколі гэтым не займаўся. За пяць гадоў майго знаходжаньня ў Японіі вы ня знойдзеце ні ў прэсе, ні ў дакумэнтах ніводнага майго дыфірамбу на адрас Лукашэнкі. Я шчыра працаваў для Беларусі й дазволіў сабе крытычныя выказваньні ў бок улады толькі тады, калі пакінуў пасаду пасла. У красавіку гэтага году, выступаючы перад ідэалягічным актывам Беларусі, Аляксандар Лукашэнка прызнаўся, што "даў дазвол сакрэтным службам выкрасьці Краўчанку з Токіё і прывесьці ў Беларусь". Выкрасьці й прывесьці — як мяшок з бульбай. І калі мне стала зразумела, хто стаяў за гэтай правакацыяй, я адказаў ударам на ўдар. Я не шукаў сваркі, але калі мне б'юць па твары, я вымушаны адказваць. У палітыцы нэўтралітэту не бывае. На кожны крок з боку афіцыйных уладаў я буду адказваць адэкватна. І сёньня я магу сказаць, што ёсьць пэўная раўнавага: улада разумее, што мяне лепш не чапаць".

(Скобла:) "Ці не зарана вы заявілі пра свой удзел у прэзыдэнцкіх выбарах? За тры гады ўлады могуць прымусіць вас — рознымі спосабамі — адмовіцца ад сваёй задумы".

(Краўчанка:) "Я думаю, што ў іх гэта не атрымаецца. Рубікон пяройдзены. Пра свой удзел у выбарах я заявіў у Токіё — пасьля вядомай правакацыі. Пра гэта я заявіў паўторна, выступаючы ў верасьні на тэлеканале ТВЦ, які кантралюецца Лужковым, і гэта таксама цікавы факт. Тры гады — аптымальны тэрмін для падрыхтоўкі прэзыдэнцкай кампаніі. За меншы тэрмін палітык проста ня мае шанцаў, даруйце за вульгарызм, раскруціцца".

(Скобла:) "Вы часта вымушаныя езьдзіць у Маскву. У маскоўскім цягніку выспаца не пасьпееш. Што вы бераце пачытаць у дарогу?"

(Краўчанка:) "Я вельмі люблю чытаць творы Ларысы Геніюш — яе "Споведзь" я перачытаў разоў сем і лічу гэтую кнігу адной з самых выдатных у 20 стагодзьдзі. Яе павінен прачытаць кожны малады беларус. Часам я бяру з сабой кнігу Натальлі Арсеньневай "Між берагамі", вось і цяпер яна ў мяне з сабой. На ёй ёсьць аўтограф: "На добрую памятку даражэнькаму Пятру Краўчанку — таму, хто любіць і разумее паэзію і паэтаў. Натальля Арсеньнева. Красавік 1992 году". Дарэчы, у мяне ёсьць і яе ўнікальнае выданьне — зборнік "Сягоньня", выда- дзены яшчэ ў 1944 годзе ў Вільні".

(Скобла:) "І вы носіце гэткія рарытэты з сабой"

(Краўчанка:) "А часам вельмі хочацца пачытаць! І я бяру іх і чытаю ў цягніку, не баюся. Апрача таго, я люблю паказваць беларускія рарытэты землякам, якія жывуць у Маскве. Гэта можа быць манэта, мэдаль, кніга, рукапіс, старадрукі. У мяне вялікая калекцыя, я зьбіраю ўсё, што працуе на беларускую ідэю, што служыць сьведчаньнем тысячагадовай дзяржаўнасьці Беларусі. Мая мара як калекцыянэра — знайсьці й мець у сваім зборы Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 году. А ў палітыцы я быў і застаюся дзяржаўнікам і ўпэўнены, што беларуская дзяржава зойме пачэснае месца між эўрапейскімі краінамі".

*********************************************

# Польшча павінна абудзіць Беларусь

**Ян Новак-Езяраньскі:** - Труізмам лічыцца тэза, што паяднаньне й зьбліжэньне з нашымі сямю суседзямі, зьяўляецца жыцьцёвым інтарэсам польскай бясьпекі. Упершыню ў гісторыі Польшчы не пагражае Нямеччына, якая стаецца інтэгральнай часткай Эўрапейскага Зьвязу. Нямеччына не зьяўляецца пагрозай, бо Нямеччына не зацікаўленая разьбіцьцём цяперашняй эўрапейскай структуры, якая хаця й абмяжоўвае саму Нямеччыну, аднак прыносіць вялізную эканамічную карысьць.

А вось адносіны Польшчы з усходнімі суседзямі надалей не такія стабільныя, як з Эўрапейскім Зьвязам. Будучыня гэтых дачыненьняў залежыць ад таго, як будзе кшталтавацца лёс і палітыка трох суседкаў Польшчы – Беларусі, Украіны й Расеі. Умовай бясьпекі ўсходніх межаў Польшчы зьяўляецца кансалідацыя незалежнай дзяржаўнасьці Беларусі ды Украіны. Пакуль гэтага ня будзе, расейцы не пагодзяцца да канца са сваімі заходнімі межамі. У расейскіх элітаў надалей існуе надзея, што ўдасца вярнуць - хаця б часткова - стан валадарства, страчанага ў 1990 г. Унутраная слабасьць абодвух заходніх суседзяў Расеі падтрымоўвае гэтыя мары. Гаспадаркі Украіны й Беларусі небясьпечна залежныя ад расейскіх пастаўкаў стратэгічнай сыравіны ды энэргіі. Рост гаспадарчай залежнасьці ад Расеі можа прывесьці да таго, што ў будучыні Расея схоча дыктаваць Кіеву й Менску свае палітычныя ўмовы. Гэта быў бы канец сувэрэнітэту Украіны й Беларусі. Польшча апынулася б зноў твар у твар з адраджэннем імпэрыі, якай паводле самой сваёй натуры імкнецца да пашырэньня сваіх уплываў на слабейшых суседзяў.

Таму актыўная палітыка ў дачыненні да Беларусі ды Украіны павінна быць для Польшчы стратэгічным прыярытэтам. Я наўмысна, называючы гэтыя дзьве краіны, на першым месцы стаўлю Беларусь, а не Украіну. Па-першае таму, што парэшткі незалежнасьці Беларусі апынуліся пад значнай большай пагрозай. Сярод дзяржаваў, якія паўсталі пасьля распаду Савецкага Саюзу, Беларусь была найслабейшай – у тым сэнсе, што толькі тут засталіся ля ўлады былыя савецкія партыйныя бюракраты, якія кіруюць у аўтарытарным стылі. Для палякаў Беларусь спрадвеку была часткай Літвы. Проста Літвой. Тадэвуш Касьцюшка і Адам Міцкевіч лічацца і самі сябе лічылі ліцьвінамі, а абодва яны нарадзіліся на зямлі сённяшняй Беларусі. Ня толькі для палякаў і расейцаў, але ў вачох саміх беларусаў іхная краіна была часткай чагосьці большага. Спачатку Рэчы Паспалітай, Потым Расеі. Сёньня, апрача эканамічнага убоства, найвялікшай унутранай пагрозай Беларусі зьяўляецца адсутнасьць пачуцьця этнічнай тоеснасьці ў вялікай часткі грамадзтва. Саветызацыя ў галовах і русыфікацыя цягам 75 гадоў СССР зрабілі свае страшэнныя спусташэньні. Большасьць беларусаў разумее беларускую мову, але не карыстаецца ёй. Расейская мова дамінуе ў сем'ях і ведамствах, у школах і ўнівэрсытэтах, у палітычным і культурным, жыцьці. Апазыцыя йсуе, і мае патэнцыял, якога нельга ігнараваць. Найбольшай перашкодакй для апазыцыі зьяўляецца тое, што яе не дапушчаюць да СМІ, а значыць яна ня можа ўплываць на грамадзтва.

Якую пазыцыю магла б заняць Польшча, каб прычыніцца да замацаваньня беларускай дзяржаўнасьці? Мы ня можам сабе дазволіць весьці палітыку зачэпак у дачыненні да Расеі. Перадусім, у нас няма дастатковых сродкаў, каб дзейнічаць самастойна. Мы можам быць эфэктыўнымі толькі разам з эўрапейскім Зьвязам і Злучанымі Штатамі. Роля Польшчы павінна быць у тым, каб абудзіць зацікаўленне беларускімі справамі як у Эўропе, так і ў Штатах. Партнэрства з Амэрыкай здаецца тут лягчэйшым, чым з разнароднай па сваёй натуры Эўропай. Польшча павінна зьвярнуцца да Вашынгтону з канкрэтнай праграмай супрацоўніцтва, і супольнай стратэгіі на ўзор тае, якая прынесла нядаўна посьпех у Польшчы й Цэнтральнай Эўропе. Гэта была б далёкабачная палітыка канкрэтных дзеяньняў. Сутнасьць яе была б у тым, каб пры дапамозе ўсіх даступных сродкаў адчыніць польскія дзьвery й вокны на усход, а яе галоўнымі прыладамі былі б словы свабоды як носбіты ідэяў у этэры радыё і масавая кантрабанда друкаванага слова. Мэтай было б нацыянальнае абуджэнне беларускага грамадзтва. Трэба нагадаць яму ягоную гісторыю, нашую супольную спадчыну, дасягненьні у маштабе іхнай уласнай краіны і Эўропы. Неабходнае дапушчэньне да голасу беларускіх прадстаўнікоў розных арыентацыяў і праекцыя плюралізму дэмакратычнай свабоды слова. Другім паралельным інструмэнтам польска-беларускай супрацы было б тое, каб запрашаць маладых беларусаў – патэнцыйных беларускіх лідараў у Польшчу, дзе б яны знаёміліся з польскім самакіраваньнем, гаспадарчымі й няўрадавымі грамадзянскімі ініцыятывамі. З пункту гледжаньня большай эфэктыўнасьці, лепшыя вынікі прынясе, калі запрасіць тысячу беларусаў на тыдзен, чым запрашаць 10 беларусаў на год.

Злучаныя Штаты прычыніліся да посьпеху адраджэньня незалежнай польскай дзяржавы, адукуючы ў Эўропе й Амэрыцы кадры будучай вольнай Польшчы. Гэты выпрабаваны мэтад можна паўтарыць у дачыненні да Беларусі.

**Ян Новак-Езяраньскі**

# ...Ці гатовы сёньня народ у правінцыі да перамен?

...Калі па праўдзе, то залішняга аптымізму на гэты конт няма. Людзі недасведчаныя ў тым, што і чаму адбываецца ў краіне і як гэта можна змяніць. Нездарма ж улады так паслядоўна глушаць недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі.

Асабліва сумная сітуацыя на вёсцы: людзі вымірають цэлымі сем'ямі. Тыя, хто яшчэ неяк трымаецца, страшэнна п'юць: п'е жонка, п'е муж. Ці можа ў такой сям'і нарадзіцца здаровае дзіця? Пад пагрозай -- генафонд нацыі. Такія небаракі не атрымліваюць амаль ніякіх заробкаў, але ніхто з іх не крычыць: людцы добрыя, давайце збяромся разам і паставім перад уладамі пытанне рубам - колькі можна здзекавацца з народа? У іх адно ў галаве: як дзе што-небудзь скрасці? Вось такія якраз аб'ектыўна і патрэбны ўладзе - каб маўчалі і ні аб чым "такім" не думалі. Калі нехта з апазіцыі лічыць, што варта правесці з такімі гутарку - і яны ў адказ запляскаюць у ладкі і падтрымаюць іх на выбарах, то гэта, лічу, памылка, самападман! Тут трэба карпатлівая, сістэмная работа.

Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар

# Дык хто мы - "арыгінал" ці "копія"?

Рупары афіцыйнай прапаганды, каб апраўдаць правядзенне прарасійскага курсу, дзе ў завуаляванай форме, а дзе і адкрытым тэкстам сцвярджаюць, што нібыта у саміх беларусаў адсутнічае ўсялякае жаданне прытрымліваца ўласных нацыянальна-культурных традыцый, гэта значыць - быць самімі сабой. Хтосьці з іх навязвае думку пра нібыта неіснаванне самой беларускай нацыі, хтосьці распаўсюджвае рэанімаваны міф пра ледзь не поўную тоеснасць паміж беларускім і рускім народамі. Прычым асаблівай папулярнасцю падобныя фальсіфікацыі карыстаюцца ў кіруючых асоб краіны сервільнай інтэлігенцыі. А калі прызнаць, што існуе такая тоеснасць, значыцца, няма аніякай патрэбы будаваць наша жыццё паводле ўласных культурна-моўных стандартаў. Бяры тое, што стагоддзямі насаджалася русіфікатарскай практыкай царскай Расіі, затым СССР-БССР, - і ніякіх размоў. Дык хто ж мы, беларусы? Няўжо і праўда рускія? Адказаць на гэтае прынцыповае ва ўсе часы пытанне адным толькі "Не!" значыла б пакінуць гэтае самае пытанне і надалей адкрытым. Каб паставіць усе кропкі над "і", тут не абысціся без грунтоўнага экскурсу ў гісторыю, што немагчыма зрабіць у газетнай публікацыі. Таму коратка спынюся хаця б на самых асноўных аспектах, што не даюць падставаў атаясамліваць два славянскія народы - беларусаў і рускіх.

**У пошуках праўды**

Сярод многіх даследчыкаў этнічнай гісторыі славян зацвердзіўся погляд, што на абсягі Усходняй Еўропы яны прыбылі з ужо выразнымі культурна-моўнымі асаблівасцямі. З гэтым нельга не пагадзіцца, бо славянская моўная сям'я індаеўрапейцаў і да перасялення ў гэтую частку Еўропы займала немалую тэрыторыю, кантактавала з іншымі групамі індаеўрапейцаў, асабліва з германскай. Але ў значнай ступені менавіта нежаданне славян стаць ахвярай германізацыі прымусіла іх шукаць паратунку ў іншым месцы. Яны яго знайшлі.

На новай для сябе тэрыторыі славяне сутыкнуліся з разнародным у этнакультурным плане тубыльскім насельніцтвам. У выніку кровазмяшэння сталі ўзнікаць не ва ўсім падобныя адна на адну этнічныя супольнасці. На тэрыторыі нашай краіны - гэта ў асноўным дрыгавічы, крывічы і радзімічы. Падобных да іх племянных аб'яднанняў на абшарах Усходняй Еўропы больш нідзе не існавала.

Нашы далёкія прашчуры тварылі ўласнае жыццё самастойна, менш за ўсё азіраючыся па баках. Таму ёсць усе падставы сцвярджаць, што этнічныя адметнасці паміж беларусамі, украінцамі і рускімі сягаюць у вельмі глыбокую даўніну. У іх і ў далейшым было шмат адрознага ў этнічным жыцці. Узяць, да прыкладу, шматгадовае панаванне татара-мангольскіх плямёнаў на ўсходнеславянскай тэрыторыі, якое таксама не вызначалася аднолькавым уздзеяннем на этнічнае развіццё насельніцтва.

Непадобным было этнакультурнае жыццё ў беларусаў і рускіх, калі першыя больш за пяць стагоддзяў знаходзіліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага, затым Рэчы Паспалітай і зведалі на сабе агромністы ўплыў лацінскай культуры, рымска-каталіцкай рэлігіі, не пазбеглі і польскага ўплыву. Апошнія ж (рускія) больш прытрымліваліся візантыйскіх, усходнеславянскіх традыцый, з'яўляліся цытадэллю праваслаўя. У тагачасным жыцці беларусаў было нашмат больш агульнага з украінцамі і палякамі, чым з рускімі. І гэта быў не столькі выбар беларусаў, колькі іх лёс, далёкі ад сапраўднага шчасця. Паланізацыя прычыніла ім каласальныя страты, моцна затармазіла культурнае развіццё. Гэта яна напрактыкавала нашыя самыя заможныя і адукаваныя слаі насельніцтва больш паважаць чужое, чым уласнае, ад чаго яны і сёння ніяк не могуць вызваліцца - з той толькі розніцай, што раней аддавалі перавагу і жылі польскімі культурна-моўнымі каштоўнасцямі, а потым і зараз - рускімі.

Неабвержным доказам ўсведамлення нашымі далёкімі продкамі свайго адрознення ад суседніх славянскіх народаў найперш за ўсё можна лічыць наяўнасць сваёй адметнай мовы, якая ўжо з сярэдзіны XIV стагоддзя фактычна выконвала ролю дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім. Ні тады, ні ў перыяд Рэчы Паспалітай (1569-1795 гг.) ніхто з сур'ёзных навукоўцаў не дазваляў сабе ўсумніцца ў арыгінальнасці, самабытнасці нашай тагачаснай мовы, якую прынята было іменаваць "рускай". У адрозненне ад яе мову тагачаснай Рускай дзяржавы называлі ў той час "маскоўскай".

Абсалютная бальшыня нашых продкаў не выракласа матчынай мовы і праз сто гадоў пасля таго, як з "вялікай ласкі" прапольскіх уладаў яе з 1696 года вывелі са службовага справаводства. Але як ні намагаліся тыя прывучыць моўна абрабаваных ліцвінаў глядзець на сябе як на палякаў, - нічога не атрымалася. На такую здраду пайшлі толькі свядомыя перабежчыкі: адарваўшыся ад родных духоўных каранёў, яны нават сваю нацыянальнасць змянілі на карысць чужой.

**Падгонка пад рускага**

Моцна абрабаваны свецкай уладай і каталіцкім духавенствам Рэчы Паспалітай народ, які называў сябе пераважна ліцвінамі (літвінамі, літоўцамі), быў пазбаўлены ўмоў для нармальнага этнакультурнага развіцця і пасля гвалтоўнага далучэння да царскай Расіі. Калі раней з яго майстравалі паляка, дык зараз - рускага, спасылаючыся на кіеўскую калыску, у якой калісьці нібыта гадавалася трое дзяцей ад адной маткі. Таму, маўляў, усе пакаленні ад тых трох дзяцей складаюць адзін - рускі народ.

Ідэя атаясамлівання карэннага насельніцтва нашага краю з рускімі належыць палітыкам і ідэолагам царскай Расіі. Спатрэбілася такая выдумка дзеля таго, каб апраўдаць гвалтоўнае далучэнне да яе жыхароў славянскіх земляў ВКЛ, якія знаходзіліся ў складзе Рэчы Паспалітай. Вось толькі тагачасная назва гэтых жыхароў "ліцвіны" ("літоўцы") ніяк не дапасоўвалася да этноніма "рускі". Таму выбар паў на другую, праўда, не такую распаўсюджаную назву - "беларусы", якая ў другой палове XVII ст. з'явілася на ўсходніх землях нашай Бацькаўшчыны. У навязаным царызмам этноніме "беларусы" сцвярджалася блізкасць да тэрміна "рускі", а спрадвечная, самая пашыраная назва "літвіны" была закрэслена.

Жыццё паказала, што на прыдбаных расійскімі ўладарамі пры падзелах Рэчы Паспалітай землях зусім няпроста здзейсніць пажаданне імператрыцы Кацярыны II "... каб мяжа іншанародная знікла, старажытныя вобласці рускія (г.зн. - цяперашнія беларускія! - Л.Л.) былі рускімі не адным імем, а душою і сэрцам".

Але жыхарства гэтых земляў імкнулася заставацца самім сабою, ніяк не жадала растварыцца сярод рускіх, палякаў, украінцаў, нягледзячы на культурна-моўную блізкасць да іх. Яно не ўспрымала навязаныя ім штучныя, кніжныя назвы "рускія", "беларусы", "Белая Русь", "Беларусь". Нягледзячы на вялікія старанні, уладам доўгі час ніяк не ўдавалася абмежаваць бытаванне спрадвечных, натуральных для гэтай зямлі тэрмінаў "Літва", "ліцвіны", "літоўцы". Адначасова яны ўсё больш і больш прывабівалі да сябе жыхароў (асабліва іх адукаваную частку). Жмудзі і Аўкштайціі, на якіх пазней сфарміраваліся сучасныя літоўцы. Заўважу, што замацаванню тэрмінаў "Літва", "літоўцы" на тых землях усяляк садзейнічалі і ўлады царскай Расіі - у надзеі, што ў падобнай сітуацыі будзе лягчэй распаўсюдзіць назву "русские" ці хаця б - "белорусы" на жыхароў астатняй тэрыторыі колішняга Вялікага княства Літоўскага.

**Мы хочам знікнуць?**

Сапраўдны хаос панаваў адносна вызначэння этымалогіі тэрміна "Белая Русь", і чым толькі падкрэслівалася яго ненатуральнасць для нашай зямлі. Аніводзін навуковец не здолеў пераканаўча акрэсліць і межы Белай Русі. Апошняя, пісаў знаўца нашага краю рускі фалькларыст-славіст, гісторык літаратуры Пётр Бяссонаў (1828-1898), "то супадае яна з Літвою, з Польшчаю, з Малой Руссю, з Чорнай, з Палессем, з Падляссем; то выдзяляецца з Літвы, варагуе і змагаецца з Польшчаю, не сыходзіцца з Руссю Малой, сапернічае з Чорнаю, адмяжоўваецца ад Палесся і Падляссся. Дзіўным чынам, менш за ўсё супадае яна проста з Руссю..."

Упартае нежаданне пераважнай часткі насельніцтва, галоўным чынам адукаванай, адмовіцца ад спрадвечнай назвы і пагадзіцца з коранем "рус", прымусіла задумацца многіх, хто з цэнтра і на мясцовым узроўні кіраваў колішнімі землямі ВКЛ. Лепшага выйсця як тое, што было прапанавана яшчэ Кацярынай II, не знайшлі. Свецкія і духоўныя чыноўнікі распачалі на гэтай частцы царскай Расіі мэтанакіраваную, различаную по працягласці тэрмін дзяржаўную палітыку русіфікацыі. Каб асабліва не дражніць гусей, палічылі за лепшае называць мясцовае насельніцтва не адразу рускімі, а напачатку беларусамі...

Як бачым, тэрміны "Белая Русь", "беларусы" нараджаліся не натуральным шляхам, а, так бы мовіць, у выніку "кесарава сячэння". Прыняты русіфікатарамі для спрадвечнага насельніцтва нашай Бацькаўшчыны этнонім "беларусы" разглядаўся менавіта як пераходная (па іх разліках) прыступка да этноніма самай высокай катэгорыі насельніцтва ў царскай імперыі - "русские". Ды нашы яны абачлівыя продкі не клюнулі на гэта. Не прынялі яны і тонка навязанага рэакцыйнай часткай рускай інтэлігенцыі этноніма "западнорусы", які, меркавалася, вельмі хутка перарасце ў найменне "русские" і стане пануючым на нашых абсягах. У дасягненні гэтай архідыскрымінацыйнай мэты галоўную стаўку рабілі на рускамоўную школу і русіфікатарскую дзейнасць прысланых сюды папоў.

Нягледзячы на старанні мясцовага чыноўніцтва праўрускай арыентацыі і такой жа пазіцыі праваслаўнага духавенства выхаваць у карэннага насельніцтва погляд на сябе як на рускіх, яно ў сваёй пераважнай бальшыні ўсё ж бачыла розніцу між сабою і рускімі, якіх паранейшаму многія называлі "маскалямі". Нават калі беларусы пад уздзеяннем ідэалагічнай апрацоўкі (галоўным чынам - праваслаўнай царквою) і называлі сябе рускімі, дык "маскалямі" - ні ў якім разе. Больш таго, гэтае слова ў іх часцей за ўсё спараджала адмоўную рэакцыю.

...Чаго не ўдалося зрабіць за часамі царскай Расіі і СССР, тое ўсяляк імкнецца ў апірышчы на дэнацыяналізаваную частку інтэлігенцыі даверлівы чыноўніцкі апарат Рэспублікі Беларусь. Каб адарваць беларусаў ад свайго нацыянальнага "Я", стала надзвычай модным у афіцыйных колах пісаць і гаварыць, што яны, беларусы, не ўяўляюць сабой аніякага самабытнага народа, а ёсць ні больш ні менш як рускія... Сёння Беларусь вяртаюць да далёкіх часоў расійскай імператрыцы Кацярыны II. Патрэба ў такім міфе ў найбольшай ступені абумоўлена захадамі дзяржавы па палітычным аб'яднанні Беларусі з Расіяй, у якім дазвання зрусіфікаванае карэннае насельніцтва не будзе мець аніякіх шанцаў на этнічнае выжыванне. А каб беларусы не надта пужаліся такой канчыны, ім пры любым зручным выпадку ўнушаюць: "Так мы же - русские!". Радуе, што гэта не знаходзіць ухвалення з боку многіх беларусаў, прычым нават і тых, хто з розных прычын дрэнна валодае роднай мовай і ўсё яшчэ сілкуецца з чужых духоўных каштоўнасцяў.

Міф пра адзіны руска-беларускі народ вельмі выгадны для сучасных антыбеларускіх па духу палітыкаў, бо спрыяе курсу на незваротнае ўкараненне ў нас нацыянальных пачаткаў іншай краіны. А прыродныя, уласныя адпаведнікі знаходзяцца ў стане найстрашнейшага запусцення.

Але трэба ведаць, што толькі ў сваёй роднай культурна-моўнай стыхіі беларусы належным чынам прыстойна сцвярджаюцца як самабытны народ, забяспечваюць яму права быць нацыяй-"арыгіналам", а не нейкай бесхрыбетнай, безаблічнай дрэннай копіяй чужога. Копія, вядома, заўсёды саступае арыгіналу. Зняможаныя, але непераможаныя ні ўчора, ні сёння беларусы не былі і не ёсць адзіны з рускімі народ. У кожнага з іх свае гісторыя, культура, мова, менталітэт, традыцыі. Але калі заўтра беларусы і рускія палітычна сальюцца ў адну дзяржаву, то карэннае насельніцтва Беларусі не будзе мець аніякіх перспектыў на самабытнае этнакультурнае існаванне ў той адзінай дзяржаве. Яно бясследна растворыцца ў імперыі, як гэта ўжо даўно сталася з рознымі народнасцямі на неабсяжнай тэрыторыі Расіі.

У сваіх разважаннях і кіруюся толькі ісцінай, жаданнем паказаць, што пры ўсёй блізкасці ў гісторыі, культуры, побыце, мове, рэлігіі ў беларусаў і рускіх ёсць шмат чаго адрознага, але што само па сабе ні ў якім выпадку не павінна быць перашкодай для цеснага супрацоўніцтва ва ўсіх сферах дзейнасці. Але - толькі не дзеля зліцця ў адной дзяржаве і згубы сваёй.

Ігнараванне ж уладамі свайго беларускага інтарэсу цалкам супярэчыць стаўленню сучаснай сусветнай цывілізацыі да міжнацыянальных працэсаў. Моцна занепакоеныя разбуральнымі праявамі глабалізацыі, прагрэсіўныя міжнародныя арганізацыі ідуць на рашучыя крокі дзеля захавання на планеце Зямля разнастайнасці культур і моў, а разам з тым і этнічных супольнасцяў. У прынятай ЮНЕСКА 3 лістапада 2001 года "Сусветнай Дэкларацыі культурнай разнастайнасці" падкрэсліваецца вялікая адказнасць дзяржаў за захаванне і падтрымку такой разнастайнасці, "якая з'яўляецца крыніцай бесперапыннага развіцця чалавецтва".

Наша ж дзяржава арыентуецца найперш на Маскву, зыходзіць з інтарэсаў дашчэнту зрусіфікаваных чыноўнікаў, маніпулюе стаўленнем грамадзян да сваіх прыродных духоўных каштоўнасцяў. У найбольшай ступені гэта праявілася пры правядзенні майскага рэферэндуму 1995 года, якім фактычна была паўторана прынятая яшчэ ў 1696 годзе, за часамі Рэчы Паспалітай, пастанова аб выцясненні беларускай мовы са службовага справаводства на ўсёй тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага.

Калі ў нашай краіне нацыянальна-культурнае жыццё будзе будавацца ў поўнай адпаведнасці з інтарэсамі яе карэннага насельніцтва, ніхто не адважыцца адмаўляць яму ў этнічнай самабытнасці. Нашы папярэднікі ўжо ў 80-я гады XIX ст. выказвалі разумныя думкі па дадзенай праблеме: Гістарычны прагрэс заключаецца ў тым, - чытаем у Зборніку "Публіцыстыка беларускіх народнікаў", - што чалавецтва, уваходзячы ўсё ў больш і больш блізкую повязь, у той жа час дыферэнцыруецца для вольнага развіцця і праяўлення ўсялякай нацыі ў цэлым чалавецтве... Без усведамлення сваёй асобы кожным чалавекам народ быў бы быдлам; без усведамлення сваіх адметнасцяў кожным народам такім быдлам было б усё чалавецтва. Гісторыя чалавецтва заключаецца акурат у тым, што з першапачатковай абыякавасці дзікіх народаў выдзяляюцца асобы народаў гістарычна цывілізаваных".

З гэтым немагчыма не пагадзіцца.

***********************************************

**НАШУ ГАЗЭТУ ЧЫТАЮЦЬ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ЎМЕЮЦЬ І ХОЧУЦЬ ДУМАЦЬ...**

# Сакрэт 114-гадовай Ганны Рагель:

«Я нікому за ўсё жыццё благога слоўца не сказала, ні старэнькаму, ні маленькаму»

Жыла сабе Ганна Рагель, жыла і не думала, што на старасці гадоў стане вядомай не толькі ў Маладзечне (месцы свайго цяперашняга пражывання), але і на ўсю рэспубліку. Ганна Паўлаўна — адна са старэйшых жыхароў свету, ёй зараз 114 гадоў.

Раптоўная цікаўнасць да яе сціплай асобы з боку журналістаў крыху бянтэжыць бабульку: і чаго яны панаязджалі? Але як бы ні заміналі ёй нечаканыя госці, зваліўшыся як снег на галаву (тэлефона ў хаце няма), Ганна Паўлаўна заўсёды сустракае іх гасцінна і ветліва.

Нельга не заўважыць, што для свайго паважанага ўзросту гаспадыня выглядае надзіва жвавай і актыўнай. Больш за ўсё ўражваюць яе вочы — не па-старэчы блакітныя, чэпкія, «з агеньчыкам».

Нарадзілася Ганна Паўлаўна ў 1889 годзе ў вёсцы Белыя Маладзечанскага раёна ў сям'і заможных сялян. «Бацькі ў мяне былі добрыя, — узгадвала бабулька. — Матка Альжбеткай звалася, бацька — Павел, Паўлюк на-нашаму. Зямля ў нас была, свая зямелька — тады ж Саветаў яшчэ не было. Добра жылі. Зараз ужо нікога няма — ні брата, ні свата, ні сястры (у сям'і Альжбеты і Паўлюка было чацвёра дзяцей. — Аўт.), толькі адна я засталася».

«Замуж я пайшла ў Дубіну-Баярскую, — бабулька зноў пераключаецца на прыемныя ўспаміны маладосці, — за каваля, высокі быў, прыгожы. Хораша мы жылі, добра зараблялі. Вы ж ведаеце, хто такі на вёсцы каваль. Каваля людзі цанілі і паважалі. Хто што ні прынясе — усё зробім у лепшым выглядзе. Заказаў многа было». У Дубіне-Баярскай Ганна Паўлаўна не толькі вяла гаспадарку і выхоўвала дзяцей, але і дапамагала мужу ў кузні. «А як жа! — ажыўляецца бабулька. — Біла молатам во з гэтага пляча — Ганна Паўлаўна прадэманстравала, якія ў яе раней былі біцэпсы. — Мяхі раздзімала. Удваіх з мужам і хатку паставілі — хацелі жыць, дык вось і стараліся працаваць». Малодшая дачка Ганны Паўлаўны, якая зараз даглядае старую, пенсіянерка Людміла Аляксандраўна дадала: «Маці казала, што ў яе было многа хлапцоў, але кахала яна толькі аднаго, нашага бацьку». Між тым, Ганна Паўлаўна працягвала паглыбляцца ў сваё жыццё: «Мужык мой гарэлкі не піў — на людзей не глядзеў. І жылі мы з ім добра, адзяваліся, елі, а тады, як вайна прыйшла, — во гэта стала...»

Ганна Паўлаўна перажыла тры вайны: першую сусветную, грамадзянскую і Вялікую Айчынную. Самай цяжкай была апошняя, яе зараз і ўзгадвала мая суразмоўца: «Бамбілі нас. Усё чыста пагарэла — і хатка, і хлеў і скацінка. Самі хаваліся ў зямлянцы».

Пасля вайны Ганна Паўлаўна спачатку працавала ў кузні мужа, потым пайшла паляводам у мясцовы калгас «Радзіма». У 1965-м выйшла на пенсію, засяродзілася на хатняй гаспадарцы: гадавала карову, парсючкоў, куранят, завіхалася на агародзе. Сядзець без справы яна не магла. Пасля смерці мужа (якому ўжо было за 80), удава Рагель перабралася да сваёй малодшай дачкі ў Маладзечна, дзе за год удзвюх яны зладзілі новы цагляны дом.

Маладзечанская гаспадарка Ганны Паўлаўны не саступае дубіна-баярскай: парсючкі, куры, дзве козачкі і кацяня не даюць гаспадыням сумаваць. Мяса, яйкі, малако, бульбачка, цыбуля — у доме заўсюды ёсць чым прывеціць гасцей, што на стол сабраць. «Ну як жа сядзець рукі склаўшы? — здзіўляецца старэйшая Рагель. — Я люблю, каб у гаспадарцы заўсёды ўсё было: і свінкі, і козачкі. Я з гэтым жыла, з гэтым і памру. Хаця я цяпер мала раблю — старая стала, толькі пагляджу, усё робіць дзяўчына (дачка Людміла Аляксандраўна)... Калі б усе так працавалі, як мы, — працягвала бабуля, — дзяржава пайшла б угору! А то, глянь, ніхто рабіць не хоча, толькі гарэлку піць ды каля плота валяцца — вось і ўсе жаданні».

Чарачку Ганна Паўлаўна не паважае: не-не. А вось ва ўсім астатнім ніякай дыеты не прытрымліваецца: любіць і бульбачку, і бурачкі, і капустку. «Макарончыкаў зварым паядзім, булёнчыку смачнага... Ем я ўсё што ёсць, і нічога мне не перашкаджае. Дзякуй Богу, колькі гадоў жыла, ні разу хворая не была, ніякай хваробы не ведала». Адзінае толькі засмучае Ганну Паўлаўну — пачала забывацца на пэўныя падзеі і імёны.

Сакрэт свайго даўгалецця мая суразмоўца тлумачыць вельмі проста: «Я нікому за ўсё жыццё благога слоўца не сказала, ні старэнькаму, ні маленькаму. Усё жыццё працавала і дзяцей гэтаму навучыла... Зараз прашуся ў Бога, каб ён даў яшчэ 10 гадкоў на гэтай зямельцы пажыць».

Гутарыла Інга МІНДАЛЁВА.(Звязда)

*****************************************************

*СВАБОДУ НЕ ВЫМОЛЬВАЮЦЬ ці ВЫПРОШВАЮЦЬ, а СІЛАЮ ЗАВАЁЎВАЮЦЬ!!!*

## Дарагія Сябры і Прыхільнікі!

Гадавы С Ь П І С ахвярадаўцаў, якія выдатна дапамаглі ў выданьні "Беларускага Дайджэсту". God bless You All!

**Усім Вялікае Дзякуй!**

| | |
|---|---|
| Др. Уладзімір Набагез | $400.oo |
| Праф. Томас Бірд | $300.oo |
| Пятро Шыркоўскі (Англія) | $250.oo |
| Др. Мацьвей Б. Смаршчок | $240.oo |
| Сыльвэстар Будкевіч (Англія) | $200.oo |
| Кацярына і Яраслаў Вініцкія | $200.oo |
| Славік Шабовіч | $150.oo |
| Уладзімер Ракуць | $150.oo |
| Пятро Касаты | $120.oo |
| Юзэфа Найдзюк | $120.oo |
| Якуб Сапежынскі | $100.oo |
| Др. Язэп Сажыч | $100.oo |
| Надзя і Др. Ян Запруднік | $100.oo |
| Арсень Монід (Канада) | $100.oo |
| Міхась Каленік | $100.oo |
| Зоя Жэлезоўска (Бэльгія) | $100.oo |
| Мікола Сьнежка | $100.oo |
| Мікола Грэбень | $100.oo |
| М. Кухарчык (Канада) | $100.oo |
| Лёнгіна Брылеўская | $100.oo |
| Жорж Наўмчык | $90.oo |
| Віталі Кажан | $90.oo |
| М. Баяроўскі (Англія) | $82.oo |
| Элеонора Норык | $80.oo |
| Паўло Бурдзь (Канада) | $80.oo |
| Кастусь Вайцяхоўскі | $75.oo |
| Надзя Касмовіч (Нямеччына) | $70.oo |
| А. Сенька (Англія) | $66.oo |
| Др. Барыс Рагуля (Канада) | $63.oo |
| Марыя Гаўрылюк (Канада) | $60.oo |
| Міхась і Тамара Белямук | $60.oo |
| Галіна Руднік (Нямеччына) | $50.oo |
| Др. Марыя Дэмковіч | $50.oo |
| Алекс Сільвановіч | $50.oo |
| Георг Касьцюкевіч | $50.oo |
| Вольга Грыцук (Канада) | $50.oo |
| Лявон Кавалёў | $50.oo |
| Астап Ярахові̌ч | $50.oo |
| Мікола Касьцюк | $50.oo |
| Аўген Завістовіч | $50.oo |
| Юлія Андрусышын | $50.oo |
| Яніна Каханоўска | $50.oo |
| Кастусь Маталыцкі | $50.oo |
| Анна Брушкевіч | $50.oo |
| Уладзімір Русак | $50.oo |
| Анна Жызьнеўска | $50.oo |
| Багдан Паўк | $50.oo |
| Міхась Раецкі (Аўстралія) | $50.oo |
| Жэня Сідлярэвіч (Аўстралія) | $50.oo |
| Аўген Груша (Аўстралія) | $50.oo |
| Вітаўт Рамук | $50.oo |
| Волтэр Сітнік | $50.oo |
| Алекс Захаркевіч | $50.oo |
| Ванкарэм Нікіфаровіч | $50.oo |
| М. Швэдзюк (Англія) | $49.oo |
| М. Залога (Англія) | $49.oo |
| О. Зынгель (Англія) | $49.oo |
| М. Мароз (Англія) | $49.oo |
| М. Дзейко (Англія) | $49.oo |
| В. Еўдакімаў (Англія) | $49.oo |
| Л. Міхалюк (Англія) | $49.oo |
| Валентына Яцэвіч | $45.oo |
| Надзя Барт-Юрэвіч (Нямеччына) | $40.oo |
| Віталі Церпіцкі | $40.oo |
| Міхась Бахар | $40.oo |
| Анатолі Колбун | $40.oo |
| Ніна Кіт | $40.oo |
| Таня Кананчук | $40.oo |
| Паўло Алексы | $40.oo |
| Ніна Дудар | $35.oo |
| Пятро Нягода | $35.oo |
| Дж. Дыеглей (Англія) | $33.oo |
| Люба Корчык | $30.oo |
| Ян Шыбут | $30.oo |
| Юрка Рэпэцкі (Канада) | $30.oo |
| Анатоль Пранцкевіч | $30.oo |
| Барыс Данілюк | $30.oo |
| Васіль Шчэцька | $30.oo |
| Ванда Мазуро | $30.oo |
| Леў Стагановіч | $25.oo |
| Валентына Ваксэліс | $25.oo |
| Міхась Шэбеко | $25.oo |
| Васіль Васільеў | $25.oo |
| Янка Каваленка | $20.oo |
| Антон Маркевіч (Канада) | $20.oo |

Паважаныя чытачы!

Існуе магчымасьць, што па закрыцьці гэтага № газэты, прыбудуць спозьненыя ахвяраваньні на Выдавецкі Фонд. Яны будуць зьмешчаныя ў наступным № нашае газэты. Загадзя перапрашаем за няўвязку...

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Беларусазнаўца з Англіі

У навукова-метадычным цэнтры «Слоўнік» Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта вядзецца праца па стварэнні новага беларуска-англійскага і англійска-беларускага слоўніка. Разам са спецыялістамі лінгвістычнага універсітэта ў стварэнні слоўніка ўдзельнічае доктар Пітэр Мэё – вядомы англійскі славіст, доктар філалогіі, выкладчык Шэфельдскага універсітэта і універсітэта горада Эксетэр у Англіі. Спадар Мэё пагадзіўся даць інтэрв'ю аб сваёй працы ў Беларусі.

– Спадар Пітэр, з чаго пачалося Вашае захапленне беларускай мовай?

– Гэта доўгая гісторыя. Каб усё распавесці, не хопіць часу. Першы раз у Беларусь я прыехаў у 1974 годзе з групай студэнтаў. Да гэтага быў у Расіі. У той час я і зацікавіўся беларускай мовай. У нас ва універсітэце галоўным чынам даводзілася выкладаць рускую мову. Але калі я выдаў параўнальную граматыку славянскіх моў, пачалося маё больш глыбокае даследаванне менавіта беларускай мовы. У 1976 годзе ў Англіі пабачыла свет кніга «Граматыка беларускай мовы» за маім аўтарствам. Пасля гэта праца і мой інтарэс працягваўся.

У 1991годзе я наведаў Міжнародны кангрэс беларусістаў, дзе меў магчымасць пазнаёміцца са спецыялістамі з Мінскага лінгвістычнага універсітэта. Але супрацоўніцтва мы пачалі толькі ў 1993 годзе, калі мы разам працавалі над кішэнным руска-беларуска-англійскім слоўнікам.

Я прачытаў першы такі слоўнік, што быў на той час ужо выдадзены. Не тое, што ён мне не спадабаўся, ці я яго крытыкаваў, але мы яго абмеркавалі... І зразумелі, што нам трэба працаваць разам. Я рэдагаваў англійскую частку гэтага выдання.

– Якія літары вы вядзеце ў новым слоўніку?

– Гэта літары «Д» і «Е» і ў дадатак агульнае рэдагаванне англійскай часткі.

– Калі плануецца заканчэнне працы?

– Мы даўно працуем над слоўнікам. І тут не ўсё ад нас залежыць. Падрыхтаваць чарнавы варыянт для рэцэнзента, для ўнутранага выдання мы будзем імкнуцца ў снежні ці студзені. Ну, а як далей усё будзе рухацца, гэта залежыць не ад нас.

– Вы сказалі, што выдалі параўнальную граматыку славянскіх моваў. Што гэта за праца?

– Усяго для напісання я выкарыстаў адзінаццаць славянскіх моў. Але гэта тэарэтычная, а не практычная праца. Маёй мэтай было параўнаць розныя славянскія мовы паміж сабой.

– Раскажыце, калі ласка, пра Шэфельдскі універсітэт, дзе вы працуеце.

– Зараз я ўжо знаходжуся на пенсіі. Трыццаць год я працаваў у Шэфельдскім універсітэце, які знаходзіцца на поўначы Англіі. У Шэфелдзе я адзіны спецыяліст па беларускай мове, у Лондане ёсць яшчэ чалавек, напрыклад, вядомы ў Беларусі прафесар МакМілан. Нельга сказаць, што сярод нашых студэнтаў беларуская мова вельмі папулярная. Нават рускай не вельмі цікавяцца ў параўнанні з французскай ці нямецкай. Проста такая ў нас традыцыя. Самая папулярная замежная мова сярод студэнтаў французская, на другім месцы нямецкая, а потым, мабыць, іспанская. Толькі маленькія групы студэнтаў цікавяцца іншымі мовамі. Усё ж такі, я лічу, гэта важна, што цікавіцца хоць невялікая колькасць.

– Ці падабаецца вам у Беларусі?

– І падабаецца, і не падабаецца. Мне падабаецца, што не згубілі тут нечага, што я адчуў нават з першай паездкі. У параўнанні з Масквой тут існуе спакой. Я ў Беларусі адчуваю сябе як дома. А што не падабаецца - мне здаецца, што за апошнія два гады тут з'явіліся не зусім добрыя заходнія аспекты жыцця. З Захаду ў Беларусь прыйшло не толькі станоўчае, але і тое, што называецца «адваротны бок манеты». Ёсць і добрае, і ёсць не зусім добрае.

*****************************************************






*Сьв. Памяці*

Мы даведаліся з беларускае прэсы, што ў Аўстраліі памёр Міхась Раецкі. Быў ён вялікім беларускім патрыётам і змагаром за вольную і незалежную Беларусь. Чытаў і ўспамагаў нашу газэту..

**Вечная Памяць!**

## *Нам Пішуць...*

...Уся гісторыя Беларусі за апошнія 200 гадоў — гэта фактычна гісторыя затоптваньня ў балота ўсяго беларускага. Расстрэл інтэлектуальных элітаў Беларусі пачаўся ў XIX веку і не спыніўся да сёньня. Людзей, якія могуць павярнуць народ у патрэбным напрамку, зьнішчалі або фізычна, або маральна. Асабліва жуткім быў расстрэл людзй, якія пісалі на беларускай мове. У 30-я г. у Беларусі расстралялі амаль 400 пісьменьнікаў, у Расеі — амаль 400 і на Ўкраіне — амаль 400. Але-ж Расея была ў 15 разоў насельніцтвам большаю, а Ўкраіна — у 5 разоў! Наша эліта панесла сур'ёзныя страты. Цяпер засталіся толькі фрагменты той эліты. Бяда ў тым, што яны цудоўныя інтэлігенты, але вельмі слабыя манаджэры...

## Сьвяткаваньне Слуцкага чыну ў Лёндане, Англія.

22 лістапада 2003 г. Згуртаваньне Беларусаў у В-Брытаніі адсьвяткавала 83-ю гадавіну Слуцкага Паўстаньня. а. А. Надсон у царкве сьв. Апосталаў Пятра і Паўла адслужыў жалобную Багаслужбу за ўсіх тых паўстанцаў, якія загінулі з рук акупантаў у змаганьні за Незалежнасьць Беларусі.

У сваёй рэлігійна-патрыятычнай казані Айцец падкрэсьліў важнасьць гэтай гістарычнай падзеі, якая павінна быць не забытаю і служыць як прыклад патрыятызму для цяперашняга беларускага пакаленьня.

Пасьля перапынку ў залі Рэлігійна-Культурнага цэнтру, сп-я Л. Міхалюк— старшыня Ўправы ЗБВБ — афіцыйна адкрыла акадэмію прысьвечаную Слуцкім падзеям. Яна прывітала вялікую грамаду прысутных ды таксама гасьцей з Беларусі — гісторыка і пісьменьніка Ўладзімера Арлова і артыста-пісьменьніка Зьміцера Бартосіка.

Хвілінай маўчаньня прысутныя ўшанавалі памяць загінуўшых, пасьля чаго сп. М. Пачкаеў з нагоды дня прачытаў прывітаньні з розных краін сьвету.

Рэфэрат пра Слуцкае Паўстаньне прачытаў сп. У. Арлоў. Ён вельмі вобразна расказаў пра тагачасныя падзеі і іх гістарычнае значэньне. На пытаньне, ці сьвяткуецца гадавіна Слуцкага Паўстаньня ў Беларусі, сп Арлоў адказаў, што ў восень на дзяды ў месцах дзе праходзілі баі людзі гэтую гадавіну ўспамінаюць. На пытаньне, што сталася з тымі паўстанцамі, якія засталіся жывымі, сп. Арлоў адказаў, што большасьць з іх была расстраляная або вывезена ў сібірскія лягеры.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем прысутнымі нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Канцэртную частку сьвяткаваньня запоўніў сп. Зьміцер Бартосік. Ён прасьпяваў многа песьняў пра слуцкія падзеі і цяперашняе жыцьцё ў Беларусі. Яго выкананьне песень аўдыторыя вітала гучнымі апладысментамі. У канцы канцэрту сп-я Міхалюк ад імя Ўправы ЗБВБ уручыла гасьцям падаркі.

С-ня Міхалюк таксама паведаміла прысутным, што наступны дзень 23 лістапада спаўняецца 45-я гадавіна сьвятарства а. Надсона. З гэтае нагоды і яму прыпанесьлі падарак. Прысутныя гучна адсьпявалі Айцу "Доўгія гады, доўгія гады плённага жыцьця".

Сяброўкі ЗБВБ прыгатавалі багаты пачастунак. Пры чарцы віна і добрай закусцы хутка праляцеў час і трэба было разязджацца дамоў.

Сыльвэстар Будкевіч.

## І ў Аўстраліі — Ўрачыстае сьвяткаваньне Слуцкага Збройнага чыну.

У нядзелю 7-га сьнежня 2003 г. Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі супольна з парафіяй БАПЦ — сьв. Віленскіх Мучанікаў адзначылі 83-я ўгодкі Слуцкага Збройнага змаганьня. Айцец Аляксандар Кулакоўскі адслужыў літургію і пасьля ўсе прысутныя перайшлі ў прыцаркоўную залю, каб належна адзначыць гэты слаўны дзень, дзень беларускіх змагароў Случчыны.

Старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі сп. Алег Шнэк прывітаў усіх прысутных і запрапанаваў хвілінай цішыні ўшанаваць памяць адыйшоўшых ад нас назаўсёды: сп. Паўла Гуза, сп-ю Эмілію Шнэк, сп. Міхася Раецкага і матушку Вольгу Бурнос.

Сп. А. Шнэк зачытаў надасланыя прывітаньні і за тым сп. Янка Барысевіч прачытаў прынагодны рэфэрат на тэму дня, а А. Шнэк прачытаў дадатак да рэфэрату, рысуючы палітычную сытуацыю ў Усходняй Эўропе.

Аўген Груша прадэклямаваў верш аб Слуцкіх змагарах і затым усе прысутныя ўсталі і прасьпявалі Беларускі Нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Пасьля агульнага пачастунку сп. А. Шнэк падзякаваў усім прысутным за ўдзел у сьвяткаваньні.

Алег Шнэк, старшыня БЦКВ.

*******************************************************

## Адам Мальдзіс: «Прах кампазітара Міколы Равенскага павінен быць перавезены на Радзіму»

Старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, вядомы беларускі літаратар Адам Мальдзіс лічыць, што прах кампазітара Міколы Равенскага, аўтара гімна «Магутны Божа», павінен быць перавезены на радзіму. Ён паведаміў, што «магіла кампазітара ў цяперашні час знаходзіцца ў Бельгіі ў горадзе Лювен». Паводле інфармацыі беларусіста, зямельны ўчастак, на якім пахаваны аўтар духоўнага гімна беларускай нацыі, быў аплачаны на тэрмін 50 гадоў, які заканчваецца ў гэтым годзе. Як удакладніў А. Мальдзіс, па існуючых у Бельгіі законах, «у выпадку няўплаты за зямельны ўчастак надмагільны помнік і магіла беларускага кампазітара могуць быць дэманціраваны, і на яе месцы будзе новае пахаваньне».

А. Мальдзіс нагадаў, што твор М. Равенскага «Магутны Божа» разглядаўся як адзін з варыянтаў музыкі дзяржаўнага гімна Беларусі. Неабходна стварыць у Беларусі «пантэон вядомых беларускіх пісьменнікаў, прах якіх у цяперашні час пахаваны за мяжой». Прах аўтара першай «Беларускай граматыкі для школ» Браніслава Тарашкевіча знаходзіцца ў Расіі, магіла пісьменніка Алеся Гаруна — у польскім Кракаве. Усяго за межамі Беларусі пахавана больш за 100 вядомых беларускіх пісьменнікаў.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Няўжо дэмантуюць помнік Ларысе Генiюш?

Сяргей ЧЫГРЫН

Сёлета 29 лістапада на тэрыторыі Троіцкай царквы ў Зэльве адкрылі помнік выдатнай беларускай паэтцы Ларысе Геніюш (1910—1983). Дазвол на гэта даў Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. На ўрачыстасць у Зэльву прыехала творчая інтэлігенцыя з Мінска, Гродна, Слоніма і іншых гарадоў Беларусі, а таксама сьвятары, якія асвяцілі гэты помнік.

Помнік Ларысе Геніюш зрабіў скульптар Міхась Іңькоў даўно. Але дазволу на яго ўстаноўку ў Зэльве не давалі ні мясцовыя ўлады, ні аблвыканкам. Няхай лепш у цэнтры Зэльвы стаіць помнік Леніну, які ўжо з гадамі стаў больш падобны на іншапланецяніна, чым на "вождя мирового пролетариата", — але толькі не слыннай зямлячцы. Тым не менш помнік насупраць хаты, дзе жыла паэтка, устанавілі. Не за гарамі той час, калі і вуліца ў Зэльве будзе насіць яе імя, а таксама заснуюць музей Ларысы Геніюш і ўсталююць яшчэ некалькі помнікаў і мемарыяльных шыльдаў.

Аднак мінула трохі больш за тыдзень, як у аўторак у рэдакцыю нашай газеты патэлефанавалі зэльвенцы і сказалі, што ў мясцовы райвыканкам паступіла распараджэнне з аблвыканкама, каб у бліжэйшы час дэмантаваць помнік Ларысе Геніюш. Маўляў, яе яшчэ не рэабілітавалі, а значыць, яе нельга ўшаноўваць. Карэспандэнт "ГС" звязаўся з Гродзенскім аблвыканкамам. Памочнік намесніка старшыні аблвыканкама Марыі Біруковай Іван Калбаска сказаў, што пра гэта ён нічога не ведае. Тым не менш, як стала вядома карэспандэнту "ГС", Марыя Бірукова была ў Зэльве ў пятніцу, 5 снежня, і сустракалася са старшынёй Зэльвенскага райвыканкама Леанідам Эльяшэвічам і яго намеснікам па ідэалагічнай рабоце Аленай Коўш. Што гаварылася падчас гэтай сустрэчы наконт помніка Ларысе Геніюш, Алена Коўш карэспандэнту "ГС" не сказала. "Ніхто не ведае, пра што вялася наша гутарка, — паведаміла па тэлефоне Алена Вацлаваўна. — Але пытанне наконт помніка Ларысе Геніюш мы вывучаем. Так, як яго ўстанавілі ў Зэльве, рабіць нельга. Тым больш што і ветэраны да мяне ўжо звярталіся з пытаннем, чаму паставілі помнік Ларысе Геніюш, якую яшчэ не рэабілітавалі. А тут раптам ціха з'яўляецца помнік каля царквы ў Зэльве. І калі яго ўстанаўлівалі, нават не ведаў пра гэта мясцовы святар, бо два дні ён адсутнічаў. І дазволу Філарэта на ўстаноўку помніка я не бачыла. Таму, які лёс чакае помнік ў бліжэйшы час, я адназначна сказаць не магу", — адзначыла спадарыня Коўш.

З кампетэнтных крыніц стала вядома, што зэльвенскія чыноўнікі атрымалі загад дэмантаваць помнік Ларысе Геніюш у Зэльве. Тым не менш пажывем — пабачым. І калі такое здарыцца, дык гэта будзе ганьба не толькі для зэльвенскага начальства, але і для ўсёй Беларусі. Бо пасля помнікаў Сталіну на беларускай зямлі нічых помнікаў не дэмантавалі, а тым больш нашым народным паэтам.

*******************************************************

## Ёсьць і такія беларусы

Яму 62 гады, ён глухі і нямы, але ён, механік-пенсіянер з Беларусі, упарта ажыцьцяўляе сваю запаветную мару – падарожжа па ўсім сьвеце на матацыкле. Перад тым як трапіў у аварыю каля Пеоры, штат Ілінойс, Уладзімер Ярац праехаў 70 тысячаў міляў па дарогах 29 краінаў і ўсіх 50 штатаў ЗША на сваёй старэнькай "Яве-350" чэшскай вытворчасьці. Матацыкл Яраца сутыкнуўся з вялізным тракам, і толькі цудам апантаны Уладзімер застаўся жывы.

У яго няма медыцынскай страхоўкі, ён не чытае па-ангельску, выкарыстоўвае дзеля зносін мову жэстаў, якая адрозьніваецца ад той, што карыстаюцца глуханямыя ў Амэрыцы. Аднак ён адразу трапіў у шпіталь St. Francis Medical Center у Пеорыі. Амерыканскае нацыянальнае таварыства матацыклістаў сабрала грошы на яго лячэньне і знаходжаньне ў Амэрыцы, абвясьціла па Інтэрнэце пра тое, што здарылася, і цяпер зьбірае грошы, каб купіць Ярацу новы матацыкл.

Асобныя матацыклісты і члены матаклюбаў, такіх як "Chicago Russian Riders", "Sons of Thunder Motorcycle Ministry" (хрысьціянская арганізацыя ў Нормал, Ілінойс) ды іншыя таксама сабралі грошы, купілі Уладзімеру Ярацу вопратку і рэгулярна наведваюць яго ў шпіталі. "Матацыклісты – гэта людзі, якія заўсёды аб'ядноўваюцца, калі гэта неабходна, – гаворыць Джым Уінтэрэр, мотааматар, які працуе ў Мінесоцкім універсітэце. – Мы спадзяемся, што Ярац зможа працягваць сваё сусьветнае падарожжа і нават пабіць усе рэкорды. А мы пастараемся дапамагчы яму ў гэтым".

З дзіцячых гадоў Уладзімер Ярац марыў зьдзейсьніць падарожжа вакол сьвету. Ён заўсёды любіў геаграфію і чытаў шмат кнігаў пра падарожжы. У 1965 годзе ён купіў матацыкл, аднак дзяржаўтаінспекцыя савецкай Беларусі адмовілася выдаць яму пасьведчаньне кіроўцы матацыклу. Але Ярац не здаўся і вырашыў спачатку без лайсензу аб'ехаць увесь былы СССР.

Ад заходняй мяжы да Магадану – неабсяжныя аблегласьці праехаў тады Уладзімер Ярац. Аб ім і яго падарожжы пісалі газэты. Вярнуўшыся на радзіму, ён, як выключэньне, атрымаў нарэшце пасьведчаньне кіроўцы.

З таго часу Уладзімер Ярац аб'ехаў усю Еўропу, Канаду, Злучаныя Штаты, Карыбскія астравы. У сваіх падарожжах ён заўсёды знаходзіў добрых людзей, што гасьцінна прымалі яго і дапамагалі грашыма. На Кубе ён трапіў у турму і правёў там тры месяцы, бо былі недакладна афармлены дакумэнты на ўезд у гэту краіну.

Ягоны сын, што жыве на Беларусі, таксама Уладзімер, у тэлефоннай размове сказаў журналісту Расэлу Уоркінгу: "Гэта ў бацькі моцнае захапленьне, быццам яму такое наканавана. Ён робіць усё гэта не дзеля грошай і не дзеля славы. Проста ён хоча бачыць болей. Відаць, нейкі малы д'ябал сядзіць у ім і не дае яму спакою".

Перад гэтым здарэньнем Ярац прымаў удзел у матацыклетным туры вакол Амэрыкі – Iron Butt Competition. На яго матацыкле падчас спаборніцтваў вісеў плякат: "Я хачу ўвайсьці ў кнігу рэкордаў Гінеса як адзіны ў сьвеце глуханямы, што зьдзейсьніў на матацыклу падарожжа вакол сьвету".

У шпіталі ў Пеорыі медсястра расказвае, што вельмі нялёгка было разумець Яраца, які пасьля аварыі быў у даволі цяжкім стане. Давялося зьвярнуцца за дапамогай да спецыяльнай інтэрнэтаўскай праграмы перакладу, вывучаць жэсты Уладзімера, вывучыць асобныя рускія словы і пісаць яму іх...

Уладзімер Ярац нядаўна выпісаўся са шпіталю, яго перавялі ў рэабілітацыйны цэнтр. Калі хто-небудзь захоча дапамагчы апантанаму беларускаму падарожніку, усю неабходную інфармацыю можна атрымаць на ягоным персанальным сайце ў Інтэрнэце: www.carinbridge.com/il/vladimir/.

(Па матэрыялах "Chicago Tribune"). В. Н.

Беларус звычна думае, што калі рускі гаворыць на рускай мове — ён рускі патрыёт, калі беларус гаворыць на рускай мове — ён шчыры інтэрнацыяналіст, а калі беларус гаворыць на беларускай мове — то ён заўзяты нацыяналіст. Варта беларусу памятаць, што быць нацыяналістам, шмат прыямней, чым быць савецкім інтэрнацыяналістам...